26 мая 2017 | № 20 (534)

Новы Час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Украінскае эмбарга — шчасце беларусаў стар. 4

5 СЦІПЛЫ РЫЦАР АЛЕСЬ ЯЎДАХА



Адно з улюбёных Алесевых словаў — «кшталцавацца» — самаўдасканальвацца. Менавіта праца над сабой — ягоны шлях: у бізнесе, спорце, стасунках

6 «ГАДАВАЦЬ СЫНА МНЕ Ў АСАЛОДУ»



Ужо некалькі дзён Алесь Лагвінец спрабуе сябе ў ролі «таты ў дэкрэце»

7–18 Літаратурная Беларусь

22–23 «ТОЙ ДОЎГ ШМАТ ХТО НЕ СПЛАЦІЎ»

Аднаму з найбольш вядомых беларускіх эмігрантаў, грамадскаму дзеячу, аўтару кнігі «Беларусы ў ЗША», доктару Вітаўту Кіпелю 30 мая спаўняецца 90 гадоў

# Нам неабходна ваша падтрымка!



Аксана КОЛЬБ

**Шаноўныя чытачы, дзесяць гадоў большасць з вас атрымлівала «Новы Час» бясплатна. У нас была такая магчымасць, і мы з задавальненнем дзяліліся з вамі тым лепшым, што маглі даць: родным словам і цікавымі артыкуламі.**

На жаль, цяпер мы вымушаны спыніць такую практыку. З ліпеня газета «Новы Час» па Беларусі будзе распаўсюджвацца толькі па падпісцы. А ў Мінску і Мінскай вобласці — па падпісцы праз РУП «Белпошта» і праз шапікі РУП «Белсаюздрук».

Падпісацца на **«Новы Час» можна:** у аддзяленнях паштовай сувязі; праз сістэму «Інтэрнэт-падпіска»; пры дапамозе плацёжна-даведачных тэрміналаў. Таксама можна зрабіць заяўку ў любым аддзяленні паштовай сувязі на афармленне падпіскі паштальёнам у вас дома на ўсёй тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

Падпісны індэкс «Новага Часу» — **63279**.

Кошт падпіскі: на **1 месяц — 2 рублі 43 капейкі, на адзін квартал — 7 рублёў 29 капеек, на II паўгоддзе — 14 рублёў 58 капеек.**

Для таго, каб паспець падпісацца на II паўгоддзе, **засталося ўсяго некалькі тыдняў.** Афармленне і аплата падпіскі праз сістэму «Інтэрнэт-падпіска» на ліпень-снежань 2017 года праводзіцца **да 22 чэрвеня**.

Мы ведаем, што зараз у кожнага з вас не лепшыя часы, і нават некалькі рублёў з сямейнага бюджэту выдаткаваць цяжка. Аднак мы звяртаемся да вас, нашы самыя лепшыя і адданыя чытачы, бо без вас «Новы Час» не здолее выжыць. Мы не збіраем грошы на існаванне, мы проста просім вам падпісацца на вашу, спадзяемся, любімую газету.

**Падпішыцеся самі, прапануйце падпісацца суседзям і сябрам** — і разам з вамі мы адкрыем новую старонку ў жыцці газеты. Старонку салідарнасці і сяброўскай падтрымкі.

Са свайго боку абяцаем і надалей радаваць вас змястоўнымі палітычнымі і эканамічнымі матэрыяламі. Расказваць пра жыццё розных рэгіёнаў і актуальныя праблемы грамадства. Паведамляць пра падзеі блізкага і далёкага замежжа. А таксама заўсёды знаёміць з цікавымі старонкамі нашай гісторыі і выбітнымі асобамі Беларусі. Карацей, рабіць штотыдзень нашу працу сумленна і аддана. Як і ўсе дзесяць гадоў дагэтуль.

А таксама, як і дагэтуль, штомесяц радаваць вас сталым дадаткам «Літаратурная Беларусь», які працягне знаёміць вас з найлепшымі ўзорамі беларускай прозы і паэзіі, літаратурнай крытыкай і сучаснымі перакладамі.

Мы верым, што ўвесь гэты час недарэмна неслі да вас тое лепшае, што прапаноўвалі нашы аўтары. Што за гэты час паспелі сфармаваць у вас звычку да змястоўнага і вартага чытва. Што вы заўсёды чакалі чарговы нумар нашай з вамі газеты. Што трымалі ў руках «Новы Час» з задавальненнем і заўсёды знаходзілі для сябе, што пачытаць.

Мы спадзяемся, што ў гэты складаны для ўсіх час вы не адмовіцеся ад «Новага Часу», бо верыце, што разам мы дачакаемся лепшага.

З гэтай верай у лепшае мы чакаем вас, нашы будучыя падпісчыкі! А таксама паведамляем, што сярод першых 500 падпісчыкаў будуць разыграныя спецыяльныя падарункі ад рэдакцыі.

***Дзякуй, што былі з намі ўсе гэтыя гады! Дзякуй, што будзеце і далей!***



# Дашліце глыток свабоды Аляксею Жалнову

НЧ

**Акцыю салідарнасці і падтрымкі палітвязня Аляксея Жалнова пад хэштэгам #глыток свабоды распачала праваабарончая ініцыятыва Форум «Свабоду палітвязням Беларусі».**

Аляксей Жалноў (Мілюкоў), бароначы правы іншых, сам стаў ахвярай міліцэйскага гвалту і судовага свавольства.

«Давайце паспрабуем адчуць сябе на сённяшнім месцы Аляксея, — прапануюць арганізатары кампаніі #глыток свабоды. — Уявіце сабе закрытае памяшканне памерам 1.5 х 3.5 м; тут жа койка, рукамыйнік, прыбіральня... І вам тут наканавана знаходзіцца пэўны прамежак часу, некалькі месяцаў... аднаму... зусім аднаму. І толькі час ад часу кволенькі сонечныя праменьчыкі будуць перадаваць вам цяпло з волі, нагадваючы, што зараз вясна, усё абуджаецца, квітнее, жыве... Недзе там, за межамі вашых 1,5 х 3,5 м. Уявілі? Аляксей ужо правёў 3 месяцы ў такіх умовах. Калі адбудуцца змены, невядома».

Падзяліцеся вашым глытком свабоды! Дасылайце Аляксею Жалнову лісты і паштоўкі з улюбёнымі краявідамі ды вясновымі кветкамі і рабіце гэта не адзін раз, а да таго часу, пакуль вязень не здабудзе свабоду.

«Мы не можам, на жаль, хутка «разбурыць турмы муры», але не складзе вялікай цяжкасці для нас падзяліцца з Аляксеем кропелькай сваёй свабоды, кропелькай вясны, перадаўшы прывітанне за краты ў выглядзе паштоўкі з чароўнымі краявідамі, вясновымі кветкамі і чымсьці дарагім менавіта для вас. Паверце, для яго такая, здавалася б, драбяза будзе мець вялікае значэнне і вялікай падтрымкай будзе знак, што пра яго помняць, пра яго думаюць, — заклікаюць праваабаронцы. — Мы не просім пісаць вялікіх лістоў. Проста набудзьце ў сваім горадзе паштовачку з улюбёнымі мясцінамі альбо раздрукуйце на прынтары выяву з асабістай фотакалекцыі і дашліце Аляксею. Гэта не зойме шмат часу, але дапаможа зрабіць вялікую справу. Няхай калекцыя паштовак стане Аляксею нашым падарункам, нашай падтрымкай».

Напісаць ліст Аляксею Жалнову можна на адрас:

***213410, Магілёўская вобл. г. Горкі, вул. Дабралюбава, ІК-9, атр.11, Мілюкову Аляксею Алегавічу***



# Плошча імя Генадзя Карпенкі

**У Маладзечне стартуе кампанія за перайменаванне цэнтральнай плошчы ў гонар Генадзя Карпенкі.**

22 мая ў Маладзечне прайшла сустрэча сустаршыні Беларускай хрысціянскай дэмакратыі Віталя Рымашэўскага і лідара Хрысціянска-дэмакратычнага руху Вольгі Кавальковай з людзьмі, з якімі яны сядзелі ў ІЧУ Маладзечна, і з удзельнікамі маладзечанскага мітынгу недарамеадаў 10 сакавіка.

Усе ўдзельнікі пагадзіліся распачаць кампанію за перайменаванне цэнтральнай плошчы горада ў гонар былога кіраўніка Маладзечна Генадзя Карпенкі, за названне пабудаванага пры ім стадыёна ў яго гонар, а таксама за ўсталяванне на цэнтральнай плошчы замест помніка Леніну помніка Карпенку.

«Гэтая кампанія закліканая аб'яднаць усіх маладзечанцаў. Гэта не проста ўшанаванне памяці пра чалавека, але і замацаванне стандартаў стаўлення да людзей, якія паказалі прыклад працы на чале горада, якім павінны кіравацца ўсе дзеючыя і будучыя кіраўнікі гарадоў. Вельмі важна, каб на цэнтральных плошчах нашых гарадоў помнікі катам беларускага народа змяніліся помнікамі героям Беларусі», — адзначыў Віталь Рымашэўскі.

**bchd.info**

# Пракуратура абяцае разгледзець заяву пра катаванні

**Алесь Бяляцкі звярнуўся да генпракурора Беларусі Аляксандра Канюка з лістом, у якім просіць праверыць звесткі аб магчымых катаваннях затрыманых фігурантаў «справы патрыётаў» у вязніцах КДБ і міліцыі.**

«Як прадстаўнік праваабарончай супольнасці Беларусі, я вельмі занепакоены з'яўленнем інфармацыі аб магчымым выкарыстанні недазволеных метадаў у дачыненні да абвінавачаных у гэтай справе. Асабліва ўлічваючы той факт, што інфармацыя аб катаваннях у СІЗА КДБ, агучаная кандыдатам у прэзідэнты Алесем Міхалевічам, у свой час знайшла сваё пацверджанне», — сказана ў лісце Алеся Бяляцкага.

Пра катаванні фігурантаў «справы патрыётаў», былых актывістаў цяпер неіснуючай арганізацыі «Белы легіён», заявіў колішні кіраўнік «Белага легіёну» Сяргей Чыслаў (Бульба).

«Выпускаюць тых, хто ніякім чынам не ўпісваецца ў справу, шытую белымі ніткамі. І нават улічваючы тое, што ў дачыненні да хлопцаў прымяняліся катаванні ды псіхатропныя сродкі, следчыя органы не знаходзяць ніякіх нагодаў, каб аб'ядноўваць усё ў адзіную справу. Некалькі чалавек былі выпушчаныя паводле стану здароўя, і пасля пабояў яны там ледзь не памерлі, таму іх прадбачліва выпусцілі. Паводле нашай інфармацыі, у іх тэндэнцыя 6–7 чалавек затрымаць надоўга, а іншых, верагодна, будуць патроху вызваляць», — казаў Сяргей Чыслаў 19 мая на прэсавай канферэнцыі ў Кіеве.

Праваабаронца Алесь Бяляцкі, які таксама не выключае фактаў катавання фігурантаў «справы патрыётаў», у лісце да Аляксандра Канюка ў тым ліку спаслаўся на службовыя відэаздымкі пра затрыманага Мірослава Лазоўскага, паказаныя па БТ.

«Так, адзін з затрыманых у справе Міраслаў Лазоўскі, як вынікае з сюжэту, паказаным па нацыянальным тэлебачанні, падчас затрымання быў збіты, на твары былі сляды крыві і пабояў. Між тым, законнасць і неабходнасць прымянення да яго фізічнай сілы супрацоўнікамі міліцыі павінны строга адпавядаць патрабаванням дзейнага заканадаўства, не мець характару здзекаў і катаванняў», — лічыць Алесь Бяляцкі і заклікае Генпракуратуру прыняць па выніках праверкі захады пракурорскага ўздзеяння, каб падобнае больш не паўтаралася.

Атрымаць каментар наконт заяваў пра меркаваныя катаванні ў СІЗА КДБ ад прэсавай службы КДБ пакуль не ўдалося. Прэсавы сакратар МУС Канстанцін Шалькевіч на просьбу пракаментаваць звесткі пра меркаваныя катаванні фігурантаў справы «Белага легіёну» сказаў: «А чаго вы нам звоніце? Званіце ў пракуратуру. Будзе да нас зварот, будзем каментаваць».

Прэсавы сакратар пракуратуры Беларусі Пётр Кісялёў запэўніў карэспандэнта «Радыё Свабода», што «заява Алеся Бяляцкага ў законным парадку будзе разгледжаная».

**www.svaboda.org**

# Звальняюць за ліст у абарону мовы

НЧ

**Да Глеба Лабадзенкі звярнулася настаўніца мінскай гімназіі №4 Алена Лазоўская.**

«Мае дзеці навучаюцца ў 4-й гімназіі. Думаю, што вы ведаеце са справаздачаў Геніка Лойкі ў фэйсбуку, у якіх абставінах зараз вымушаны працаваць настаўнікі і як вынішчаецца мова з нашай школы, — піша жанчына. — Зараз мы збіраем подпісы бацькоў, але без дапамогі СМІ ўжо не абысціся. Я выкладаю чэшскую мову ў гімназіі, але тыдзень перад судом над Генікам Лойкам дырэктар мяне выклікаў, пагражаў і ў канцы размовы паведаміў, што збірае дакументы, каб Геніка адправіць у Навінкі. Тады я і пачала збіраць подпісы. Нехта данёс дырэктару, і той мяне звальняе. Прыкладаю наш ліст».

*Дырэктару гімназіі №4*
*г. Мінска*
*Гоцману А.М.*
*бацькоў вучняў гімназіі №4*
*г. Мінска*

ЛІСТ

*Мы, бацькі вучняў гімназіі №4 г. Мінска, просім спыніць выгнанне і фактычна вынішчэнне беларускай мовы, якое адбываецца ў сценах нашай гімназіі. Гімназія №4 — адзіная на ўвесь Фрунзенскі р-н беларускамоўная школа са статусам гімназіі. І мы, бацькі, свядома прывялі нашых дзяцей менавіта ў гэтую навучальную ўстанову, каб яны атрымлівалі веды на роднай мове. Для нас вельмі важна, каб працэс навучання, выхавання і зносінаў настаўнікаў з вучнямі і іх бацькамі адбываўся на роднай — беларускай мове. Гэта значыць, што мова павінна гучаць падчас урокаў, факультатываў, на перапынках, у сталовай, гардэробе, падчас наведвання вучнямі гарадскіх мерапрыемстваў, тэатраў і кінатэатраў, экскурсій, паходаў, у групе падоўжанага дня і т.п. Бацькоўскія сходы таксама маюць весціся на роднай мове. У нашай школе са званком настаўнікі раптам забываюцца на свой абавязак і стасуюцца з вучнямі на рускай мове, а некаторыя нават выкладаюць свае прадметы па-руску. Яны парушаюць правы вучняў набываць адукацыю на роднай мове. У нашай гімназіі, такім чынам, парушаецца закон нашай краіны.*

*Мы, бацькі, зыходзячы з інтарэсаў нашых дзяцей, просім ад настаўнікаў выкладаць свае прадметы на беларускай мове і не забывацца пра свае абавязкі адразу пасля званка. Мы ім даверылі нашых дзяцей, а яны ім падаюць прыклад двудушнасці, абыякавасці да сваёй мовы.*

*З павагай, бацькі вучняў гімназіі № 4 г. Мінска*
*Мінск 10.05.2017*

Рэдакцыя цяпер спрабуе разабрацца ў справе, звязаца з кіраўніцтвам гімназіі. Падрабязнасці паведамім пазней.

# СІЗА №1 адмовіўся ад кніг

**Напрыканцы красавіка Саюз беларускіх пісьменнікаў, жадаючы перадаць шэраг кніг у турэмную бібліятэку, звярнуўся да начальніка СІЗА №1 і КДБ Беларусі з адпаведнай прапановай.**

У лісце ад імя старшыні ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» Барыса Пятровіча выказвалася жаданне ў межах «дабрачыннай дзейнасці па распаўсюдзе айчыннай кнігі, прапагандзе чытання на беларускай мове... перадаць у падарунак бібліятэцы шэраг кніг, сярод якіх будзе і класіка, і творы сучасных беларускіх пісьменнікаў». Пасля гэтага змяшчалася просьба паведаміць працэдуру перадачы кніг, прычым арганізацыя забяспечвала б іх дастаўку да следчага ізалятара.

19 мая ў СБП паступіў ліст ад начальніка СІЗА №1 Вікенція Варыкаша, дзе паведамлялася, што «фонд бібліятэкі ўстановы ў поўнай меры забяспечаны кнігамі, у тым ліку на беларускай мове, і ў цяперашні час не адчувае патрэбу ў папаўненні».

У лістах фігурантаў «справы патрыётаў», якія трапляюць у СМІ, не раз сустракаецца пажаданне мець больш кніг для чытання, у першую чаргу мастацкай літаратуры на беларускай мове.

Нагадаем, што ў «Новага Часу» таксама існуюць праблемы з адтрыманнем газеты падпісчыкамі ў СІЗА №1 Мінска.

**Паводле ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў»**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Крызіс — час варушыцца

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Крызіс — гэта час не толькі «зацягваць паясы», але і варушыцца, змяняцца, дзейнічаць. Гэтага вымагаюць абставіны. І на тыдні ў нас шмат аптымістычных навінаў. Праўда, трэба глядзець, ці ўвасобяцца яны ў жыццё.**



Інтэрнэт-выданне Digital.report, напрыклад, лічыць, што Беларусь нечакана змяняе вектар эканомікі. Замест бульбы, мяса і малака мы ўваходзім у сферу высокіх тэхналогіяў. Пакуль што — на ўзроўні распрацоўкі.

Згодна выданню, «выручка ад экспарту ІТ-паслуг у некалькі дзясяткаў мільярдаў долараў і лакальныя прадстаўніцтвы буйных карпарацый — гэта ўжо не мары, а рэальнае развіццё беларускага ІТ-бізнесу. Насуперак скептыкам, у Беларусі тэхналагічны цуд не проста магчымы, ён ужо адбываецца. Паводле даследаванняў агенцтва Ernst&Young, краіна ўжо цяпер лічыцца «самай прывабнай краінай для ІТ-кампаній».

Такія перспектывы выданне малюе таму, што ў краіне «распрацоўваецца самы маштабны за ўсю гісторыю заканадаўчы акт, які павінен раптоўна ператварыць краіну з аграрнай рэспублікі ў сапраўдную Мекку для ІТ-кампаній. Паводле разлікаў аўтараў законапраекта, праз некалькі гадоў у Беларусі адкрыюцца офісы Microsoft, Oracle, Facebook і іншых карпарацый».

Сапраўды, зараз ІТ-сфера ў Беларусі развіваецца шалёнымі тэмпамі. Пад дахам Парку высокіх тэхналогій працуе 30 тысяч чалавек з заробкам у сярэднім 2000 долараў у месяц, і з 2015 года ён плаўна прырастае на 5% штогод.

Аптымізму дадае тое, што ўжо цяпер Беларусь знаходзіцца на трэцім месцы сярод краін Усходняй Еўропы па сукупным сярэднегадавым тэмпе росту экспарту кампутарных паслуг — 133% супраць 129%, напрыклад, у Польшчы.

«Заканадаўчы акт, які спее ў нетрах урада і профільных ведамстваў, сапраўды, можа вывесці Беларусь на новую эканамічную арбіту і ператварыць у вялікую Крамянёвую даліну», — аптымістычна дадае Digital.report. Аднак у нашых варунках прыняцце заканадаўчага акту — гэта, хутчэй, знак трывожны, чым станоўчы. Можа стацца так, што замест прэферэнцый айцішнікі атрымаюць «сацыяльную нагрузку». Але будзем аптымістамі.

Цікавая навіна прыйшла са шматпакутнага нафтагазавага рынку. «Укртранснафта» і «Гомельтранснафта Дружба» на тыдні падпісалі пагадненне пра супрацоўніцтва і ўзаемадзеянне для эфектыўнага выкарыстання сістэмы магістральных нафтаправодаў «Дружба» на ўчастку Мазыр — Броды. «Пагадненне, у прыватнасці, вызначае парадак дзеянняў украінскага і беларускага бакоў па забеспячэнні безаварыйнай працы нафтаправода і ўсіх яго збудаванняў, уліку нафты, каардынаванне рэжымаў перапампоўкі нафты», — гаворыцца ў паведамленні «Укртранснафты».

У той жа час віцэ-прэм'ер Уладзімір Сямашка на пляцоўцы Беларускага прамысловага форуму заявіў, што не выключае паставак у Беларусь нафты, альтэрнатыўнай расійскай, ужо ў гэтым годзе. А старшыня канцэрна «Белнафтахім» Ігар Ляшэнка паведамляў пра распрацоўку магчымасцяў дыверсіфікацыі паставак нафты ў Беларусь: «Не ў піку Расіі, але дыверсіфікацыя заўсёды з'яўляецца дадатковай падушкай бяспекі для эканамічнай устойлівасці любой галіны».

Будзем спадзявацца, што гэтыя распрацоўкі рэальна выгадныя. Бо інакш навошта тады ўкладаць грошы ў безаварыйную працу Мазыр — Броды?

Раней Беларусь закупляла пробныя партыі нафты ў Венесуэле і Азербайджане, сёлета ўпершыню закупіла нафту ў Іране. Яна танкерам была дастаўлена ў Адэсу, адкуль па нафтаправодзе паступіла на Мазырскі НПЗ. Праўда, дыверсіфікацыі перашкаджаюць два моманты: альтэрнатыва Расіі далёка і дорага (з улікам перавозкі). Але, магчыма, мы знайшлі нешта бліжэй і танней?

У той жа час першы намеснік старшыні праўлення Нацыянальнага банка Беларусі Тарас Надольны адзначыў маленькі, але поспех той дыверсіфікацыі, пра якую нам ужо гадоў 15 як праелі ўсе мазгі. Паводле яго дадзеных, яшчэ два гады таму ў нас прыкладна 44–45% складаў экспарт у Расійскую Федэрацыю. Зараз — 37–38%. «Гэта значыць, мы гаворым пра дыверсіфікацыю структуры экспарту беларускай эканомікі, якая, безумоўна, дае плён», — адзначыў ён. І дзякуючы гэтай дыверсіфікацыі, у першым квартале 2017 года Беларусь атрымала станоўчае сальда гандлёвага балансу тавараў і паслуг, у той час як у мінулым годзе сальда за квартал было мінусавае.

Пра што казаць? Пра тое, што два гады скарачэння экспарту ў Расію — гэта два гады крызісу. Не забываем пра газавыя, нафтавыя і харчовыя войны з нашым «асноўным саюзнікам». Бачна, экспарцёры пачалі варушыцца і рэальна шукаць новыя рынкі збыту. І адшукалі, прычым такія, якія плацяць, і плацяць добра, зважаючы на станоўчае сальда экспарту.

Чаму не рабілі раней? Крызісу не было, варушыцца было не трэба.

І яшчэ пару аптымістычных навін. Нягледзячы на драконаўскую ініцыятыву наконт курыльшчыкаў (пра яе мы пісалі ў мінулым нумары), у Беларусь можа вярнуцца кампанія Philip Morris International (PMI). Раней, у 2007-м, кампанія закрыла прадстаўніцтва ў Беларусі з-за складанасцяў у перамовах з беларускім урадам і гродзенскай тытунёвай фабрыкай «Нёман» аб ліцэнзійнай вытворчасці цыгарэт. Зараз PMI разглядае магчымасць вяртання вытворчых магутнасцяў на «Нёман». Віцэ-прэзідэнт па карпаратыўных пытаннях афіліяваных кампаній у Расіі Сяргей Сліпчанка пацвердзіў, што ў кампаніі бачаць «камерцыйную перспектыву ў тым, каб аднавіць вядзенне бізнесу ў Беларусі пасля перыяду часовай адсутнасці».

А значыць, беларусы перастануць купляць «Marlboro» ў Расіі, што адначасова і дыверсіфікацыя таксама.

Выгаду можна атрымаць нават з глабальнага пацяплення. Беларускія навукоўцы правялі праверку на выкарыстанне ва ўмовах Беларусі гатункаў вінаграду, якія можна вырошчваць у прамысловых маштабах. Аграрыі ўключылі ў рэестр шэсць гатункаў, прызначаных у якасці сыравіны для вытворчасці віна. На вінаградніку на Піншчыне яны ўжо ўступілі ў поўнае плоданашэнне на плошчы 30 гектараў. Так што, калі не Францыю па віну абгонім, дык хоць Малдову.

Такім чынам, крызіс — гэта яшчэ і магчымасці. Галоўнае — з розумам імі скарыстацца.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Сяргей Кунцэвіч

**Арыштаваны па «справе патрыётаў» даслаў Мікалаю Статкевічу ліст, у якім паведаміў пра катаванні.**

Сяргей Кунцэвіч — гэта той чалавек, які прывёз гукаўзмацняльную апаратуру ў раён Акадэміі навук, дзе 25 сакавіка меўся адбыцца мітынг. У гэтай машыне пасля, нібыта, знайшлі «кактэйлі Молатава».

Як сцвярджае Статкевіч, у сваім пісьмовым паведамленні (шлях атрымання палітык не выдае, каб не навесці наўпрост на перадатчыка) Кунцэвіч кажа, што «былі катаванні электрашокерам. Хацелі даведацца, дзе Мікалай», — працытаваў вытрымку з ліста Статкевіч.

«Цяпер я не магу апублікаваць фота ліста, бо не ведаю яго (Кунцэвіча) пазіцыю. Ці будзе ён прызнаваць факт перадачы, ці не. Але мы параўноўвалі почырк і ўпэўненыя, што паведамленне належыць Сяргею. Ён тут піша, што хацеў бы, каб гэта было перададзена ў СМІ», — сказаў Статкевіч «Нашай Ніве».

Паводле Статкевіча, катаванне электрашокерам магло адбыцца адразу пасля затрымання — тады сам палітык яшчэ хаваўся перад Днём Волі.

Іншыя паплечнікі затрыманых па «справе патрыётаў» (напрыклад, былы лідар «Белага Легіёну» Сяргей Чыслаў) таксама кажуць, што затрыманых катавалі, збівалі і ўжывалі да іх псіхатропныя рэчывы. Але вызваленыя фігуранты той жа справы пра гэта пакуль маўчаць.



## Ігар Случак

**Знакаміты барацьбіт за беларускую мову пасварыўся з паловай сваіх паплечнікаў.**

Ігар Случак ужо некалькі разоў дамагаўся таго, каб за абразу роднай мовы прыцягвалі да адміністрацыйнай адказнасці. Чарговая спроба прывяла да скандалу. Ігар напісаў скаргу ў пракуратуру на 16-гадовага хворага хлопца, які назваў беларускую мову «мёртвай».

Праз некаторы час яму прыйшоў ліст ад маці падлетка з просьбай забраць заяву. Яна адзначыла, што фраза пра «мёртвую» мову была вырвана з кантэксту, а сам каментар — выдалены на працягу сутак. «Мой сын усвядоміў зробленае і просіць у вас і вашых аднадумцаў прабачэння за недарэчнае цытаванне выказванняў, якія раней былі ў СМІ», — напісала маці.

Інтэрнэт-супольнасць падзялілася на два лагеры. Адны падтрымліваюць Ігара і яго жаданне абараніць мову ад нападкаў тых, хто яе абражае. Іншыя абвінавачваюць гамельчука ў бессардэчнасці і бесчалавечнасці. Лагер тых, хто асуджае дзеянні Ігара, аказаўся больш шматлюдным. На думку некаторых, такім чынам змагацца за беларускую мову — гэта выклікаць значна большую беларусафобію.

Але Случак адказвае: гэта сігнал для іншых непаўналетніх, што абраза беларускай мовы — не тое, на чым можна зарабляць «лайкі». «Я хачу, каб на прыкладах, якія атрымліваюць найбольш шырокі розгалас, іншыя вучыліся, што нельга зняважліва выказвацца пра дзяржаўныя мовы: беларускую, рускую ці іншыя. Усё ж мова — адзін з чыннікаў, з якіх складаецца дзяржаўнасць. Гэта вельмі каштоўная рэч, яе трэба абараняць», — кажа Ігар.



## Віктар Ганчарэнка

**Знакаміты беларускі трэнер пакрыўдзіў «Зеніт», спонсарам якога выступае «Газпром».**

Клуб ЦСКА, які зараз трэніруе Ганчарэнка, абышоў «Зеніт» «на віражы» і пазбавіў таго пуцёўкі ў Лігу чэмпіёнаў.

Ганчарэнка ўзначаліў ЦСКА ў той момант, калі клуб знаходзіўся на трэцяй пазіцыі. Вясну пад кіраўніцтвам беларускага трэнера армейцы правялі ўражліва. ЦСКА ў чэмпіянаце Расіі 2016/17 да Ганчарэнкі правёў 17 матчаў, атрымаўшы 9 перамог, 5 нічыіх, 3 паразы, 32 балы, розніца мячоў — 21:11.

Калі трэнерам стаў Ганчарэнка, ЦСКА правёў 13 матчаў, атрымаўшы таксама 9 перамог, але 3 нічыіх, 1 паразу, 30 балаў, розніца мячоў — 26:4 на карысць ЦСКА!

ЦСКА абышоў «Зеніт», заняў другое месца ў расійскім чэмпіянаце і атрымаў пуцёўку ў Лігу Чэмпіёнаў.

У інтэрнэце пішуць, што Ганчарэнка такім чынам адпомсціў Аляксею Мілеру за «газавыя войны».

# Украінскае эмбарга — шчасце беларусаў



Дзяніс ЛАЎНІКЕВІЧ

**На мінулым тыдні ўсе абмяркоўвалі забарону ва Украіне расійскіх сацыяльных сетак. І не звярнулі ўвагі на тое, што можа аказацца нашмат больш значным для нашай краіны. Гаворка ідзе пра ўведзенае ўкраінскімі ўладамі эмбарга на прадукцыю расійскай прамысловасці. Ад гэтага беларусы могуць атрымаць прыкметную выгаду для сябе. Калі паварушацца.**

### «Галодныя гульні» Масквы і Кіева

Мінэканамразвіцця Расіі накіравала Сусветнай гандлёвай арганізацыі і ўраду Украіны запыт на правядзенне кансультацый, паказаўшы на неправамоцнасць шэрагу забаронаў, якія ўвёў Кіеў у дачыненні да расійскіх тавараў і паслуг. Такі запыт — першы этап падачы позвы ў суд.

Як патлумачыў журналістам кіраўнік Мінэканамразвіцця РФ Максім Арэшкін, гаворка ідзе пра тое, што на тэрыторыі Украіны забараняецца або «дыскрымінацыйна абмяжоўваецца» дзейнасць сотняў расійскіх кампаній-вытворцаў і пастаўшчыкоў тавараў і паслуг. Сярод іх машынабудаўнічыя прадпрыемствы, банкі, распрацоўшчыкі праграмнага забеспячэння, авіякампаніі.

Не будзем пачынаць бясконцае абмеркаванне «хто там першы пачаў». Лепш паглядзім, як у гэтай сітуацыі можа выйграць Беларусь. Пакуль найбольш цікавыя для нашай эканомікі дзве групы ўкраінскіх санкцый: у дачыненні да расійскіх грузавікоў і аўтобусаў, а таксама ў дачыненні да расійскіх угнаенняў.

### Акно магчымасцяў для МАЗа

Па ўказе прэзідэнта Украіны №133 ад 15 мая, на тэрыторыі краіны на тры гады ўводзяцца эканамічныя санкцыі супраць шэрагу буйных расійскіх аўтавытворцаў. У спіс патрапілі ў тым ліку «Група ГАЗ» і КамАЗ. Пры гэтым менавіта расійская прадукцыя была найбольш папулярнай на ўкраінскім аўтобусным рынку. Летась, па дадзеных «Укравтапрома», прадукцыя расійскага вытворцы аўтобусаў ПАЗ (ён уваходзіць у «Групу ГАЗ») стала лідарам аўтобуснага рынка Украіны. За год у краіну быў пастаўлены 401 аўтобус. За першы квартал 2017 года ва Украіне ўжо было прададзена 90 аўтобусаў «ПАЗ» і 350 аўтамабіляў маркі «ГАЗ».

У прэс-службе КамАЗа заявілі, што на кампанію рашэнне ўкраінскіх уладаў ніяк не паўплывае: «Супраць нас санкцыі ўвялі яшчэ ў кастрычніку 2016 года, таму новыя абмежаванні на нас не ўплываюць. Больш таго, кастрычніцкія санкцыі на нас таксама не паўплывалі, таму што яшчэ ў сакавіку 2014-га мы цалкам сышлі з Украіны, прадалі ўсе сэрвісныя і дылерскія цэнтры і закрылі бізнес там». Сапраўды, апошні час афіцыйна ва Украіну прадукцыя КамАЗа не пастаўлялася. Але гэта не значыць, што яе там не куплялі — на рынку працавала мноства дробных прыватных аўтадылераў. Зараз і іх праца стане немагчымай.

КамАЗ перад пачаткам канфлікту ва Украіне (у 2013 годзе) займаў 45% мясцовага рынка цяжкіх грузавікоў, прадаючы ў год каля 700 новых аўтамабіляў розных класаў. Папулярнасцю ва Украіне карысталіся сельскагаспадарчыя самазвалы КамАЗ — гэтыя мадэлі абіралі ўкраінскія аграхолдынгі і фермеры. Да папулярных мадэляў адносіліся бартавыя аўтамабілі КамАЗ, цяжкія самазвалы, шасі «КамАЗ», на якіх выраблялі спецтэхніку ўкраінскія заводы.

У сваю чаргу, МАЗ апошнія гадоў дзесяць — лідар украінскага рынка вялікагрузных аўто (седлавых цягачоў), аб'ём якога складае каля 3,97 тысячы адзінак. Яго рынкавая доля, па дадзеных AUTO-Consulting, у 2013-м складала 20,6% (818 грузавікоў). КамАЗ быў трэцім з доляй 12,4% (483 штукі).

Цяпер аб'ём продажаў МАЗа і МЗКТ ва Украіне расце: беларускія заводы паспяхова прадаюць свае цяжкія машыны ўкраінскаму войску і прадпрыемствам абарончага комплексу Украіны — як шасі для ўзбраенняў. Аднак вайна на ўсходзе краіны не можа доўжыцца вечна, таму арыентацыя на рынак грамадзянскіх грузавікоў — найлепшая доўгатэрміновая стратэгія.

І тут МАЗ апынуўся ва ўнікальнай сітуацыі: сваёй прадукцыяй ён можа замясціць амаль увесь «выпадаючы» асартымент расійскай тэхнікі — акрамя, натуральна, лёгкіх грузавікоў ГАЗ. Напрыклад, МАЗ вырабляе ўвесь спектр аўтобусаў: ад невялікіх, для мясцовых перавозак, і да вялікіх міжнародных.

Па дадзеных Асацыяцыі аўтавытворцаў Украіны («Укравтапром»), у лютым 2017-га МАЗ стаў лідарам на мясцовым рынку па аб'ёмах продажаў аўтобусаў і мікрааўтобусаў. За гэты месяц на Украіне быў прададзены 51 беларускі аўтобус. Па выніках двух месяцаў 2017 года МАЗ заняў на ўкраінскім рынку трэцяе месца, саступіўшы ўкраінскаму «Атаману» (72 аўтобусы) і расійскаму ПАЗ (52). Але цяпер ПАЗ будзе вымушаны сысці з рынка.

Для параўнання: пастаўкі МАЗа ва Украіну ў 2016 годзе склалі 44 аўтобусы, у 2015-м — усяго 3. Украіна летась заняла па аўтобусным імпарце з Беларусі трэцяе месца (пасля Расіі і Сербіі). Пры гэтым у МАЗа ва Украіне — адзін дыстрыбутар па ўсёй тэхніцы (ТАА «Гандлёвы дом «МАЗ-Украіна») і сетка дылераў, якая ахоплівае Цярнопаль, Харкаў, Крамянчуг, Кіеў, Мікалаеў і Днепр.



**МАЗ апынуўся ва ўнікальнай сітуацыі: сваёй прадукцыяй ён можа замясціць амаль увесь асартымент расійскай тэхнікі — акрамя, бадай, лёгкіх грузавікоў. МАЗ вырабляе ўвесь спектр аўтобусаў: ад невялікіх, для мясцовых перавозак, і да вялікіх міжнародных**

Паводле ацэнак украінскіх экспертаў, зараз МАЗ патэнцыйна можа нарасціць свае продажы ва Украіне ў два разы па грузавіках і ў тры-чатыры разы па аўтобусах. І ўсё гэта — не за кошт укладанняў у маркетынг і дылерскую сетку, а «самацёкам», проста дзякуючы сыходу расійскіх канкурэнтаў.

Для таго, каб украінскі рынак занялі новыя МАЗы, а не ўжываныя Scania, беларускім вытворцам трэба праявіць такія-сякія дзелавыя якасці. Напрыклад, здольнасць хутка рэагаваць на змены. А гэта тое, чаго востра бракуе нашым прамыслоўцам, якія звыкліся, што ініцыятыва караецца, а жыць трэба па зацверджаных міністэрствам пяцігадовых планах.

Рост продажаў на рынку Украіны можа кампенсаваць МАЗу страту расійскага рынка. Яна паступова ідзе ўжо не першы год. Продажы новых грузавікоў Мінскага аўтамабільнага заводу ў Расіі знізіліся за 2016 год з 2618 да 2553 адзінак, або на 2,5%, паведамляе расійская кампанія «Автостат Инфо». У выніку МАЗ саступіў трэцяе месца на рынку японскай Isuzu (2586 прададзеных аўтамабіляў).




### Варыянт для «Гродна Азот»

Міжведамасная камісія па міжнародным гандлі Украіны 18 мая ўвяла антыдэмпінгавыя мыты ў 31,84% на карбамід і карбамідна-аміячную сумесь з Расіі. Расследаванне Мінэканомікі Украіны пацвердзіла дэмпінг расійскіх вытворцаў. Пры гэтым РФ — асноўны пастаўшчык угнаенняў ва Украіну (80–90% ад агульнага аб'ёму). Па дадзеных агенцтва «Химкурьер», у 2016 годзе экспарт карбаміду з Расіі ва Украіну склаў 255 тысяч тон.

Зараз у Мінэканоміцы Украіны заяўляюць, што трэба дыверсіфікаваць пастаўкі і настойваюць на абнуленні мытаў на імпарт угнаенняў азотнай групы для пастаўшчыкоў з іншых краін (урад ужо ўхваліў адпаведны законапраект). І першае, і другое на руку беларускаму «Гродна Азот». Асноўная прадукцыя ААТ — вадкі аміяк, азотныя ўгнаенні (карбамід, карбамідна-аміячная сумесь — КАС, сульфат амонію, аміячная вада) і капралактам. Украінскія антыдэмпінгавыя мыты ўдараць па прамых канкурэнтах «Гродна Азоту» — расійскіх прадпрыемствах «Куйбышевазот», ААТ «Новомосковская акцыянерная кампанія «Азот» і «Невинномысский азот».

Адначасова шырэй адкрыецца ўкраінскі рынак, на якім беларускі вытворца прадстаўлены пакуль даволі слаба. Вось лічбы: у 2016 годзе Беларусь скарацціла экспарт азотных угнаенняў на 23,4% да 362,9 тысяч тон у пераліку на дзеючае рэчыва. У грашовым выразе экспарт зваліўся на 43,1% да $154,9 мільёна, у асноўным з-за паніжэння коштаў на гэтыя ўгнаенні. Падзенне экспарту працягваецца і на пачатку 2017 года.

Экспарт азотных угнаенняў у студзені быў ніжэй, чым у 2016-м, на 34,2%. Усяго было экспартавана 27,5 тысячы тон у пераліку на дзеючае рэчыва, у грашовым выразе ён знізіўся на 38,3% да $12,9 мільёна. Найбуйнейшымі пакупнікамі азотных угнаенняў у студзені сталі Сенегал, куды было пастаўлена 10,2 тысячы тон, і Францыя з 4,4 тысячы тон. Больш за 3 тысячы тон атрымалі Вялікабрытанія, ЗША і Украіна.

Зараз агульнае падзенне экспарту азотных угнаенняў можна кампенсаваць за кошт Украіны. Па дадзеных «Саюза хімікаў Украіны», у краіне існуе дэфіцыт азотных угнаенняў. Па аміячнай салетры гэты дэфіцыт ацэньваецца ў 25%, па КАС — 39%, па карбамідзе — 40%. Санкцыі супраць расійскіх вытворцаў зробяць дэфіцыт сур'ёзнейшым, а кошты — вышэйшымі. Што на руку беларусам. «Аграрны рынак Украіны, які летась вырас на 30%, патрабуе вялікай колькасці ўгнаенняў», — прызнаюць і ў расійскім «Еврохиме», які якраз і патрапіў пад дзеянне ўкраінскіх санкцый.

Галоўная канкурэнтная перавага беларусаў — сабекошт. Вытворчасць азотных угнаенняў патрабуе вельмі шмат прыроднага газу, а ён для «Гродна Азоту» нашмат таннейшы, чым для яго ўкраінскіх канкурэнтаў.




# Сціплы рыцар Алесь Яўдаха

Алесь КІРКЕВІЧ

**Адным з першых быў затрыманы вядомы беларускі кнігараспаўсюднік Алесь Яўдаха. Спецназ КДБ «Альфа» забраў яго адразу па заканчэнні літаратурнай прэміі «Дэбют» 21 сакавіка. Што мы ведаем пра Алеся, і чым мог быць небяспечны «класічны кніганош XIX стагоддзя», як назваў Яўдаху ягоны сябар Сяргей Дубавец?**

Алесь нарадзіўся ў Мінску ў 1975 годзе, атрымаў тэхнічную адукацыю, у войску не служыў — здароўе не дазволіла. У беларускіх колах пачаў мільгаць у 1990-я, далучыўшыся да кампаніі, якая сфармавалася вакол рэдакцыі «Нашай Нівы». З таго часу «беларускае слова» і ягоны распаўсюд сталі для яго шляхам і жыццём.

Алесева інтэрнэт-крама knihi.by — найстарэйшы сайт, які займаецца гандлем выключна беларускай літаратурай, у тым ліку выданнямі, якія не даходзяць або забароненыя для продажу ў афіцыйных гандлёвых сетках краіны. Ад пачатку 2000-х гадоў Яўдаха дасылае беларускія кнігі па ўсім свеце: у тым ліку замоўцам у ЗША, Аўстралію, Канаду і г.д. Не абыходзілася і без эксцэсаў, напрыклад, у 2013-м яго аштрафавалі на велізарную па тых часах суму за распаўсюд кнігі «Маладафронтаўцы».

## Класічны кніганош XIX стагоддзя

«Ягоная справа вельмі важная для Беларусі, — лічыць Алесеў сябар Усевалад Сцебурака, — бо займацца беларускай кнігай для грошай — гэта ўтопія. Сёння, як і пяць, і дзесяць год таму, — гэта не справа, на якой можна зарабіць мільёны: ён жа не прадае дапаможнікі для абітурыентаў альбо Дэна Браўна. Гэта бізнес, які не можа існаваць без персанальнай зацікаўленасці прадаўца. Настолькі ж бізнес, наколькі і справа Ідэі — сіметрычна. Займацца такім бізнесам, не цікавячыся ім, немагчыма».

Яўдаха сумяшчае ў сабе рэчы, якія рэдка каму ўдаецца сумясціць: ён кніжнік, але не ў сэнсе збірання рэдкіх кніг па букіністах для ўласнай бібліятэкі. Не літаратуразнаўца, не калекцыянуе знаёмствы з паэтамі і пісьменнікамі, але выдатна ведае іх як аўтараў кніг, якімі ён займаецца і займаецца. За гэта літаратары яго паважаюць, але ён не імкнецца стаць з імі ў адзін шэраг. Ён займаецца кнігамі як прадуктам: «беларускае слова» — ягоная зброя.

«Гэта ягоны чын, ён класічны кніганош XIX стагоддзя, — мяркуе Сяргей Дубавец. — Яму ёсць на кавалак хлеба — і ўсё. Алесь не гоніцца за раскошай, наадварот, ахвяруе. У мяне была «Руская кніга», ён агітаваў мяне рабіць другое выданне: усім займаўся цалкам, выдаў. Ясна, што ён нічога не навараў на гэтым, мо нават і страціў. У краіне няма кніжнага рынку, таму любы такі агмень пад наглядам, пад каўпаком. Уяўляю, як яму было цяжка... Але ён хлопец моцны, цягнуў, як мог».

## Падарожжы, «Дынама» і бокс

Алесь не любіць кавярні і рэстараны, хутчэй можа запрасіць сяброў дадому альбо на прыроду. Клікаць яго ў бар ці клуб на выходныя бессэнсоўна. Модныя тэндэнцыі ён альбо не прымае, альбо прымае мінімальна, таму ў сяброўскім коле нават атрымаў мянушку «Рэтраград». Гаджэты, стылёвую вопратку і сацыяльныя сеткі Алесь з ironiяй крытыкуе.

«Ён з нас сціпбаўся, — узгадвае блізкі сябар Павел Славінскі. — Нармальным адпачынкам для яго ёсць паехаць у лес на тыдзень. Калі мы, скажам, ездзілі ў лес на выходныя, ён смяяўся, маўляў, гэта не сур'ёзна: каб нармальна адчуць прыроду, трэба ехаць на тыдзень, каб дні праз два пачала нармальна працаваць галава, можна было абстрагавацца ад лішніх думак і г.д.»

Іншы бок Алесевых інтарэсаў — футбол. Пакуль не кінулі за краты, гуляў з сябрамі прыкладна раз на тыдзень, заўзеў за мінскае «Дынама», бываў на выездах клубу: па Беларусі, ва Украіне, Грузіі.

«Гэта наша суполка: ганяем на выезды, камунікуем, так завязалася сяброўства, — тлумачыць Віталь Шабуня, які ведае Алеся ўжо 12 гадоў. — Напрыклад, ездзілі ў Тбілісі, калі там праходзіў турнір: тбіліскае «Дынама», «Карпаты—Львоў», днепрапятроўскі «Днепр» і мінскае «Дынама». Так «ганялі» штогод, камунікавалі. Людзі ў курсе падзеяў, вельмі перажываюць, пытаюцца пра варыянты дапамогі. Футбольная тэма ж перацякае і ў чалавечыя адносіны — мы ўсе сябры».

Разам з Віталём Алесь у свой час займаўся боксам — для тонусу і падтрымкі формы. Маўляў, мужчына — гэта заўжды абаронца, таму мае быць моцным і ўпэўненым у сабе. Пры гэтым Яўдаха застаецца ціхім і неканфліктным чалавекам. «Ні разу не бачыў, каб з кімсьці сварыўся», — дадае Віталь.

## «Кшталцавацца» — што гэта?

Паводле сяброў, Алесь вельмі паслядоўны чалавек і аднолькавы як для сяброў, так і для сваякоў — двудушнасці ў ім ніколі не было. Менавіта гэтым ён імпануе: адчуваецца ўпэўненасць, сіла, але без напругі. Гэтым і заваёўвае давер: сваім трошкі іранічным, але вельмі «пацанскім» стаўленнем.

«Алесь — чалавек вельмі псіхічна ўстойлівы, стабільны, надзейны, трошкі флегматычны, — распавядае Усевалад Сцебурака. — Ніколі не бачыў у яго дэпрэсіяў, наадварот, ён заўсёды падбадзёрвае. Алесь ніколі не будзе наракаць ці выгаворваць сумныя гісторыі з уласнага жыцця. Класічны мужчынскі падыход: сваё трымае глыбока і не дзеліцца з першым сустрэчным, але «не жуе соплі» і заўсёды лёгкі на пад'ём».

Адно з улюбёных Алесевых слоў — «кшталцавацца» — самаўдасканальвацца. Менавіта праца над сабой ёсць ягоным шляхам: у бізнесе, у спорце, у чалавечых адносінах і г.д. Пра яго можна сказаць: прыземлены ў добрым сэнсе, не мройнік, спакойны і надзейны.

«Гэта чалавек звышсціплы, — дадае Міхась Міцкевіч. — Былі спрэчкі і за чаркай, і ў паходзе ля вогнішча, але не магу ўзгадаць сітуацыі, каб ён павысіў голас. У падарожжах я заўжды намагаўся трапіць з ім у адзін намёт, каб пасля адбою яшчэ паўгадзінкі з Алесем «патрындзець». Ён чалавек начытаны, у мяне нават было ўражанне, што думкі, якія мне прыходзілі ў галаву, Алесь ужо даўно абдумаў і зрабіў высновы. Ён для мяне прыклад, апора. Калі я вагаўся ў нечым, у Алеся быў такі аўтарытэт, што ягоная думка была апошняй кропкай у маёй спрэчцы з самім сабой».

## Заўжды верны Ідэі

Начытанасць Алеся ў сяброўскім коле легендарная: яго цікавіць усё, па кожным пытанні ён мае сваё меркаванне, якое часта розніцца ад агульнапрынятага. Таму з ім цікава гутарыць на любую тэму. Пры гэтым — адкрыты да дыялогу: можа выслухаць любое меркаванне, нават калі яно не супадае з ягоным.

«Для мяне Алесь ёсць прыкладам у плане ведання мовы і гісторыі, — працягвае Павел Славінскі. — Напрыклад, у гісторыі, дзякуючы яму, шмат якія моманты сталі для мяне зразумелымі. Гэта быў ягоны ўнёсак у развіццё майго кругагляду. Ён размаўляе ўвесь час па-беларуску, але пры гэтым для яго не праблема пераключыцца на рускую. Так і з кнігамі: апроч беларускіх аўтараў ён з задавальненнем чытае таго ж Пялевіна, то бок ніякага шавінізму ў яго няма».

Прынцыповай пазіцыяй Алеся ёсць не з'язджаць з краіны, што б ні сталася. І тут варта ўзгадаць ягоную дзяжурную фразу, старадаўні рыцарскі дэвіз: «Рабі, што мусіш, а будзе, як будзе». Міхась Міцкевіч памятае, як пасля падзеяў Плошчы–2010, калі вакол панавала скруха і расчараванне, шмат хто з агульных з Алесем сяброў падумваў пра тое, каб з'ехаць за мяжу. Але аднойчы Яўдаха за кубкам кавы ў сябе на кухні прывёў цікавы прыклад:

«Калі Чачня змагалася за незалежнасць і загінуў Джахар Дудаеў, там таксама былі ўпадніцкія настроі, — перадае Алесевы словы Міцкевіч. — Тады нехта сказаў: «Хто змагаўся за Джахара, можа ўстаць і пайсці, а хто змагаўся за незалежнасць — працягваем». На мяне гэта паўздзейнічала, праўда, а што змянілася? На дадзены момант гэта параза — наша асабістая ці грамадства, але не параза Ідэі. Гэта Алесева думка, з якой ён жыве і ніколі не вагаецца. Ён заўжды верны сваёй Ідэі».

## «Не веру!»

Такім чынам, паводле фармальных падставаў, Алесь Яўдаха — ідэальны фігурант «Справы патрыётаў». Глядзіце: ён некалі меў праблемы праз кніжку «Маладафронтаўцы», быў у тусоўцы фанатаў «Дынама», трымаў сябе ў добрай фізічнай форме, меў штампы пра выезды ва Украіну. Канешне ж, ведаў Мірaслава Лазоўскага. А як ні ведаць? Абодва ж займаліся кніжным гандлем. Па ўсім падыходзіць! Гучыць абсурдна, аднак логіка тых, хто арыштоўваў Алеся, бачыцца менавіта так. Але...

«Лічу, што на яго месцы мог быць кожны, — кажа Усевалад Сцебурака. — Лазоўскі па маладосці мог быць у «Белым Легіёне» і не хаваў гэтага, наадварот — ганарыўся. Данілаў сімпатызаваў вайсковай тэме. Але Алесь нават у войску не служыў ніколі! Я бачу толькі шызоідны момант, што ў Мірaслава нумар Яўдахі мог быць на хуткім выкліку ў тэлефоне, бо яны абодва займаліся кніжкамі, кантактавалі. Глабальна, канешне, гонар апынуцца ў такой кампаніі, але гэта абсурд».

Ніхто з Алесевых сяброў не верыць у выстаўленыя абвінавачванні — ані яму асабіста, ані рэшце абвінавачаных, для ўсіх гэта нонсэнс. «Шок»... «Чалавек трапіў цалкам выпадкова». «Ніколі не чуў ад яго нічога рэвалюцыйнага». «Ён там не павінен быць». «Не веру!» — так гучаць рэакцыі людзей, якія ведалі Яўдаху па 5–10 гадоў, фактычна былі для яго сям'ёй.

## «Зачыстка тэрыторыі ад беларусаў»

Паводле Сяргея Дубаўца, «Справа патрыётаў» — першая справа ў Беларусі, паводле якой пасадзілі людзей, якія ў выпадку пэўных агрэсіўных раскладаў былі б стоадсоткавымі абаронцамі незалежнасці. Дык што ж за дзяржава садзіць сваіх абаронцаў?..

«Слова «акупацыя» ў нас асацыюецца з немцамі, а мы, нібыта, і не так страшна жывем, — працягвае Дубавец. — Але гэта акупацыйная адміністрацыя, якая душыць беларушчыну па ўсіх франтах, напханая прарасійскімі элементамі, і нават грамадзянамі РФ у сілавых ведамствах. У нас шмат кажуць пра патрыятызм, незалежнасць, але зараз маскі скінутыя. Чаму заўтра цябе ці мяне не арыштаваць?.. Заканамерна, што іх пасадзілі і будуць далей садзіць. Гэта зачыстка тэрыторыі ад беларусаў».

Паводле Дубаўца, фігурантам «Справы патрыётаў» варта было б даваць не статус «палітвязняў», на што дагэтуль не могуць адважыцца беларускія праваабаронцы, а статус «палонных». Чаму менавіта палонных? Бо іх захапіла чужая ўлада, акупацыйная адміністрацыя, якая не прымае самастойных рашэнняў, і сядзець яны будуць не паводле закону, а паводле рашэння «зверху». Урэшце, з такой логікай усё стае на свае месцы.

# Алесь Лагвінец: «Гадаваць сына мне ў асалоду»

Таццяна ШАПУЦЬКА

**У жыцці палітыка Алеся Лагвінца (праўда, сам ён лічыць правільным панятак «дысідэнт») адбыліся значныя падзеі. І справа не ў тым, што прайшоў устаноўчы сход новай ініцыятывы «Дзея», якую ён разам з паплечнікамі задумаў пасля сыходу з Руху «За Свабоду». Алесь вырашыў пайсці ў адпачынак па догляздзе за сваім малодшым сынам Уладзімірам. Ужо некалькі дзён Алесь Лагвінец спрабуе сябе як «тата ў дэкрэце».**




Фота Дзмітрыя Русака

Алесь, Вераніка і Валодзька



Фота Таццяны Шапуцькай

Вазок разам з малым важыць каля 30 кілаграмаў. Канешне, тату яго падняць працей

Для гутаркі мы сустрэліся ў адным са скверыкаў мінскай Малінаўкі — Алесь Лагвінец прыкаціў з сабой вазок, адкуль з цікавасцю паглядае слаўны аднагадовы Валодзька, як яго называюць бацькі. Убачыўшы незнаёмага чалавека, Валодзька ўпэўнена пералазіць тату на рукі, але Алесь Лагвінец спрактыкавана заманьвае яго назад у вазок, даючы пагуляцца са сваім, на дзіва яшчэ не пабітым, смартфонам.

### «Гэта новы досвед — вельмі карысны»

— Усё проста: маёй жонцы першай прапанавалі выгадны кантракт, але на гэтай працы трэба знаходзіцца зранку да вечара, — тлумачыць Алесь Лагвінец, чаму яны з жонкай Веранікай Мазуркевіч вырашылі памяняцца месцамі. — Так што днём пра сына буду клапаціцца я, а ўвечары і на выходных — мы супольна. Да таго ж у нас будзе дапамога — адна з бабуляў жыве даволі блізка і ўжо на пенсіі.

Мы разам шукалі працу, але ў мяне яшчэ ёсць, так бы мовіць, дысідэнцкая дзейнасць, і не на кожную працу я магу пайсці. Мне цікава займацца тым, чым я займаюся. І мне падаецца, што я змагу знаходзіць час для такой дзейнасці, калі буду з Валодзькам. У нас з жонкай аднолькавыя кваліфікацыі, калі казаць пра пераклады (Алесь Лагвінец і Вераніка Мазуркевіч перакладаюць з французскай і англійскай моваў. — рэд.), але мне было б вельмі складана патрапіць на тое месца працы, куды яе зараз бяруць.

Таму пакуль паспрабуем, каб працавала Вераніка. Але і я не ўломак, я буду таксама працаваць страхавым агентам, займацца перакладамі. Вось пасля сустрэчы мы з Валодзем паедзем у банк здаваць грошы за страхоўкі. Да таго ж праца з такім свабодным графікам дазваляе мне займацца нашай новай ініцыятывай «Дзея». Думаю, што шмат куды па справах буду браць Валодзьку — ён будзе маім маленькім «хвосцікам». Відавочна, я не буду адмаўляцца ад таго, чым я займаюся, я нікуды не дзенуся. Гэта новы досвед — вельмі карысны.

### Ці гатовае грамадства да «татаў у дэкрэце»?

Па словах Алеся Лагвінца, сваякі спакойна паставіліся да іх з Веранікай рашэння, не крытыкавалі.

— І мае бацькі, і бацькі Веранікі ў прынцыпе ўхвалілі наш выбар. Мае бацькі нават успрынялі з пэўнай палёгкай, бо нядаўняя гісторыя, калі мяне збілі і далі 10 сутак, іх моцна напружыла, яны перасцерагаюцца за маю дзейнасць. Што тычыцца іншых... Я разумею, што ў нашым кансерватыўным грамадстве гэта можа неадназначна ўспрымацца, але досвед дэкрэта не дадасць мне мінусаў адназначна, калі мысліць, так скажам, у палітычных катэгорыях. Заўчора нам трэба было ісці да хірурга — як правіла, да лекараў прыходзяць маці ці бацькі разам. Я вадзіў Уладзіміра сам — успрымалася нармалёва.

Насустрач нам спаткаліся тры мамы з маленькімі дзеткамі, і Лагвінец-малодшы вырашыў вылезці з вазка ды пагуляць з аднагодкамі. Лагвінец-старэйшы таксама час не губляў і прыступіў да апытання патэнцыйных выбарцаў: «Ці адпусцілі б вы свайго мужа ў дэкрэт? Вось у нас такая сітуацыя: маёй жонцы прапанавалі выгаднейшую працу, а я буду даглядаць за сынам».

— Ай які малайчына! — захоплена і трошкі зайздросна ўсклікнулі дзве мамы. — Канешне, мы б адпусцілі.

— А я б не адпусціла, — упэўнена гаворыць трэцяя жанчына. — Не, вы не думайце дрэннага. Памперсы муж мяняць умее, пагуляць можа, але я сумняваюся, што ён зможа развіваць сына, займацца з ім практыкаваннямі па ўзросце.

— Бачыце, грамадства збольшага гатовае да такіх рэчаў, — усміхаецца Алесь Лагвінец, засаджваючы сына назад у вазок. — Да таго ж, падчас шпацыраў можна больш кантактаваць са звычайнымі людзьмі, даведвацца іх меркаванні, погляды — гэта плюс! Новая сітуацыя — гэта новыя магчымасці. Відавочна, што я буду размаўляць з людзьмі, і нават тое, што я буду карыстацца беларускай мовай, — гэта таксама ў нечым будзе ўплываць на гэтых людзей. О, бачыце, нарадзе вялікая лесвіца, а пандуса няма — Веранікі было б вельмі цяжка валачы гэты вазок. Мужчынам у дэкрэце фізічна лягчэй — пасля года дзеці ўжо нямала важаць, і нават на руках жанчынам насіць іх няпроста.

А што тычыцца дзіцячага развіцця, то мы не ўжываем нейкіх адмысловых методык. Канешне, чытаем і ведаем пра іх, але каб гадаваць дзіцёнка па нейкай вузкай схеме — такога няма. Дый ранавата гэта ўсё яшчэ Валодзьку — на днях я паспрабаваў пачытаць кніжку яму, нецікава яшчэ, не слухае. А вось патанчыць пад музыку на тэлефоне ён вялікі аматар, таксама на пальчыках умее паказваць «Сароку-варону», кажа словы «тата» і «мама».

Пытаюся ў Алеся, ці ахвотна сын адпускае маму на працу.

— Так, без слёз. На днях толькі трошкі плакаў аднойчы, як Вераніка пайшла, але гэта хутчэй з-за таго, што ў яго цяпер растуць зубкі, і мы маем справу з крызісам першага года жыцця. Вераніцы цяжэй гэта прыняць. Але думаю, што хутка ўсё наладзіцца. Яшчэ невядома, колькі я пратрымаюся, — смяецца Алесь Лагвінец.

### Малечы — абед, жонцы — вячэру

Вядома, што мамы ў дэкрэце зазвычай не толькі гадуюць дзяцей, але і гатуюць ежу ды прыбіраюць хату. Ці гатовы ўзяць на сябе гэтыя абавязкі беларускі дысідэнт Лагвінец?

— А я і так часта гатую, прыбіраю. У гэтым сэнсе мы з Веранікай партнёры, не тое, каб я нічога па хаце не рабіў. Так што на вячэру Вераніка можна разлічваць. Таксама буду рабіць супы і пюрэшкі Валодзьку — купляць гатовыя ў баначках дорага. Я бачыў, як Вераніка адварвае гародніну, мяса — і ў блэндэр. Я яшчэ ні разу не рабіў, але павучуся ў яе і буду рабіць — мяркую, гэта нескладана.

Якраз гэтымі днямі Палата прадстаўнікоў абмяркоўвае магчымыя новаўвядзенні пра абавязковы дэкрэт для татаў — маўляў, гэта паспрыяе большаму ўдзелу бацькоў у выхаванні дзяцей. Алесь Лагвінец да гэтай ініцыятывы пакуль што настроены скептычна:

— Трэба, каб улады агучылі канкрэтныя прапановы, каб можна было пачытаць і абдумаць іх. Разумееце, у нашай рэпрэсіўнай дзяржаве нават у такой добрай справе могуць знайсціся падводныя камяні. Наогул, я лічу, што гэта ўнутраная справа кожнай сям'і, і вырашаць павінны муж з жонкай. У кожным разе, адказныя бацькі павінны максімальна прысвячаць час дзецям і абодва ўдзельнічаць у выхаванні.

Сам Алесь адзначае, што яму падабаецца праводзіць час з такім маленькім дзіцяткам.

— Так склалася, што першы год жыцця майго старэйшага сына Антося я фактычна прапусціў, бо мы з яго маці (першай жонкай — рэд.) жылі ў асобных гарадах — я вучыўся на 5-м курсе, а яна была ў сваіх бацькоў. Напэўна, цяпер я з такім задавальненнем даглядаю за малым Валодзькам у тым ліку і таму, што ў мяне не было магчымасці праводзіць столькі часу са старэйшым сынам, так што гэта, так бы мовіць, нейкая кампенсацыя... Таксама ўплывае і тое, што мне ўжо 45 гадоў, і вялікая розніца — быць татам цяпер і ў 22 гады, калі нарадзіўся першы сын. Усё ж такі многія рэчы цяпер па-іншаму ўспрымаюцца, тады і цярпення столькі не было... А ў маім узросце гэта такая класная цацка. Жартую, гэта асоба, зразумела. Але ўсё гэта вельмі цікава.

Цяпер у мяне хапае цярпення і вытрымаць плач, і неяк пераключыць сына — напрыклад, Валодзька вельмі любіцьназіраць у вакно, гэта яго супакойвае. Аднойчы мы з Веранікай ад'ехалі, і яго глядзела бабуля. Тэлефануе — маўляў, не магу спыніць плач. Параілі падысці да вакна — суцішыўся. Таксама Валодзька вельмі любіць, калі падкідваю яго на руках. Наколькі гэта файна — бачыць і чуць, як радуюцца дзеці!

Наогул, я вельмі рады, што мае сыны растуць блізкія адзін аднаму. Антось вельмі цікавіцца Валодзькам і любіць яго. Спадзяюся, яны стануць добрымі сябрамі.

Нягледзячы на тое, што Уладзімір на мінулым тыдні толькі адзначыў першы годзік, Алесь і Вераніка ўжо пачалі клапаціцца пра беларускамоўны асяродак.

— Пакуль у нас тут няма беларускамоўнай кампаніі, але як толькі ўзнікне патрэба, як толькі ён пачне камунікаваць, будзем шукаць аднадумцаў. Бачыце, пацiху знаёмімся з мамамі і дзецьмі. Пакуль мы адnесці заяву ў бліжэйшы садок, сталі на чаргу. Пакуль што там беларускамоўнай групкі няма, але спадзяемся знайсці падтрымку ў мясцовых бацькоў і стварыць такую групу. Вось рукі раней не даходзілі высветліць, чаму няма беларускамоўнай групкі ў бліжэйшым садку і як яе стварыць, цяпер з Валодзькам будзе час гэтым заняцца.

Пакуль мы размаўлялі, Валодзька гуляўся з татавым тэлефонам, назіраў за тым, што адбывалася навокал і ні разу не заплакаў. Па ўсім было бачна, што з бацькам яму вельмі ўтульна.

У Беларусі каля 3000 тысяч татаў і дзядуляў у дэкрэце. Хоць гэта і 1% ад агулам дэкрэтнікаў, з кожным годам усё больш мужчын адважваюцца пайсці ў адпачынак па догляздзе за дзіцём. Прычыны такога кроку розныя, але гэта і не істотна. Важна, што дзеці будуць больш часу праводзіць з татамі.

Новы Час 26 мая 2017 | № 20 (534) | «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 5




# Літаратурная Беларусь

Выпуск №5 (129) (май)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by


## Змест



# Раіса Баравікова: «Заўжды жыву будучыняй»

***— Спадарыня Раіса, як склалася, што пры выбары ВНУ вы вырашылі вучыцца ў Маскве на аддзяленні перакладу Літінстытуту?***

— Усё пачыналася з выпадковасцей. Закончыла сярэднюю школу ў горадзе Бярозе, рана пачала пісаць вершы, наведвала там літаратурнае аб'яднанне, якое таксама наведвалі Алесь Разанаў, Ніна Мацяш, Анатоль Казловіч, Зіна Дудзюк... Па заканчэнні школы ў 1965 годзе паступала на філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта, але не дабрала аднаго бала. Бацькі ў той час пераехалі на Магілёўшчыну. Мяне ўзялі на працу ў «Маяк Прыдняпроўя». І вось неяк у лютым у рэдакцыю завіталі вядомыя паэты Аляксей Пысін і Васіль Матэвушаў, адбылося наша знаёмства. Пысін і параіў паспрабаваць паступіць у Літінстытут імя Горкага ў Маскве... Я падрыхтавалася, прайшла творчы конкурс і стала студэнткай на той час вельмі прэстыжнай навучальнай установы.

***— Як у Літінстытуце ставіліся да студэнтаў з розных рэспублік СССР?***

— Да беларусаў, як і да іншых студэнтаў, ставіліся вельмі добра. Тады ў Літінстытуце ўсім выкладалі сваю нацыянальную мову. Нам беларускую мову выкладаў Алесь Рыбак — беларускі пісьменнік. Ён працаваў перакладчыкам пры Савеце міністраў СССР. Тады ў Крэмль дакументы з усіх рэспублік афіцыйна паступалі на нацыянальных мовах. І Алесь Пятровіч перакладаў беларускую дакументацыю на рускую мову. Часам мы хадзілі здаваць залікі да яго на працу... у Крэмль.

Вучыцца ў Маскве было цікава. Некалькі разоў я была ў гасцях у Канстанцыі Буйла. Канстанцыя Антонаўна паказвала падшыўкі «Нашай Нівы», згадвала маладога Купалу. Некалькі разоў яна тэлефанавала ў інтэрнат на вахту, запрашала на абед — і я да яе заязджала на Ціхвінскі завулак, дзе яна жыла...

***— Студэнты і выкладчыкі цікавіліся беларускай літаратурай? Якія імёны былі найбольш паважанымі, а творы — найбольш чытанымі?***

— Да беларускіх пісьменнікаў, мастакоў у Маскве ставіліся з цікавасцю. Калі мы вучыліся, выйшла кніга «Аист на крыше» Рыгора Барадуліна у перакладзе Ігара Шклярэўскага. Гэта была з'ява! Кніжку куплялі, распытвалі нас пра Барадуліна. Ігар Шклярэўскі быў вядомы паэт у Маскве — і тут раптам такое адкрыццё беларускай паэзіі! Потым Ала Кабаковіч пераклала «Рэквіем» Анатоля Вярцінскага. Яго надрукавалі ў «Дружбе народов», і ўсе адразу зацікавіліся. Аказваецца, у Беларусі кожны чацвёрты быў забіты падчас вайны — для многіх савецкіх чытачоў гэта было адкрыццём. У «Дружбе народов» тым часам ужо друкаваўся і Васіль Быкаў, які неяк адразу стаў адным з найлепшых празаікаў у СССР.



Да нашай мовы была вялікая цікавасць, як, дарэчы, і да творчасці шасцідзясятнікаў. Увогуле, да ўсёй шматнацыянальнай літаратуры стаўленне было асаблівае. У Цэнтральным доме літаратараў ладзіліся такія вечары, што конная міліцыя была! На вуліцы Герцэна — усё запружджана людзьмі!.. Гайкі пачалі закручвацца пасля 1968-га года, калі савецкія танкі ўвайшлі ў Прагу. Якраз тады і з'явіўся надзвычай моцны дэсідэнцкі рух, а хрушчоўская адліга сыходзіла, пачынаўся доўгі застойны час...

***— Як ставіліся крытыкі і чытачы да вашай інтымнай лірыкі?***

— Калі прыехала ў Мінск, тут былі свае літаратурныя школы. Усе нармальныя людзі ўсё разумелі, але калі некуды прыносіш падборку вершаў, абавязкова трэба было мець 2–3 вершы-«паравозікі» — высокаграмадзянскія, ідэалагічныя: пра Леніна, пра кампартыю ці яшчэ што. У мяне «паравозікі» не атрымліваліся. Ніяк. Іх проста няма ў мяне. Ёсць пра Радзіму, але там — сад, лес, рэчка, поле плюс пачуцці, без аніякай ідэалогіі... Таму адразу ўзніклі праблемы...

Пісьменнікі наогул да маладых ставіліся добразычліва. Памятаю, на тэлебачанні была перадача пра маладых творцаў. І я папрасіла Генадзя Мікалаевіча Бураўкіна, каб ён пра мяне сказаў якое слоўка. Ён пагадзіўся. Але ў апошні момант, калі мы ўжо некалькі гадзін праседзелі на студыі, запіс перанеслі на наступны дзень. Генадзь Мікалаевіч тым днём збіраўся ад'ехаць у санаторый. Я думала, што ўжо ніякай перадачы не будзе. А ён прыйшоў ранічкай на запіс, сказаў: «Хіба я мог падвесці!» Такое застаецца незабыўным.

> **Да нашай мовы была вялікая цікавасць, як, дарэчы, і да творчасці шасцідзясятнікаў. Увогуле, да ўсёй шматнацыянальнай літаратуры стаўленне было асаблівае**

***— Ці не падаваліся асобныя вашы творы занадта эпатажнымі ў 1970-я гады?***

— Так атрымалася, што за мною неяк замацавалася тэма кахання... 1977-ы год, працую у «ЛіМе» ў аддзеле інфармацыі і пісем. Мяне толькі-толькі прынялі ў Саюз пісьменнікаў. Галоўны рэдактар — Алесь Харытонавіч Асіпенка — вельмі патрабавальны, адказны, а па жыцці — вядомы празаік, добры, спагадлівы чалавек... Я была на бюлетні, але пра гэта не паінфармавала ў рэдакцыі. У маю адсутнасць назбіралася кіпа розных дапісаў. Ну і, зразумела, я атрымала як след ад Алеся Харытонавіча. Расхвалявалася, неймаверна пакрыўдзілася і тут жа напісала заяву на звальненне... Тады — не шыкоўна, але можна было пражыць і на ганарары. І вось праз некалькі тыдняў пасля звальнення сустракаю Алеся Харытонавіча, які адразу прапанаваў прынесці вершы — і як мага больш. Кажу яму: «А ў мяне любоўная лірыка, вы любоўнае надрукуеце?..» «Так, надрукую, жыць жа табе за нешта трэба». Ну, я і прынесла кшталту: «Ля крыніцы бруістае вяне / абранёны на шчасце вянок, / тут калісь палявалі славяне / на чужых даўганогіх жанок...» Ці вось гэтае: «Цяжэюць грудзі ад жадання, / засведчы сам усё і згінь, / ужо лунае жар спатканя / у шолахах начных вяргінь...» 1977 год! «ЛіМ»! А Алесь Асіпенка ўзяў і ўсё на цэлую паласу надрукаваў. Я была ўдзячная, пасля публікацыі было шмат званкоў мне дадому. Неяк так і замацоўвалася поле любоўнай лірыкі за мною.

***— Некалькі вашых п'ес былі пастаўлены ў беларускіх тэатрах. Наколькі гэта ўражвае — бачыць на сцэне ўласны твор?***

— П'еса «Барбара Радзівіл» была пастаўлена Валерыем Мазынскім у Тэатры беларускай драматургіі, «Пятля часу» — народным тэатрам у Палацы чыгуначнікаў горада Магілёва. Помню, я працавала ў часопісе «Алеся», да нас часам заходзіў пісьменнік, гісторык Мар'ян Віж. Аднойчы ён прынёс вялізную кнігу беларускіх летапісаў некім яму падораную, пачаў мне зачытваць асобныя фрагменты... І вось дайшлі да Барбары Радзівіл, кароценькая гісторыя кахання на пяць сказаў — але які сюжэт!.. Гэта быў пачатак 1990-х, час нацыянальнага Адраджэння. Мар'ян Віж параіў напісаць калі не аповесць, дык п'есу, сказаў, што тут нават містыка можа адбывацца: «Барбара Радзівіл — ініцыялы БР, Раіса Баравікова — РБ». Мяне гэта ўразіла — я загарэлася, пачала пісаць... У нейкія моманты мне і сапраўды пачынала здавацца, што я нейкім чынам адчуваю, калі не ў сабе, дык побач, прысутнасць Барбары Радзівіл. Як толькі драма была гатова, паказала Валерыю Мазынскаму, і ён прапанаваў зрабіць сцэнічны варыянт — месцамі ўзмацніць, разгарнуць, некалькі сцэн дапісаць... Спектакль ішоў з вялікім поспехам. Ролі выконвалі Юрась Жыгімонт, Ігар Сігоў, Анатоль Кот, Вольга Лужкоўская... Спектакль вазілі ў Варшаву.

***— Дзякуючы вам увага да фантастычнай літаратуры дагэтуль застаецца адным з галоўных трэндаў часопіса «Маладосць». Як адбыўся ваш зварот да гэтага жанра?***

— У мяне было таямнічае дзяцінства. Адбывалася шмат неверагодных рэчаў, на якія я ўсё шукала і шукала адказы. Скажам, дзесьці каля 12 гадоў у мяне ледзь не трапіла маланка: проста побач праляцела вогненная палачка, ярка ружова-аранжавая... Калі б я трошкі падалася наперад, то ўсё — мы б зараз з вамі не размаўлялі, але я адхінулася назад, і маланка ўвайшла ў зямлю. Неўзабаве пасля гэтага я пачала пісаць вершы. Былі і іншыя даволі таемныя выпадкі, якія я апісваю ў аповесці «Фальварак каменнай бабы».

Працяг на стар. 15 (9) »

# «Ой вы дзевачкі беларускія»

**БЛІСКАВІЦЫ: Анталогія беларускай жаночай паэзіі міжваеннага перыяду / Бібліятэка «Кнігарня пісьменніка» Саюза беларускіх пісьменнікаў. — 2017. — 448 стар.**

Рэцэнзія — жанр са сваёй рытуальнасцю: сказаць пра аўтара — 61 паэтка, абазначыць кантэкст — міжваенны перыяд (адным радком тут не абыдзешся), можна яшчэ пару рэверансаў, але гэта па сітуацыі. Як бачым, са свежанькай анталогіяй беларускай жаночай паэзіі міжваеннага перыяду «Бліскавіцы» не так і проста…

Асабліва з улікам таго, што ўся фонавая інфармацыя, увесь




неабходны лікбез падаюцца ў прадмове і пасляслоўі, і паўтарацца асабліва не хочацца. Усё, што вы хацелі або не хацелі ведаць пра беларускі феміністкі рух, знойдзеце там выкладзеным лагічна і ясна, а ў нагрузку — канцэпцыя выдання: чаму менавіта такі падыход, такая перыядызацыя і такая тэрміналогія.

Тут можна нерытуальна падзякаваць укладальнікам — Аксане Данільчык і Віктару Жыбулю. Зразумела, што ў гэтую кнігу ўкладзена шмат нябачнай і працяглай працы: архіўныя пошукі, каментаванне, распрацоўка канцэпцыі…

«Бліскавіцы» — гэта, як мінімум, дзве нагоды для радасці. Пра першую напісала Ганна Янкута ў артыкуле «Жанчыны вяртаюцца з нябыту» – з назвы ўсё ясна. Другая — з нябыту вяртаецца частка міжваеннага перыяду, і можна не глядзець зайздросным вокам на ўкраінскую серыю «Наші 20-ті», бо і ў нас справа рушыцца. Прытым прафесійна і якасна (са свежавыдадзенага можна згадаць таксама «Беларускі тэатр 1920–1930-х: адабраная памяць» Андрэя Масквіна).

Дык чаго ж, чаго захацелася ім – аўтаркам, што сталіся суседкамі пад адной вокладкай, бо і ў сваім часе воляй лёсу яны апынуліся спадарожніцамі. Людзьмі звацца — гэта само сабой. Але, як і ў кожных выпадковых спадарожнікаў, гэтае жаданне пастулявалася вельмі адрозна, што канцэптуальна, што стылістычна. Розныя вагавыя катэгорыі тут відавочныя. Для многіх прадстаўленых у анталогіі паэтак вершаваная творчасць стала выдаткам ліквідацыі непісьменнасці. Яны не саромеючыся карысталіся з рыфмаў «сонца — бясконца», «вочы — ночы», бадзёра і наіўна рыфмавалі на злобу дня, але ж і прынеслі нам новы жорсткі раманс. Прынамсі, аматарам інсітнага мастацтва будзе чым насалодзіцца.

А побач — творы, што сталі хрэстаматыйнымі, і тыя, што, як мінімум, дэманструюць культуру вершавання. Так, нізка Канстанцыі Буйло чым не праўдзівы інтымны дзённік са сваёй драматургіяй? Экспрэсіўная, энергічная, разняволеная ў сваім пошуку паэзія Ганны Брэскай дыхае маладосцю і прагай жыцця — поўнага і гарманічнага. У вершах Зоські Верас — абсалютная безабаронная аголенасць, яе жывая душа, глыбокае рэлігійнае пачуццё. У Яўгеніі Пфляўмбаўм усё яркае — лексіка, экзотыка чужых краін, палкае каханне. І ніякага табе станка ці хаця б у полі калосся… Сацзаказ практычна ігнаруецца, нават у вершы «Турксіб» яна назіральніца, а не ўдзельніца грандыёзнага будаўніцтва. У адрозненне ад многіх і многіх працоўная разнарадка не становіцца для паэткі крыніцай натхнення і нагодай для гордасці, а вось каханы мужчына — калі ласка. Творчасць Ларысы Геніюш прадстаўленая добра вядомымі патрыятычнымі вершамі, а таксама менш заўважнымі і гучнымі, у якіх свет прыроды выглядае сапраўднай містэрыяй. Урэшце Наталля Арсеннева — адзіная, хто рэфлексуе ўласную паэзію як цалкам свядомы, прафесійны занятак. Яна валодае тэхнікай вершаскладання, зведвае натхненне, але ўсведамляе падступнасць матэрыялу: «усе словы здаюцца нямымі».

Калі маштаб таленту і адпаведна падзел «прафесійная — масавая літаратура» не вымяраецца палітычнымі межамі і абставінамі, то свабода слова і ўсё адтуль вытворнае — так. Таму ў кнізе прадстаўленыя два раздзелы: «Паэткі Усходняй Беларусі і Расіі», «Паэткі Заходняй Беларусі і Латгаліі». Будзе няпраўдай казаць, што такі падзел становіць непераадольную мяжу. Па абодва бакі прадказальна рэфлексуецца жаночая доля-нядоля, нечакана шмат змагання і нячастае, але кранальнае жаданне ляцець да зор, якое суседнічае з рэчамі вельмі зямнымі; па-над усім гэтым — фальклорная традыцыя і цень Алаізы Пашкевіч (Цёткі). Далей — варыяцыі, прытым істотна адрозныя.

Пачытаеш «Мабілізуйцеся, кабеты, да перавыбараў Саветаў!» (Валянціна Жураўлёва) — і робіцца ясна, што жанчыны Савецкай Беларусі «не выйшлі з-пад кантролю». Іх планава паклікалі да жыцця і барацьбы. Галоўнае змаганне тут, безумоўна, за пяцігодку, а ў гістарычнай перспектыве — за савецкую ўладу, якая дала жанчыне статус свабоднай, адукаванай, роўнай у правах з мужчынамі. Ідзе ўдарная праца, і ўдарна ствараецца вобраз новай жанчыны. «Я радзілася пастушкаю убогай» (Ганна Арахоўская) — «Я ў хусцінцы стаю за машынай» (Антаніна Шунэйка) — «Давай дарогу бабе вольнай» (К. Драбышэўская), – так выглядае тыповая гісторыя жыцця. Ад лапцюжнай вёскі — да фабрычнага станка, ад сямейных няшчасцяў і мужа-п'яніцы — да стваральнай, натхнёнай працы.

Паралельна гэтай хвалі лозунгаў, перадозу клічнікаў, радасці ці яе імітацыі, агітацыі для самых маленькіх (Л. Путырская, Ірына Кагаsuccoўская), ад якой вусцішна, складана пісаць чыстую паэзію. Наля Маркава спрабуе мімікрываць: да сваёй мінорнай, чуллівай лірыкі белымі ніткамі, не дбаючы пра супадзенне рытмікі, прышывае аптымістычныя канцоўкі альбо недарэчна спрабуе прымірыць несумяшчальнае — уласную паэтыку і сацзаказ:

*Я песні —*
*Срэбныя каралі —*
*Заўю ў чырвоны*
*Сцяг.*

Зінаіда Бандарына да балады пра страчанае каханне і спробу самагубства прышпільвае слаба матываваны жыццесцвярджальны фінал: «У краіне свабоднай за творчаю працай / Так хочацца творчай адзінкаю жыць». Спроба, аднак, не была залічаная. Крытык Ю. Дворкіна вельмі няўхвальна адгукалася і на канкрэтны верш, і на зборнік З. Бандарынай у цэлым.

Прасавецкая паэтыка, зрэшты, таксама давала збоі. Палымяныя агіткі Валянціны Жураўлёвай цвёрда трымаліся лініі партыі, але форма прыпеўкі нівелявала ўсю сур'ёзнасць і надавала ім непрадбачанай іранічнасці:

*Пяцігодачка радная,*
*Шпар далей, наддай-ка жару.*

У Заходняй Беларусі было, між тым, не менш горача. Тут рыфмавалі не ўласную працоўную біяграфію, а гісторыю Беларусі, тут пісаліся вершы-маніфесты, адозвы, баявыя лісткі, — усё дзеля права быць свабоднымі на сваёй зямлі, наогул мець сваю зямлю, а не «чужую бацькаўшчыну». З паэтак, што прадстаўляюць Савецкую Беларусь, толькі Ядвіга Бяганская незнарок ператварала асабістае ў палітычнае: вершы, прысвечаныя рэпрэсаванаму мужу, чытаюцца халоднай вясной 2017-га вельмі актуальна. Пісаліся яны, натуральна, без надзеі на друк. У Заходняй Беларусі канцэнтрацыя кратаў у вершаваных радках зашкальвае, зноў-такі, як і ў сёлетняй стужцы навін!.. Тут і прысвячэнні мужам, зняволеным польскай дэфензівай, і ўласны досвед. «Забіваюць усё, што міла, / Звонячы ключамі…», — пісала Вера Мурашка з астрога…

Жанчыны актыўна ўключаліся ў барацьбу і, як маглі, занатоўвалі адпаведны досвед. У вершы «Ідзі» Вера Мурашка нетрадыцыйна размяркоўвала сацыяльныя ролі: сама бралася быць будзіцелькай, а натхняльніцай ёй — зноў нечаканка — станавілася старэнькая бабулька. Пафаснасць і ваяўнічасць, адпаведна, тут роўныя нулю, калі наогул не ў мінусе:

*Выйшла я з хаткі —*
*дарожка ідзець:*
*Ах! во — насустрач бабулька паўзець;*
*Багаслаўляе і кажа: «Ідзі,*
*Па вёсках сялян барджэй*
*пабудзі».*

Змаганне за радзіму, любоў да яе, што існавала не чамусьці, а насуперак, адсутнасць свабоды, якая заяўлялася абсалютна прама: «Ды няма свабоды слова, каб дакончыць гэты верш» (Алена Цапрынская) — было ад чаго віраваць пачуццям, і не заўсёды быў час шукаць ім мастацкага выяўлення. Жанчыны тут захлыналіся патрэбай выказацца пра набалелае, прагай разбурыць муры турмы. Свабода казаць пра свае краты — тое, чаго не мелі іх каляжанкі ў Савецкай Беларусі. Тым заставаліся падтэксты, намёкі, непрамое выказванне.

Але і ў Савецкай, і ў Заходняй Беларусі жанчыны з яркімі біяграфіямі (часам яны засьмяваюць вершы і выразней сведчаць пра свой час) чакалі вясны, традыцыйна проціпастаўляючы яе зіме і нагружаючы ўсімі звыклымі канатацыямі. Сёння гэта счытваецца з такім пазнаваннем і паразуменнем, нібы нешта паблыталася ў раскладзе цягнікоў: ці то мы апынуліся ў іхным, ці то яны ў нашым. Магчыма, таму і зборнік «Сумёты агню» паэткі-сучасніцы Ганны Новік раптоўна прыпісаны аўтарству яе цёзкі з Заходняй Беларусі…

Кніга, якая здавалася важнай для гісторыі літаратуры (і ёсць такой), звернутая да нас больш, чым таго чакаеш. Збіраешся чытаць пра далёкае, а чытаеш у тым ліку і пра сваё. І думаеш пра сваё ж, пра тое, як мы суседзім у сваім часе, на сваіх раздарожжах. Што тут скажаш?..

**Алена Карп**

# «Саюз анёлаў, ворагаў» ды этыка

**Камісія па этыцы Беларускай асацыяцыі журналістаў пастанавіла, што ў матэрыяле Марыны Коктыш «Саюз анёлаў і ворагаў» («Народная воля») дапушчаныя парушэнні прафесійнай этыкі.**

Як гаворыцца ў прынятым рашэнні, «прыкметаў мовы варожасці ў матэрыяле не зафіксавана. У той жа час у ім утрымліваецца шэраг ніяк не аргументаваных сцвярджэнняў».

Між іншым, Камісія адзначыла, што ў матэрыяле ёсць недакладная інфармацыя адносна страты маёмасці Саюза беларускіх пісьменнікаў у сувязі з нібыта здачай свайго офіса пад штаб аднаго з апазіцыйных кандыдатаў. Згодна з прадстаўленымі дакументамі, маёмасць была страчана раней (яшчэ ў 1996 годзе).

«Камісія вымушана адзначыць таксама, што ў матэрыяле не даецца слова тым, каго аўтар падвяргае крытыцы, інакш кажучы — арганізатарам з'езда, другому боку канфлікту», — гаворыцца ў пастанове Камісіі па этыцы БАЖ.

На думку СБП, у згаданым артыкуле было тэндэнцыйна асветлена правядзенне XVII справаздачна-выбарчага з'езда ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў», а таксама былі дапушчаны скажэнні фактаў, маніпулятыўныя сцвярджэнні і ацэнкі. Усё гэта, як палічылі заяўнікі, дыскрэдытуе дзейнасць старэйшай прафесійнай творчай арганізацыі, абражае гонар і годнасць сотняў беларускіх літаратараў.

**Паводле «Радыё Свабода»**

# «Экслібрыс» імя Францыска Скарыны

**Сакратарыят Саюза беларускіх пісьменнікаў нагадвае аб працягу прыёма прац на конкурс «Экслібрыс», які сёлета мае імя Францыска Скарыны, прымеркаваны да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання і прысвечаны мастацкаму перакладу на беларускую мову.**




Да ўдзелу запрашаюцца аўтары ва ўзросце да 35 гадоў, якія перакладаюць паэзію, прозу або эсэістыку з любой мовы на беларускую. Тэматыка твораў — любая. Прымаюцца пераклады, якія раней нідзе не друкаваліся. Аб'ём працаў — да 1 аўтарскага аркуша (40 тысяч знакаў з прабеламі для прозы і эсэістыкі; 700 радкоў для паэзіі).

Тэксты на конкурс можна дасылаць файламі ў фармаце .doc да 15 ліпеня 2017 года на электронны адрас sbp@lit-bel.org, пазначыўшы тэмай ліста «Экслібрыс».

У лісце мусіць быць наступная інфармацыя: імя, прозвішча, дата нараджэння ўдзельніка, кантактны нумар тэлефона і e-mail.

Па выніках конкурсу мяркуюцца публікацыі ў часопісе «Дзеяслоў», «новачасным» дадатку «Літаратурная Беларусь», а таксама выданне асобнай кнігі (пры ўмове наяўнасці аўтарскага права).

# Чалавек, якога мне не хапае

Васіль ДРАНЬКО-МАЙСЮК

**Беларускія пісьменнікі ведалі — мая бабуля, Валянціна Міканораўна Шчадрына, дапаможа вырашыць любое пытанне. На яе разлічвалі. Многія называлі сваім лепшым сябрам.**



**В.Шчадрына. 1949 г.**

28-га траўня ёй споўнілася б 90 гадоў. У брэжнеўска-гарбачоўскія часы яна працавала ў сакратарыяце Праўлення СП СССР — кансультантам па беларускай літаратуры. У перакладзе Валянціны Міканораўны выходзілі кнігі Анатоля Кудраўца, Івана Чыгрынава, Івана Пташнікава, Яна Скрыгана, Міколы Гіля…

Уладзімір Караткевіч, пасля яе перакладу рамана «Каласы пад сярпом тваім», давяраў свае будучыя творы толькі ёй. Леанід Дайнека прапаноўваў стаць перакладчыцай усіх яго гістарычных раманаў. Спрыяла яна не толькі ў літаратурных справах. Дзякуючы актыўнаму ўдзелу Валянціны Шчадрыной быў датэрмінова вызвалены з ЛТП Міхась Стральцоў…

Калі ж у 1987 годзе выйшла на пенсію, то, не маючы пасады, перастала быць цікавай для большасці свых «найлепшых сяброў».

Бабуля мне казала: «Сапраўднае сяброўства не ўласціва беларусам. Успомні, як пакутваў ад душэўнай чэрствасці Янкі Купалы Якуб Колас, Кузьма Чорны купляў дружбу Пятра Глебкі гарэлкай, Міхась Стральцоў не дачакаўся прыезду да сябе ў ЛТП сваіх блізкіх прыяцеляў». Раней прыхільніца светлых фільмаў Жэрара Філіпа, на пенсіі палюбіла экзістэнцыяльныя драмы Жана-Пьера Мельвіля. Асабліва часта пераглядала фільм «Самурай». У гэтых стужках галоўныя героі (паліцэйскія, бандыты, стукачы, прастытуткі, дэтэктывы) перажываюць вялікае расчараванне.

Бабулі было цікава разгадваць унутраную драму таго ці іншага мельвілеўскага героя.«Мне падабаюцца персанажы Мельвіля. Яны духоўна ўзвышаюцца над сваімі расчараваннямі. Вось да чаго трэба імкнуцца, — казала яна. — Старайся не паказваць сваю крыўду, хавай эмоцыі, якія выяўляюць тваю слабасць. Асабліва калі будзеш сварыцца са сваёй дзяўчынай. Калі яна пачне крычаць: проста надзень плашч, капялюш і з арыстакратычным спакоем Алэна Дэлона ідзі гуляць па горадзе», — вучыла яна мяне, школьніка.

Сама ж шкадавала, што ў маладыя гады жыла збольшага аднымі эмоцыямі.

Яна выйшла замуж за простага рускага хлопца Анатоля, які быў родам з сяла Канстанцінава, радзімы Сяргея Ясеніна. Мой дзядуля меў няўрымслівы ясенінскі характар. Жарснае ўзаемнае каханне насуперак усім і ўсяму, такая ж вялікая ўзаемная рэўнасць, бурныя прымірэнні і развод, — такі вынік іх супольнага жыцця. Да апошніх сваіх дзён бабуля і дзядуля не маглі спакойна ўзгадваць адно пра аднаго: крыўды, папрокі, нечаканыя ўспаміны пра іх нядоўгае, але сапраўднае шчасце, непрыхаваная жарсць — усё гэта нікуды не знікала і заставалася з імі.

Бабуля хацела, каб я навучыўся валодаць сваімі эмоцыямі. «Бяда беларусаў, што многае яны робяць не думаючы», — казала яна і праводзіла такую гульню: я павінен быў з кнігай на галаве прайсці з аднаго канца пакоя ў другі. Бабуля магла пачаць мяне смяшыць, палохаць, усяляк збіваць з панталыку, я ж не мусіў звяртаць ніякай увагі і, захаваўшы кнігу на галаве, дайсці да канца пакоя. Як жа яна радавалася, калі я выйграваў. Тады яна абавязкова гатавала штосьці-небудзь асабліва смачнае, напрыклад, катлеты, якія ў яе ўдаваліся проста дзівоснымі; смачнейшых я ніколі не еў у сваім жыцці.

Калі яна прыйшла ў 1968 годзе на пасаду літаратурнага кансультанта, нашы пісьменнікі прыемна здзівіліся. Перад імі была не сухая чыноўніца, а вясёлая, артыстычная, кампанейская жанчына, якая цудоўна ведала беларускую мову, непадманна любіла родную літаратуру.

Янка Брыль быў рады з ёю пагутарыць, Іван Чыгрынаў у спробе быць дасціпным забываў пра сваю знарочыстую важнасць, Васіль Быкаў захапляўся яе харызматычнасцю і смеласцю.

Бабуля ўспаміназа: «Многія нашы пісьменнікі (я не кажу пра Янку Брыля ці Караткевіча) такія панурыя… Бракавала ім той лёгкасці, якая была, скажам, у таджыкскіх ці грузінскіх літаратараў. Я цешылася, калі мне ўдавалася прымусіць сваіх суайчыннікаў усміхнуцца, зрабіць так, каб яны пачалі жартаваць, адчулі сябе хаця б крыху такімі ж унутрана свабоднымі, якімі былі арыстакраты з «Каласоў пад сярпом тваім»».

Бабуля не магла зміравацца з маёй падлеткавай змрочнасцю: «Я была такой жа. Маленькай хадзіла па сваіх родных Вербавічах і глядзела на ўсіх, як звярок. Гэтаму былі прычыны. Мама ўвесь час казала, што я непрыгожая, няважная і толку з мяне не будзе. Не тое, што мой старэйшы брат Віктар. Усё памянялася ў вайну». «Як?» — спытаў я. «Віктар быў у партызанах і аднойчы папрасіў мяне аднесці ў лес дзве гранаты. Я ўзяла з сабой сяброўку. Ідзем па суседняй вёсцы. У руках кошыкі з травой. Мінаем апошнюю хату, у якой, чуем, грае гармонік. Раптам з яе выскокваюць два маладыя паліцаі: «Дзеўкі, пайшлі з намі! Ігрышча пачынаем, а няма з кім скакаць!» Што нам было рабіць — пайшлі. У хаце падсунулі кошыкі пад лаву і, усміхнуўшыся, закружыліся ў «Лявонісе»… Страх адчула толькі ў лесе, калі прынеслі гранаты. Мне тады было шаснаццаць. У той дзень я зразумела: чалавек, калі ўсміхаецца, — на вачах прыгажэе. Так што хочаш, унучак, каб цябе любілі, каб звярталі ўвагу дзяўчаты, усміхайся, не будзь «мяшком», як многія, і… вучыся танцаваць».



**З Іванам Шамякіным, Нічыпарам Пашкевічам і Алесем Савіцкім. 1970-ыя гг.**

Было б несправядліва казаць, што пасля выхаду маёй бабулі на пенсію ў яе не засталося сярод беларускіх пісьменнікаў блізкіх людзей. Да самай смерці яна падтрымлівала сувязь з вядомым літаратурным крытыкам Нічыпарам Пашкевічам. Другім блізкім сябрам быў празаік Алесь Савіцкі. Ідэйны апанент Васіля Быкава, Савіцкі, аднак, умеў сябраваць, умеў, калі трэба, падтрымаць Валянціну Міканораўну. Мяне ж ён здзіўляў сваёй фізічнай сілай. Калі разам з бабуляй мы адпачывалі ў канцы 1980-х у Доме творчасці пісьменнікаў «Іслач», я быў зачараваны, як гэты немалады чалавек мог адзін ссекчы сасну, несці яе, рабіць з ёй, як са штангай, фізічныя практыкаванні, а затым, пакалоўшы, пашчапаўшы, развесці вялікае партызанскае вогнішча. Для мяне, першакласніка, ён заставаўся сапраўдным суперменам.

Я сказаў пра гэта бабулі, яна жартоўна зазначыла: «Сапраўдны пісьменнік — гэта той, хто ўмее да глыбіні душы здзівіць, натхніць. І не абавязкова сваімі творамі. Успомні рускага паэта Васіліска Гнедава. Ён кулаком забіў ваўка. Пасля такога яркага ўчынку не так важна, што ён пісаў і як».

Сярод яе нешматлікіх сапраўдных сяброў вылучаўся Уладзімір Караткевіч.

«Гэты чалавек створаны з кантрастаў, — казала Валянціна Шчадрына. — Яго шляхетнасць і галантнасць магла абярнуцца капрызлівасцю і з'едлівасцю, змрочнасць нечакана прарывалася цэлым каскадам жартаў, вясёлых застольных апавяданняў. А як ён спяваў! Ён быў адзін з нямногіх нашых пісьменнікаў (магу яшчэ назваць Янку Брыля і Ніла Гілевіча), хто меў выдатны голас. За бяседным сталом мы спаборнічалі, хто больш ведае песень».

Безумоўна, мне было цікава, ці не было ў Валяніцны Шчадрыной і Уладзіміра Караткевіча рамана, але бабуля толькі здзіўлена разводзіла рукамі: «Ты што?! Я была закаханая ў многіх яго герояў, такіх нетыповых і для нашай літаратуры і ментальнасці, але ж у самога аўтара — не! Разумееш, ён быў як вялікае дзіця. Яму не каханка была патрэбная, а другая мама. Мяне цікавілі зусім іншыя мужчыны».

Іхняя дружба пачалася з перакладу «Каласоў пад сярпом тваім». Бабуля ўспаміназа, што «…ад гэтага твора немагчыма было адарвацца. Валодзя паказаў новую Беларусь: арыстакратычную, фізічна і духоўна моцную, нічым не горшую за іншыя еўрапейскія краіны. З такім аўтарам і такой літаратурай я яшчэ не сутыкалася. Зрабіць так, каб пра такую Беларусь даведаліся ў Расіі стала справай гонару…»

Гэта была сапраўдная вайна з маскоўскім выдавецтвам «Советский писатель», якое чыніла ўсялякія перашкоды для выхаду рамана на рускай мове. Рэдактары рэзалі тэкст па жывым, была арганізаваная серыя адмоўных рэцэнзій. Караткевічу часта не хапала цярпення, ён злаваўся, мог адным неасцярожным словам сапсаваць усю справу. Валянціна Міканораўна праяўляла сапраўдны дыпламатычны талент. Колькі было фармальных і нефармальных сустрэч з рэдактарамі і высокім выдавецкім начальствам! Нарэшце, у 1974 годзе пераклад выйшаў у свет. Дапамог у гэтым станоўчы водгук Мікалая Улашчыка, якому мая бабуля, як яшчэ аднаму рэцэнзенту і паважанаму вучонаму, дала прачытаць «Каласы…»

«Каб не Улашчык, нічога б не было», — казала яна.

Гісторыю змагання за «Каласы…» бабуля расказвала з такім запалам, быццам пераказвала сюжэт якога-небудзь трылера ці баевіка. Кожны вечар я, пяцікласнік, прасіў працяг гісторыі. Калі бабуля расказвала пра эпапею з «Каласамі…», мяне мала цікавіла беларуская літаратура. Мне здавалася, што ніводзін твор нашых пісьменнікаў не зможа быць напісаны цікавей за раманы Бероўза пра Тарзана альбо Брэма Стокера пра Дракулу. Бабуля сваімі ўспамінамі кардынальна памяняла маё стаўленне. За час летніх канікул, якія правёў у Маскве, я пазнаёміўся з усім Караткевічам.

А пазней бабуля пазнаёміла мяне з яшчэ адным аўтарам — А. Мрыем і яго «Запіскамі Самсона Самасуя»; гэту кнігу яна марыла перакласці.

«А. Мрый — пісьменнік адчувальнай энергетыкі. Калі мне бывае зусім сумна, што нават і Мельвіля глядзець не хочацца, я перачытваю перад сном некалькі старонак і адчуваю палёгку», — казала бабуля.

Калі ёй было цяжка чытаць самой, то прасіла, каб я для яе па ролях разыгрываў сцэнкі з рамана А. Мрыя. Я не вельмі любіў чытаць уголас, бо заікаўся, але, дзякуючы настойлівасці бабулі і паланёны гэтай прозай, паступова пазбаўляўся свайго недахопу.

«Бачыш, ты ўжо не заікаешся, — праз нейкі час казала Валянціна Міканораўна. — Скажы дзякуй А. Мрыю! Ты добра чытаеш. Відаць, станеш артыстам. Прыедзеш у Маскву, будзеш іграць у тэатры, а я прыйду на цябе глядзець».

«Але чаму ў Маскву?» — здзіўляўся я.

«Пабачыш», — адказвала яна.

Мінуў час, я і праўда пераехаў жыць у Маскву. Каля чатырох гадоў зарабляў на жыццё акцёрскай прафесіяй. Толькі бабуля мяне на сцэне не ўбачыла. Яе ўжо не было…

Успамінаю Валянціну Міканораўну і здзіўляюся.

Здзіўляюся яе ненавязлівай увазе. Да кожнага пісьменніка (ці гэта апошні графаман, ці класік) выказвала аднолькавы клопат. Ніколі не лічыла сябе добрай маці, але выдатна выхавала (адна!) дзвюх цудоўных дочак Вольгу і Людмілу.

Яе ўменне фактычна з нічога прыдумаць займальную гульню, праз якую ты можаш навучыцца больш, чым у мудрых педагагічных кнігах, натхняе мяне і сёння, калі я праводжу акцёрскія заняткі для дзяцей.

А яе мілая асаблівасць адцягваць працу да апошняга, каб затым за месяц зрабіць выдатны пераклад, — як гэта мне блізка і зразумела!

Даведнік пра беларускіх пісьменнікаў быў маёй любімай кнігай, якую мы з ёй разам разглядалі: колькі цікавага, вострага, займальнага, нешаблоннага я чуў пра таго ці іншага нашага творцу.

Дзякуючы маёй бабулі пазнаёміўся ў 1987 годзе з выдатным дзіцячым пісьменнікам Станіславам Станіслававічам Шушкевічам. Памятаю яго гнеў, калі міма прайшла Эдзі Агняцвет. У той жа вечар бабуля расказала пра ролю Агняцвет у арышце Шушкевіча. Менавіта тады я даведаўся пра сталінскія рэпрэсіі, пра стукачоў, катаў і ахвяраў…

Кожная мая сустрэча з бабуляй давала мне нешта новае.

Зараз мне яе вельмі не хапае. Вельмі.

**Красавік — травень 2017 г.**

# Аповеды



Уладзімір СЦЯПАН



## Ва́ўка

Пасля шклянкі «Партвейна» сын гападыні добра закасеў, а мне было адно весела. Мне сямнаццаты, а яму добра за сорак. Сухая пляскатая «прыма» церушылася ў пальцах, тытунь сыпаўся. Сына гаспадыні звалі Стась. Ён сам, калі мы пазнаёміліся, прапанаваў, каб менавіта так я да яго звяртаўся. Жонка выгнала Стася, і ён жыў з маці ў Крапоткінскім завулку, у вялікім прыватным доме. Юзэфаўна з сынам штодня сварылася, але ён яе не слухаў.

У доме віселі партрэты гаспадара-нябожчыка і маладой гаспадыні. Гаспадар ці не на ўсіх фотаздымках — у бушлаце чыгуначніка, а маладая Юзэфаўна то ў чорнай сукенцы, то ў белай.

У вялікім пакоі, за вазонам з фікусам, на радыятары, на пажаўцелай газеце, сушылася «Прыма». Але я толькі двойчы заходзіў у той пакой, калі аддаваў гаспадыні грошы.

«Партвейн» мы купілі ў гастраноме, на вуліцы Горкага. Стась далез да прылаўка без чаргі. Ён быў звычайны, насаты, лысаваты, шэравокі мужчына, на правай руцэ не хапала ўказальнага пальца, а таму цыгарэту трымаў вялікім і сярэднім. Ён з паўгадзіны вучыў мяне жыццю, а потым пачаў пра вайну ўспамінаць. Перапыняўся. Курыў і пачынаў зноў.

Але, відаць, я ўсё ж напіўся, бо многае не запомніў.

«Тут мы і жылі... У гэтым доме... І жыды па суседству жылі, але ў сорак другім іх на нашай вуліцы не было. Разумееш, не было. Хто паспеў — паўцякалі. Тых, якія не ўцяклі — усіх у гета. І мы маглі з'ехаць, але дзеці малыя, дом, адным словам — не паспелі... Ты на маю матку не крыўдуй, што на яе крыўдаваць... Яна такая, мая Юзэфаўна. Заўсёды табе праўду скажа, што думае — тое і скажа... І лепш сто грам выпі, а не куры...» — Стась спрабаваў гаварыць са мной, як бацька.

Ён выпіў віна. Вакно ў маім пакойчыку запатнела, як у лазні. На вуліцы сакавіцкі вечар, з бляшанага даху сыпаліся кроплі. Я іх пачуў і ўбачыў, калі адчыніў маленькую, як кніжка, фортачку. Дыхнула свежым паветрам, кроплі заблішчэлі ў жоўтым святле.

— Ён сам прыбіўся да нашага дома... Стаяў побач з ганкам і румзаў... Як ён вылез-вышкрабся з таго гета — не ведаю. Матка пусціла яго ў хату. А ён калоціцца і плача. Грыбаценькі такі дзіцёнак. Дробненькі, увесь перапэцканы, мокры. Тое пад вясну было. А што ты не п'еш? Пі тут, на тым свеце не дадут... Ён быў мінскі, але не з нашых краёў. Сваіх дзяцей я ўсіх ведаю. Мы ў той вечар памыліся, і я і сёстры, начоўкі з цёплай вадой яшчэ ў кухні стаялі. Мама і жыдка ў той вадзе памыла. Ён такі худы, такі, ну скура і рэбры. А на галаве кароста. От я запомніў. Матка спалохалася, калі яго галаву ўбачыла, а ён сказаў, што гэта «ва́ўкі». Яна яго з мылам памыла, галаву памазала зялёнкай, у маю адзежу апранула, а ўсё ягонае рыззё сабрала і спаліла ў грубцы... А на галаву яму хустку белую завязала. Тры дні ён у нас жыў. Ціхі. Яго Мішам звалі. Ён еў, спаў і ў вакно глядзеў, а на двор не выходзіў — баяўся. Потым бацька вярнуўся з чыгункі. Убачыў жыдзёнка, раззлаваўся і сказаў, што ўсіх нас праз яго пазабіваюць.

Раніцай бацька на працу пайшоў, а матка Мішу пакарміла, апранула, на бацінкі ягоныя дзіравыя паглядзела і ў мае старыя галёшы паперы напхала, каб яны з яго бацінак не звальваліся...

Ён ісці не хацеў, а яна яму пачала гаварыць, што там яго мамка галосіць і плача, бегае і шукае свайго сыночка Мішу, чакае... Ён і супакоіўся. Матка ўзяла яго за руку і павяла на Нямігу. Ён і пайшоў, і не плакаў. Сёстры спалі, а мне ён сказаў «Да свідання!».

Калі матка вярнулася, то загадала, каб я пра Мішу нікому не расказваў... А я вось табе расказаў. Цяпер можна. Ну, дапівай! Лепш сто грам выпіць, чым курыць.

На той кватэры я пражыў месяц і дзевяць дзён. Грошы Юзэфаўна брала наперад. Калі я сыходзіў у інтэрнат, то рэшту яна мне вярнула.

**2010—2017 гг.**

## Шэрая кепка

Уся справа ў стале, але гэта я толькі сёння разумею...

На вясковых могілках рухаліся ўсе няспешна, павольна, як у тумане, калі кепска відаць і ёсць небяспека паслізнуцца, стаць не туды і не так. Быццам ногі заблыталіся ў высокай густой траве...

Анатоль — мой стрыечны брат, прыабняў мяне за плечы. Спачатку затрымаў, нават памятаю побач з чыёй магілай. Калі я спрабаваў прачытаць на іржавай бляшанцы прозвішча пахаванага пад жалезным крыжам, ён прыабняў і сказаў, а сам глядзеў гэтым часам скрозь старыя елкі і бярозы туды, дзе раней была вёска, дзе стаяла іхняя хата. Але там густа зелянелі дрэвы: алешнік, бярозкі, вербы і асіннік... А далей, за маладымі дрэвамі, вышэзнай сцяной стаяў наш лес... Ад вёскі засталіся адно могілкі, куды бацька і папрасіў завезці яго, пакласці побач з дзедам.

«...Ты ж і не ведаеш, як мы з тваім бацькам хадзілі гуляць у суседнюю вёску? Напрыканцы вясны, у сорак сёмым. Яму сямнаццаць, а мне шаснаццаць. Пайшлі: Юзік, Васіль, я і Сашка. Маладыя ўсе — прыгожыя ў касцюмах. Цёпла. Вясна... Дык твайму бацьку, добра што ён ў кепцы быў, ударылі па галаве шворанем. Разбілі галаву, да мазгоў... Кроў ручаём лілася. Ён ляжаў пад плотам, ані рукой, ні нагой... Думалі — капут Сашку. Чэрап прабілі... А за што, каб хто сказаў? І Юзіка тады пабілі, і Васіля... А мяне не ўбачылі, я дзеўку праводзіў, толькі не дала яна мне тады... Думалі, што памрэ Сашка. Малады, дужы — выкараскаўся, акрыяў, больш за месяц з галавой забінтаванай хадзіў... Не расказваў ён табе пра гэта? Не... Разумею, бо няма чым тут асабліва і хваліцца. Я яму тады сваю кепку новую даў. Мне бацька яе ў Будзе купіў. Шэрая такая кепка... Відаць, яны мяне адлупіць хацелі, але дзе там у цемры разгледзіш, праўда? А кепку відаць — прыгожая...»

Мы стаялі са стрыечным братам побач з іржавай агароджай, пад старой елкай... І мне было спакойна, мяне яшчэ не зацяло, не пераклініла. Я слухаў, глядзеў, дыхаў.

Потым бацькаву магілу закапалі. Сярод зеляніны травы, кустоў і дрэў з'явілася залатая пляма пяску, акуратны пагорак, крыж, вянкі з чорнымі стужкамі, кветкі. Пясок быў прахалодны і чысты, а на выгляд здаваўся вельмі цёплым. Прыгожы пясочак. Радасны.

Больш за гадзіну, на аўтобусе і машынах, ехалі дамоў. Падняліся на пяты паверх. Пайшлі мыць рукі. Дружна, усе разам. Нават чарга зрабілася. Рушнікі чыстыя перадавалі адзін аднаму... Потым да стала ў пакой рушылі. Селі за вялікі стол з бутэлькамі, талеркамі, чаркамі, відэльцамі, лыжкамі, нажамі і ежай. Свечка пасярод стала́ гарэла.

Тут я і падумаў, што на маёй памяці гэты стол ніколі не раскладалі, нават на святы, і мяне — пераклініла. Я не мог гаварыць. Яшчэ мама хадзіла то ў кухню, то на балкон, прыносіла закускі, потым куццю прынесла з кухні — жоўты рыс з разынкамі, а свечка гарэла. Хто, не памятаю, але мужчына, можа, наш кум Мікалай, доўга не мог адкашляцца, і яго па спіне стукалі.. Нехта ціха пажартаваў, што ён у вёсцы, на могілках, радыяцыі набраўся, таму і кашляе.

Колькі часу ўсе маўчалі, як быццам і не ведалі, што рабіць, і глядзелі на стол. І я на яго глядзеў. Вялікі стол. Мне хацелася сказаць, што я не магу гаварыць, што мяне пераклініла, што мову адняло, але я не мог гэта сказаць, толькі ротам зяваў.

Мама паглядзела на ўсіх і папрасіла, каб Анатоль сказаў пра бацьку, бо ён тут сёння самы старэйшы і ведаў Сашу з дзяцінства. Усе пагадзіліся і ўздыхнулі з палёгкай.

Анатоль падняўся, хоць уставаць з канапы з чаркай у руцэ было нязручна. Паставіў чарку. Зашпіліў гузікі пінжака, выцер насоўкай рот.

«Я Сашку... — тут ён паглядзеў у столь, потым у стол. — Я Александра Владзіміравіча знаю, можна сказаць, з дзецтва. Он прожыл цяжолую жызнь. Когда на нашу Родзіну вераломна напалі немецка-фашысцкіе акупанты і началася вайна, то ўсе те трудные годы, што мы пражылі пад немцамі...»

Мяне пачало курчыць. Я падняўся і хуценька пайшоў на кухню. Сеў на бацькава крэсла. Перагнуўся, абхапіў галаву рукамі. Мяне калаціла. Прыйшла мама, зашумела вада, запахла валяр'янкай. Мама спрабавала ўкласці мне ў руку шклянку, але я не мог піць, бо смяяўся. У гэты момант мяне і адпусціла.

А новую шэрую кепку паклалі бацьку ў труну. Гэта запомнілася.

**2017 г.**

## Пра смерць

У цёткі Адаркі пальцы на руках з пабітымі пазногцямі, але дужыя і спрытныя. Яна сядзіць у цяньку, на ганку, на ўслончыку, і спрытна дастае вялікай шпількай з вішань костачкі. І рукі, і алюміневы таз, і вядро ў яркіх пырсках, а пальцы і пабітыя пазногці — чырвоныя.

Костачка ценькае ў місу, вішня падае ў таз.

У хаце на канапе ляжыць і чытае мой стрыечны брат. У яго пад босымі нагамі газета «Гомельская праўда», каб пасцілку не запэцкаць, у руках кніжка. Гучна грае радыё. Вакно адчынена, а калі ў хату забягае Жанка — унучка цёткі, то пухіром выпінаецца гардзіна, і цётка нервуецца.

Дзяўчынцы восем, яна дачка майго стрыечнага брата, які жыве ў Мінску. Яна апранутая ярка, па-гарадскому. Але яе імя цётцы не падабаецца. Ну якая Жанка?

Гэтая самая Жанка падышла, кранула бабулю за плячо. Тая павярнулася.

— І ты памрэш? — спытала васьмігадовая дзяўчынка.

Чырвоная костачка ценькнула ў таз, а не ў місу.

— Збіла ты мяне. Трапіцца табе зімой — зуб зломіш.

Жанка стаяла і цярпліва чакала.

— Памру... А куды ж я дзенуся, — адказала цётка і засмяялася.

Жанка так спужалася таго бесклапотнага смеху, што сабралася плакаць. Яна адвярнулася і пабегла ў хату, дзе мой стрыечны брат чытаў кніжку, шоргаў пятамі па газеце, дзе грала радыё, а падсіненую гардзіну скразняк выцягнуў на вуліцу...

А дзе ў той момант быў я? Не магу згадаць... Але дакладна ведаю, што было гэта летам шэсцьдзесят сёмага.

**2017 г.**

## Пра каханне

Даўнавата было.

Зайшла да нас былая суседка па камунальнай кватэры — баба Ева. Яны з мамай сядзелі на кухні і гаварылі пра сваё. Спачатку яны разважалі пра памідоры, пра цукар, які трэба мераць і дадаваць лыжкамі, пра накрыўкі капронавыя і жалезныя. Потым баба Ева перайшла да галоўнага. Тут я адклаў кніжку і пачаў слухаць.

«Што я думаю, раскажу табе, Наташа. Як падумаю пра гэта, дык заснуць не магу. Вось памру хутка, закапаюць побач с Васілём... А ён жа маладым і прыгожым памёр, усяго та сорак і было. А я такая старая-старая, мне ж бяз году восемдзесят. Як сустрэнемся там — не панараўлюся яму такая брыдкая. Не будзе ён мяне любіць. Ён жа малады, а я...» — Баба Ева захліпала, а потым і закашлялася.

Мая мама маўчала.

А я спрабаваў уявіць тую дзіўную сустрэчу, бо памятаў вусатага Васіля ў цёмна-сінім пінжаку з бліскучым медалём.

**2017 г.**

# За мяжой салаўінага лета



Віктар ЯРАЦ

* * *

*Свет даждажом абмыты.*
*Нібы на выданне*
*прычасаны ветру чыстым*
*грабянцом*
*і каліна ў ягадах спрытна*
*і старанна,*
*і бяроза юная для якіх ганцоў?*

*Пад цярністым небам*
*на шляхах цярністых*
*вечнасцю асвечаны позіркі і дні.*
*І каліна ў ягадах, і бяроза лісцем*
*па складах вычытваюць*
*летапіс зямны.*

* * *

**Алесю Жуку**

*Выпечкай сонца — кастрычніка*
*дрогкія кроны.*
*Ранак варожыць пра вечар і цёмнай,*
*і жоўтай травой.*
*Лісце чые галасы не забыла,*
*чые не забыла імёны —*
*носіць каму, як заўжды,*
*па прамой і крывой?*
*Яблыня яблык апошні хавае*
*ў галінах, трымае —*
*ён падарункам для ўласнай,*
*яшчэ не намёрзлай душы.*
*Гук пералётны — за далечу,*
*за небакраем.*
*Зноў зацяжныя спеюць*
*павольна дажджы…*

* * *

*Ты праводзіла ў шлях развітальны.*
*Што было — знаем толькі мы.*
*Быў мароз — рэпрадуктар вакзальны*
*ахінуты дыханнем зімы.*

*Ад'язджаў назаўжды.*
*Сустрэчы*
*больш не будзе — ці снежань, ці май.*
*Помню позірк твой.*
*Помню той вечар.*
*Вочы там гаварылі:*
*— Бывай…*

* * *

*На дне вакзальнага бакала —*
*журба і смех і гарката.*
*Хто піў з яго? Каго трымала*
*чыя тут шчодрасць-дабрата?*
*За вокнамі гукалі вокны*
*вагонаў да каго піць чай?*
*Дзень абяцаў, наскрозь прамоклы,*
*ці радасць, ці адчай?*

* * *

*Драўляныя хаты з душою*
*сасны баравой —*
*яна каранямі пад мохам*
*знаходзіла сілы*
*і ўвысь па ствале днём і ноччу*
*жывіцай — густою смалой —*
*расла і зялёныя крылы*
*пра нешта ў нябёсаў прасіла.*

*Драўляныя хаты сыходзяць*
*з разьбой аканіц,*
*з падлогай, што кожнай*
*масніцай*
*прыгадвае родныя нетры,*
*дзе смагу ў спякоту*
*з дарог наталіць*
*ідуць у чарніцы стамлёныя*
*вечнасцю ветры…*

* * *

*Цалуе вочы глыбіня сама,*
*цалуе дождж і берагі, і плёсы.*
*Яшчэ не заўтра сцюжнасцю зіма*
*след ахіне апошняга пракоса.*
*Яшчэ не заўтра ўкрые рэкі лёдам*
*і замяце віхурнасцю ў лугах*
*чмялінае гняздо.*
*Яшчэ самі ў вірах*
*рыбацкага вясла пачуюць*
*лёгкі ўзмах*
*і голас цеплахода…*

* * *

*…і зверабой, што зацвіце на кручы,*
*гняздо на грушы-дзічцы над ракой —*
*усё вятрам і выраям агучваць,*
*вяртаючы жаданняў цёплых рой.*
*Што ўзыйдзе тут, праклюнецца,*
*праб'ецца —*
*адкажуць цвет шыпшыны,*
*вецця шум*
*і птушаняці голенькага сэрца —*
*яго ў траве падслухаць мурашу…*

* * *

*Што самае смачнае зведаў*
*у свеце?*
*Чорны жытнёвы хлеб,*
*спечаны маці*
*ў вясковай сасновай хаце.*
*Што самае хмельнае піў*
*на зямлі?*
*Пацалункі жанчыны — імі*
*грэўся з нябёсамі разам*
*і ў кучаравыя вёсны,*
*і ў аблыселыя зімы.*

* * *

*Каплічка сціплая на беразе крутым*
*паміж кустоў і бэзу, і шыпшыны.*
*Пад кручаю ля самае вады*
*жалезным табуном прэстыжныя*
*машыны.*
*І славяць мацюкамі летні дзень*
*з бадзёрым рогатам крутыя хлопцы.*
*Пад ветрам рыбінаю б'ецца на вадзе*
*аглушанае сонца…*

* * *

*Гэтым летам рабіна такая густая —*
*голле гнецца, звісае ад гронак.*
*…А вясною пялёсткавай ты пагасла —*
*ад хваробаў згасала*
*год за годам у сценах бетонных,*
*як забыты любімай бярозы лісток*
*паміж кніжных,*
*даўно прачытаных старонак.*

*Стала лета спякоты*
*парою абложнай самоты.*
*Сонца ўсё асляпляла балюча —*
*і позірк людскі, і засохлай*
*травіны без соку.*
*Урадзіла рабіна.*
*А ці мёдам напоўнены соты,*
*калі кветкі ад смагі ліпелі*
*пад зацятай сухменню высокай?*

* * *

*Перачытвае словы —*
*іх на лісці пакінула лета —*
*першы верасня дзень.*
*Для каго залатым ён прыветам?*
*Што было — помніць*
*кожнаю жылкай лістота.*
*Неба дорыць яшчэ светлынёй*
*цалаваныя ноты.*
*Дзён гарачых дыханне ў каранях*
*і натомленых кронах*
*астывае павольна ад сонечнай*
*доўгай пагоні.*
*А да раны чыёй дакранаецца*
*ранняя восень*
*неадлётным крылом,*
*дзе званкі школьныя ранак разносіць?*



* * *

*Ёсць маленне зямное.*
*А маленне аблокаў*
*пазірае спагадна ці строга —*
*запытаць у каго?*
*Пасівелі тут вокны,*
*а да іх — пасівела дарога.*
*Толькі хто тут яшчэ*
*так цікуе цікаўна*
*з вышыні, дзе гняздо на галіне*
*кляновай?*
*У пажоўклай траве спіць*
*чмяліная тайна*
*дзіўнай музыкі даўнай*
*і забытага слова…*

**7.09.2016, Гомель**

* * *

*Хто нябачны на золку святою рукою*
*ахінае мой слых ад ілжы і падману,*
*і на голас далёкі, што жыве за ракою,*
*зноў вядзе па лугах праз аблокі туману?*

*Толькі чыстыя гукі і нябёсы лагоды*
*Нагадаюць: сплылі даўніх дзён*
*параходы…*

*Спеюць вішні яшчэ*
*і яшчэ залатыя ранеты —*
*за мяжой салаўінага лета…*

**3.10.2016, Гомель**

* * *

*Дому доўг вяртаюць дрэвы лісцем —*
*ён жывіў карэнне з глыбіні*
*з цішынёй і ў сухавей віхрысты,*
*дзе круцілі жорны з пылам дні.*

*А галіна кожная трывала,*
*як магла, з трываласцю зямной,*
*і за ўсё, што зведала — спазнала, —*
*лісце аддае перад зімой…*

**10.10.2016, Гомель**

* * *

*Чыя душа пад ветрам да аблокаў*
*узносіцца не ластаўкай, не чайкай —*
*дарогаю, што чалавека крокі*
*навек сваім дыханнем абвянчала?*
*І там, у тых прасторах невымерных,*
*ці будзе ёй і холадна, і цесна —*
*маўчаць пра тое колас, поўны зернем,*
*і скрыпкі з флейтамі ўсіх гарадскіх*
*аркестраў…*

* * *

*Чаму не збярог я ў юнацтве*
*тых пісьмаў,*
*якіх не знайсці мне цяпер анідзе,*
*якія не вернеш,*
*як спеў на вадзе*
*вясновы бруісты пад восеньскім лісцем?*
*Пісьмёны ці шведскіх,*
*ці фінскіх пасланняў*
*на вокнах чытаць буду заўтра ў мароз?*
*А сёння на вецці намоклых бяроз*
*прымоўклі вароны —*
*смакуюць маўчанне.*

* * *

*Разгайданыя ранкам званы,*
*вам за вёрсты зямныя маліцца*
*і за голас бязгрэшнай сініцы —*
*ён з паўночнай ляціць стараны.*
*Праз машын выхлапныя дымы*
*ад цябе і са снегам, і з ветрам*
*незамёрзлае слова прывета*
*прынясі мне, сініца зімы.*

* * *

*На даўні боль кладзецца*
*свежы боль —*
*зусім не так, як снег*
*на снег кладзецца,*
*як цвет — на цвет,*
*што сыпле сад на дол,*
*як ліст — на ліст,*
*сарваны ветрам з вецця.*

*І ўжо адной шчымліваю струной*
*у сэрцы, у крыві гучаць бяссонна*
*той міг, што вырас гонкаю сасной,*
*і той, што парасткам прабіўся сёння.*

* * *

*Не толькі грошы прайгравалі ў карты,*
*любімых рысакоў і гончых псоў —*
*маёнткі страчвалі ў гульні азартна,*
*дзе і шасцёркі лоўка б'юць тузоў.*
*Не ведалі ні межаў, ні бар'ераў —*
*ішлі «ва-банк», паставіўшы на кон*
*пад позіркамі свечак ды ікон*
*само жыццё, дзе і любоў, і вера.*

* * *

*У рэчышчах, як чуйных капілярах*
*зямнога цела, плынь штогод мутней.*
*І не бруіцца рэчка, як раней,*
*Куды плылі жыўцы.*
*Блукае ў хмарах*
*бяссонне чыстай кроплі, што з зямлёй*
*баіцца сустракацца.*
*І шукае*
*душа людская страчаны спакой*
*на берагах.*
*І як знайсці — не знае.*

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 5 (129) | 26 мая 2017 | № 20 (534) Новы час

# Хата: жыхары, гаспадары
## (Замалёўкі на палях сямейнага альбома)



Васіль АЎРАМЕНКА

**Жыла-была адна хата. Чаму жыла? — спытаеце. І сапраўды! Хата толькі была, а жылі якраз у ёй — мышы ды каты, мухі ды павукі, макрыцы ды прусакі, іншыя насельнікі і кватаранты. І, вядома ж, не абышлося без самых прыкметных хатніх жыхароў — людзей. Людзі, увогуле, вельмі саманадзейныя істоты, бо лічаць сябе галоўнымі і бадай адзінымі насельнікамі хаты. Але нават калі ты нешта пабудаваў і лічыш тое толькі сваім, — будзь упэўнены: заўсёды знойдзецца нехта, хто будзе карыстацца вынікамі твае працы і без твайго ведама. Асаблівым нахабствам, як мне здаецца, надзелены найбольш таямнічыя насельнікі хаты — шашалі.**

### Шашаль і святло ў канцы тунэля

Сваю рыпучую дзейнасць шашалі пачынаюць у самыя ціхмяныя гадзіны, перагрызаючы маленечкімі сківіцамі бярвенне сцен. І няхай было б тое шкодніцва бязгучным, але ператварэнне здаровага дрэва ў пацяруху суправаджаецца такім шкрабучым рыпам, што лепш бы слухаць свінячае чвяканне... А галоўнае, гэтыя акустычныя дыверсанты жывуць абсалютна аўтаномным жыццём, незалежным ад сезону, надвор'я ці пары сутак. На іх не паскардзішся, як на неўгамаваных суседзяў, і не шуганеш, як марцовага ката ці брахлівага сабаку. Яны могуць парушыць і сон, і настрой, і хатні спакой.

Толькі потым, распілоўваючы старое бярно, калі-нікалі сустрэнеш гэтую пачварку ў канцы яе жыццёвага шляху — у сляпым тунэлі, шчыльна забітым сухімі вегетарыянскімі выпражненнямі. Часцей гэта бывае ўжо засушаная шкарлупка, і помста губляе ўсякі сэнс, бо расправа над маленькай муміяй не выклікае ніякіх эмоцый. Значна радзей можна патрапіць на жывога залацістага чарвячка і, расчавіўшы яго, атрымаць мізэрную кампенсацыю за шматгадовыя «рыпучыя» катаванні. Але і яна будзе перакрэслена гідлівасцю ад выгляду жаўтлявых вантроб пераможанага ворага.

А ці ж вінаваты шашаль, што, усё жыццё праводзячы ў цемры, вымушаны прагрызаць дарогу ў будучыню, у літаральным сэнсе прапускаючы яе праз свае шлункі. Да таго ж, не маючы ніякіх шанцаў выйсці за межы некалькіх бёрнаў роднае хаты. Жах! Ад такой безвыходнасці можна і зарыпець, і заскуголіць. І той скрыгат, па сутнасці, будзе адзіным, што пакіне межы жыццёвай прасторы шашаля, бо, як і пасланыя чалавекам у космас радыё-сігналы, ён сведчыць: «Я ёсць тут, я яшчэ жывы, знайдзіце і паспрабуйце вызваліць мяне адсюль».

Але парадокс у тым, што калі становіцца відно сонца — надыходзіць капец: святло для шашаля знак смяротнай небяспекі і блізкага канца. У кожнага свае погляды на дабро і святло, цемру і зло, і ў шашаля яны дакладна іншыя, чым у дзятла ці чалавека. Навошта яму сонца, якое шануюць дзюбатыя і двухногія, яму дастаткова драўлянай цемры і цішыні, якую можна так лёгка парушыць. Аднак з цеснай прасторы шашалевых тунэляў завітаем у самую хату, і пакуль у яе цёмныя куты і закуткі.

### Мухі, павукі і выратаванне прыгажосці

Што такое прыгажосць? Людзі даўно задаюць гэтае пытанне і па-рознаму адказваюць на яго. А адзін з вялікіх фантазёраў XIX стагоддзя нават прыпісаў прыгажосці ролю «выратавальніцы свету». Ад чаго яна выратуе, не было ўдакладнена, але калі давядзецца ратаваць свет ад чалавецтва, то, пэўна ж, у яе нічога не атрымаецца. Выратаваць свет ад людзей ужо немагчыма, тым больш, што людзі не могуць выратаваць нават саміх сябе. Па сутнасці, уся дзейнасць чалавека зводзіцца да ачалавечвання таго, што чалавечым не з'яўляецца. А прыгожае ў такім выпадку якраз тое, што вельмі «падобна на нас». Ці хаця б крыху нагадвае нам нашыя формы, прапорцыі ці спосабы бытнавання.

Здаровым людзям заўсёды падабаюцца людзі, але не падабаюцца павукі, смаўжы ці васьміногі, бо ў тых нелюдзяў зусім мала агульнага з homa sapiens. Непадобнасць частак выклікае агіду ці страх, а радыкальная непадобнасць (пачварнасць) — нават жах.

Вось і з павукамі мы жывём у хаце ўсё жыццё, а ніяк не можам іх палюбіць. Гідзімся ці жахаемся, хоць і шкоды ад іх не маем. Некаторыя гультаяватыя гаспадары нават лічаць іх карыснымі, бо павукі ловяць мух, адвечных ворагаў хатняга здароўя і камфорту. Хоць тыя 3–4 мухі, што патрапляюць у павучыныя пасткі, не робяць «надвор'я». Летам у хаце тусуюцца дзясяткі і сотні мух, а колькасць павукоў наўпрост залежыць ад колькасці іхніх ахвяраў. Няма мух — няма чаго рабіць і павукам. Такое можа быць у горадзе на дваццатым ці трыццатым паверсе, але ў хаце, што стаіць на сырой зямлі, побач з пуняй і дарогай, па якой ходзяць каровы — яно нерэальна. Таму і жывуць васьміногія мухаловы ў кутах і шчылінах, снуючы сваё павуцінне — другую эстэтычную непрыемнасць хатняга інтэр'ера. А першая, як вядома — гэта самі мухі.

Рой мух на вакне, над сталом ці вакол жырандолі сапсуе настрой любой гаспадыні. Бо гэта не толькі пагроза здароўю, але і прыгажосці. Акрамя таго, што хаатычная мітусня надакучлівых жужэлак не радуе ні вока, ні вуха, пасля сябе яны пакідаюць маленькія, але шматлікія сляды жыццядзейнасці, прыбраць якія не заўсёды магчыма. Заседжаныя мухамі сцены, столь, мэбля — хатняя праблема з даўніх часоў. А тое, што гэта экалагічна-правільныя (ці мо «чыстыя»?) прадукты, не парадуе і самага зацятага аматара эка-турызму...

А вось павукі наадварот — вельмі любяць мух, якія аднак пазбягаюць іхніх задушлівых абдымкаў. А хто любіць павукоў? Няўжо ніхто? З аднаго боку, быць абсалютна нелюбімым крыўдна і сумна. А з іншага?.. Радуйся, што цябе ніхто не з'есць! Знаўцы, праўда, кажуць, што некаторыя павучыхі ўсё ж любяць павукоў, бо пасля сумеснага сэксу іх ядуць (якая не па-людску прыгожая жарсць!). Так што не ўсё безнадзейна і для павука: і ён прыносіць асалоду іншым, бывае камусьці патрэбны і падтрымлівае любоўна-харчовы кругазварот жыццёвага кола... Аднак мы адхіліліся ад галоўнай тэмы — эстэтыкі; і звернемся нарэшце да павучынага мастацтва.

Хоць творчасць нашых суседзяў па хаце — павуцінне — не вельмі шануецца дбайнымі гаспадынямі, аднак яно мае адзнакі мастацтва. Па-першае, гэта вынік працы: нешта сярэдняе паміж ткацтвам, пляценнем і эксклюзіўным ліццём натуральных валокнаў. Па-другое, адчуваецца добрая геаметрычная падрыхтоўка: моцныя радыяльныя струны-промні злучаныя тонкімі паралельнымі сектаральнымі ніцямі, а ў выніку — надзейны шматкутнік-ветразь, які адчувае далікатнейшыя рухі паветра.

Кажуць, што сапраўдная прыгажосць праяўляецца матэматыкай. Павукі былі ці не першымі, хто гэта зрабіў без універсітэцкай адукацыі. Здольнасць да мастацкага пляцення і азы геаметрыі яны атрымалі ў спадчыну разам з талентам эквілібрыста і фантастычна цярплівага паляўнічага-з-засады.

Вядома, павуцінне ў хаце мала хто з нас палічыць упрыгожаннем, але сам павук, здаецца, усё ж людзей зацікавіў. Вобраз чалавека-павука, што стала атабарыўся ў мас-культуры, сведчыць пра станоўчы патэнцыял гэтай істоты. Калі не міфічная прыгажосць Дастаеўскага, то мо рэальны чалавек-павук стане выратавальнікам свету?

Небывалая моц, нечалавечы спрыт і чэпкасць разам з розумам і высакародствам homa sapiens робяць яго амаль непераможным змагаром. Але галоўны пасыл гэтай неа-фальклёрнай байкі ў тым, што абсалютнае зло перамагаецца не проста дабром, як і цемра — не святлом, а сумессю дабра і зла. Альбо так: непапраўнае зло перамагаецца правільна-кіраваным злом, якое ў працэсе барацьбы і становіцца дабром. Не зусім прыгожа і кананічна, затое эфектыўна і рэалістычна...

Між тым, хатнія павукі застаюцца маласімпатычнымі істотамі, якія ладзяць свае ціхія справы ў цёмных закутках, куды мы стараемся заглядваць як мага радзей. Гэткае мірнае суіснаванне дзвюх- і васьміногіх драпежнікаў, якія жывуць пад адным дахам, ды на розных эвалюцыйных ўзроўнях. Хаця ў літаральным сэнсе — павукі вышэй, бо месцяцца звычайна пад столлю альбо нават на гарышчы. Вось туды мы і заглянем цяпер...

### Паддашак і падсвядомасць

Гэтае месца хаты, якое людзі рэдка наведваюць, мне падаецца лепш называць паддашкам. Бо гарышча — нешта занадта вялікае і страшнае. Вышэй за гару і больш за хату. Ды й на сапраўдным «гарышчы», мусіць, жыве якаясь «страшыдла-гарылішча». А тут — усё ціха і будзённа, падняўся па драбінах на два з паловай метры — і ты ў сухім цёмным месцы, дзе няма звычных вокнаў і сцен, а два шыферныя схілы трымаюцца на кроквах і дошках, сыходзячыся над галавой.

Сапраўды — ціхамірнае і, між іншым, самае пыльнае месца пад дахам, бо за 70 гадоў існавання хаты ні разу не прыбіралася. Калі дах звонку мые дождж і сушыць вецер, у хаце — таўды-сяўды прыбіраюцца самі людзі, то на паддашку векавы пыл, вэрхал і закінутасць. Матляюцца кудлатыя шматкі старога павуціння, агідна чапляюцца за твар і са звонам лопаюцца нябачныя ніці свежага павучынага дбання. Над галавой сям-там вісяць шэрыя шархатыя кублы асіных гнёздаў, пара спарахнелых бярозавых венікаў і забытая птушыная клетка. На мяккай падлозе з тырсы, кастрыцы і прэлага лісця валяюцца старыя кухвайкі і паліто, дзіцячая калыска, школьныя падручнікі і сшыткі паўвекавой даўніны. І ўсё гэта пакрыта тоўстым слоем пылу.

**Выратаваць свет ад людзей ужо немагчыма, тым больш, што людзі не могуць выратаваць нават саміх сябе. Па сутнасці, уся дзейнасць чалавека зводзіцца да ачалавечвання таго, што чалавечым не з'яўляецца**

Як нашая падсвядомасць збірае разнастайныя жыццёвыя ўражанні, так і паддашак назапашвае старыя рэчы, якія могуць калісьці спатрэбіцца, а могуць і застацца забытымі там назаўжды. Ну, а пыл — вечная, незнішчальная субстанцыя, свайго роду ўрэчаўлёны і паслойна складзены час. Кажуць, што інфармацыя не знікае без следу, а захоўваецца ў вадзе, эфіры ці зямлі. Не выключэнне і пыл, які таксама «фіксуе» адбіткі падзей, што здарыліся на ягоным вяку, калі ён быў яшчэ «маладым» і бестурботна лунаў у паветры. Складзены ж за многія гады, ён — як нямы сведка аб мінулым. Але ці такі ўжо нямы? Мо проста мы не настолькі мудрыя і тэхналагічна ўзброеныя, каб чытаць мінулае па пылу?

А яшчэ на паддашку заўсёды жыве таямніца, бо менавіта тут бываюць і нечаканыя знаходкі, і цудоўныя пераўтварэнні, а часам пачынаюцца незвычайныя прыгоды. Ды наша хата яшчэ задужа маладая, каб захаваць царскія залатоўкі ці хаця б якія «керанкі», а ўсе «карлсаны» ды іншыя прывіды, як вядома, водзяцца толькі ў горадзе, на больш камфортных паддашках ці, бадай, ужо на сапраўдных гарышчах.

Аднак казкі і показкі — то адно, а рэальны паддашак зусім іншае. Гэта ці не самае непрыглядное месца, створанае чалавекам. А такая дэталь паддашкавага інтэр'еру, як комін, падкрэслівае гэтую акалічнасць. Крываваты, перамазаны засохлай глінай, з чорнымі пацёкамі смалы між чырвоных цаглін, ён у рэйтынгах антыпрыгажосці мог бы падзяліць п'едэстал з дашчатым сартырам без дзвярэй ці старым калгасным кароўнікам.

Аднак ягоная карысць пераважае эстэтычныя хібы. Бо комін — гэта аорта, што злучае хатнія вантробы з вонкавым светам, праз яе хата дыміць і дыхае, услухоўваецца ў неба, а зрэдчас атрымлівае ад яго знакі ўвагі. Гламур тут адпачывае. Шурпатасць і бруд часам важней за знешні бляск і глянец. І комін менавіта з тых рэчаў: ён не паддаецца татальнай гламурызацыі, бо заўсёды забіты сажай і прапахлы дымам, як вантробы зацятага курца. Але ж праз яго можна патрапіць у хату ці, дакладней, у яе «сэрца».

### Сэрца, страўнік і хатні дух

Што ў хаце галоўнае? «Падмуркі і сцены», — адкажа малады будаўнік. «Надзейны дах», — запэўніць гаспадар са стажам. «Абразы́», — запярэчыць строгі вернік. «Добрая печ», — падумае дбайная гаспадыня. І хоць кожны мецьме сваю рацыю, мне больш даспадобы апошняя думка: вядома, цэнтр хатняга сусвету — печка! Чорны гумарыст можа назваць яе

# ды іншыя насельнікі



філіялам пекла (хаця насамрэч усё наадварот, пекла — вялікая мадэрнізавая печ з функцыямі пенітэнцыярнай установы). Я ж мяркую, што печ ёсць сэрцам, душой і нават страўнікам хаты. Ужо колеры яе — чорнае нутро, чырвоныя муры і белая тынкоўка — сімвалізуюць асноўныя стыхіі: зямлю, полымя (кроў) і неба. Тыя ж сцены і дах, напрыклад, ёсць у хлява, і толькі печка робіць будынак хатай.

Печ — сакральная, бадай святарная рэч яшчэ з паганскіх часоў, бо яна дае цяпло, святло і хатні дух. Печ для хаты, як сонца для сусвету. Вакол яе круціцца хатняе жыццё: гатуецца ежа, сушацца грыбы ці зёлкі, абутак ды адзенне, прарастае солад, падыходзіць брага, грэюцца і гуляюць дзеці, спяць старыя, лекуюцца хворыя. Галоўнае ж магічна-пячное дзейства — агонь — рэгулярна ўзнікае ў яе чэраве і рэальна ўвасабляе жыццё ва ўсёй яго палкасці і красе.

Пра агонь нагаворана столькі, што лепш памаўчаць і лішні раз паглядзець на яго зыркае, няўлоўнае цела. Якое не памацаеш рукой, але адчуеш пякучы боль-перасцярогу — «не чапай мяне, мая прыгажосць смяротна небяспечная, любі мяне на адлегласці, і я буду табе карысны». І мы любім агонь, і баімся яго, і не можам без яго жыць, хаця нярэдка ад яго ж і гінем. Дзіўная любоў-страх, паранаяльная цяга да рызыкі, да балансавання на мяжы жыцця-смерці, у якой цяжка сабе прызнацца. А ці не ў гэтым сутнасць і галоўны цымус нашага існавання: каб стоячы «тут», заглянуць «туды», за край, і на імгненне адчуць сябе валадаром лёсу, гэткім пазачасовым назіральнікам таямніц сусвету. Інакш кажучы — на момант уявіць сябе проста... Богам.

«Быць Богам» — ці не самае спакуслівае жаданне чалавека! Між іншым, былі прыклады здзяйснення гэтай небывалай мары, — аб чым сведчаць рэлігійныя аповеды розных часоў і народаў. А калі было хоць аднойчы ў кагосьці, то чаму б таму не паўтарыцца зноў? Збег абставін, зман ілюзій — ерэтычных, эратычных ці проста эгацэнтрычных. Тут табе і старажытная вера ў агонь, і вечна-падступнае тленне сумніву, і зыркае полымя новай веры. Паспрабуйце, можа, і ў вас атрымаецца?..

Калі не лічыць стыхіяй нашу мову, то агонь — першая прыродная сіла, якую чалавек прыручыў, а печ, у такім выпадку, — першы спосаб, якім гэта атрымалася. Дзякуючы печы, мы можам любіць агонь без страху і боязі. Як белыя жаночыя вабноты здаюцца больш зманлівымі ў чорных уборах, так і прыгажосць агню становіцца больш эратычнай на чорным пячным фоне: калі языкі полымя ліжуць чэрань і, мяняючы колер з жоўтага на аранжавы, чырвоны ці нават зялёны і сіні, знаходзяць выйсце ў глыбіні похвы-коміна. Полымя струменіць і праменіцца, трымціць і калышыцца, імгненна мяняючы форму і застаючыся нязменна жывым і няўрымслівым, пакуль ёсць крыніца гэтай жарсці — сухія дровы.

Хутка і дымна, патрэскваючы, гарыць ясная сасна. Нечакана, па-хуліганску «страляюць» яловыя дровы, раскідваючы вогненныя пырскі і дробнае вуголле. Ціха і бяздымна, як свечка, канае сухі алешнік, сыраваты ж — незадаволена шыпіць і пускае пухіры. І толькі калі ўсе дровы перагараюць і ў пячным чарноцці застаецца міргальна-рубінавае вуголле, прыходзіць ціхае цяпло і разуменне: ахвяра агню была недарэмнай. Бо пасля яго застаўся не толькі сівы бязважкі попел, але шумная патэльня з яечняй і шкваркамі, стос гарачых бліноў, чыгуны з капустай, куляшом ці проста варам.

А таксама пах, той невынішчальны пячны пах, які б'е ў нос чужынцу — насельніку шматпавярховых катухоў — і незаўважны для хатніх тубыльцаў. Напэўна, хатні дух складаецца і з іншых пахаў: вільгаці і зямнога водару, што ідзе з-пад падлогі, дрэва і глінянай тынкоўкі — ад сценаў, столі і пераборак, зёлак, кветак, раслін і паху саміх насельнікаў хаты, склад якіх залежыць ад сезону і ахайнасці гаспадароў. Гэты пах перадаецца гаспадарам і іх вопратцы і лёгка пазнаецца сярод разнастайных водараў і смуродаў у гарадскім гармідары. І ўсё ж пячны дух, бадай, галоўны ў гэтым букеце, мо й не самы выкшталцоны, аднак моцны, пазнавальны і неадменны, як пах хвоі ў лесе, свежых булак у пякарні ці выхлапных газаў на шашы. Вось толькі «неадменнасць» яго для хаты сталася не такой і адвечнай, як здавалася яшчэ нядаўна. Ды пра гэта крыху пазней, а пакуль прынюхаемся, хто яшчэ пахне ў хаце?

### Вайна ці мір? Мышы і каты́

Насамрэч гэтая па́ра не такая і парная. У яе могуць уклініцца, напрыклад, пацукі, якія канкуруюць з мышамі, але здольны паваяваць і з катáмі. Ці больш рэдкія канкурэнты — вужакі, якія палююць на мышэй і пужаюць катоў. Аднак тут не Палессе, вужы ў хатах не жывуць, а пацукі даволі рэдкія госці нават на падворку, а таму маем класічнае «мульцяшнае» супрацьстаянне: «вайну» катоў з мышамі.

Насамрэч, па-першае, у жыцці з мышамі ваююць не каты, а людзі, якія карыстаюцца для сваіх мэтаў катовымі інстынктамі. А па-другое, стваральнікі мульцяшных прыгодаў чамусьці заўсёды на баку «братоў» нашых меншых — мышынага жыхарства, але ў рэальнасці якраз наадварот, то каты — чалавечыя песты і любімцы, а мышы — адвечныя шкоднікі, непрыяцелі і дыверсанты. З'едзеныя харчы, папсаваная маёмасць, заразныя хваробы і спецыфічны пах, — вось вынік мышынага, як у прынцыпе і любога іншага, кватаравання, у тым ліку і чалавечага.

А яшчэ — гэты нечаканы жаночы віск, які здараецца пры сустрэчы лепшай чалавечай «паловы» са жвавымі хвастатымі камячкамі. Жаночы віск сам па сабе феномен цікавы і непрадказальны, але страх жанок перад мышамі — нешта містычнае. Не такі, здаецца, і страшны звер — някідкі шэры колер, пужлівасць, асцярожнасць, часам, праўда, і нахабства, не менш за жаночае, але столькі гвалту, быццам бы ад страшнага злодзея ці монстра.

Кажуць, больш за жанчын мышэй баяцца толькі сланы. Дзіўная, на першы погляд, кумпанія. Аднак ёсць у іх яшчэ адна агульная рыса: «доўгі нос», які сунецца ўсюды, куды трэба і не трэба. Праўда, у сланоў ён завецца хобатам і дазваляе лацвей харчавацца, а вось у жанчын гэта ўсяго толькі... дапытлівасць.

Каты́ — галоўныя мышыныя апаненты, таксама маюць пахі, хоць у параўнанні з сабакамі (якія на вёсцы ў хатах не жывуць) лічацца чысцюлямі. Калі не звяртаць увагі на кашэчыя экскрэменты, у прынцыпе, так яно і ёсць, бо каты рэгулярна прымаюць «языковы душ» (не блытаць з «моўным»!), то бок проста вылізваюць сваё футра.

Назіраючы за гэтай гігіенічнай працэдурай, прыходзіш да высновы, што акрамя генетычна-рытуальнага тут ёсць іншыя прычыны: кату гэта прыносіць задавальненне. Я ніколі не лізаў сваё цела, за выключэннем рэфлекторнага злізвання крыві з ранкі на руцэ, але думаю, для ката гэта не толькі падрыхтоўка да доўгага сядзення ў засадзе, але і праява... нарцысізму. Самалюбаванне і самазакаханасць, здавалася б, чыста чалавечая з'ява, але ў катоў яна сустракаецца яшчэ часцей, чым сярод нас.

Практычна, кожны кот па сваім характары — эгаістычны сноб, індывідуаліст і самазадаволены гультай. Рэгулярнае вылізванне футра ды інтымных месцаў лішні таму доказ і проста вынік іхняга прыроднага самашанавання. Канечне, кошкі не такія гультайкі, як каты, бо і мышэй ловяць лепш, і дбаюць пра сваё патомства, і гігіенічная «самазакаханасць» іх таксама больш рэгулярная, а як па-жаночы, то і больш старанная.

Мо сённяшніх людзей вабіць у катах не столькі здольнасць лавіць мышэй (у кватэрах іх даўно няма), а вось гэты практычны нарцысізм, звычка да самаачышчэння і падтрымання сябе ў «добрай форме». І гэта не толькі феномен чыста знешняга «гламуру і сексуальнасці», але і прыклад падтрымкі свайго фізіялагічнага здароўя, з якім у многіх цяпер ёсць сур'ёзныя праблемы.

Аднак у нашай хаце каты вадзіліся не дзеля эстэтыкі ці недахопу пад гаспадарскай рукой «жывой душы», а менавіта праз мышэй. Адсутнасць ката на працягу аднаго-двух тыдняў аўтаматычна прыводзіла да мышынага панавання: асмялелыя «шэрыя кватаранты» не толькі шамацяць у шуфлядах, точаць па начох харчы і нерухомую маёмасць, але і беспакарана ходзяць па хаце днём. Каты, і асабліва кошкі, не дазваляюць ім такога раздольнага жыцця. Ёсць, праўда, атрута, якая часова можа адвадзіць непажаданых жыхароў, аднак яна мае сур'ёзны недахоп: падохлыя мышы з-пад падлогі выпускаюць такі «нясмачны» дух, што на пэўны час робяць хату малапрыемнай для жыцця. Таму вясковыя каты — незаменныя хатнія тубыльцы, вартавыя нямірнага суіснавання і раўнавагі з адвечным мышыным злом. А якое яшчэ зло бывае ў хаце?

### Гісторыя кватарантаў: французы і клапы

Гісторыя хаты пачалася ўлетку 1942 года, калі замест згарэлага хутара яе збудавалі тры браты, малодшаму з якіх не было і васямнаццаці. Па волі лёсу ён і стаў ейным гаспадаром (а яшчэ праз 40 гадоў маім цесцем).

Так выйшла, што ў першую ж восень у хаце з'явіліся кватаранты — яе акупавалі французы. А паколькі акупаванай тады была не толькі хата і вёска, але і ўся краіна, то з'яўленне кватарантаў-вайскоўцаў і высяленне гаспадароў не вельмі каб здзівіла. Па меркаванні мясцовых усёзнаўцаў, то былі бельгійцы, бо гаргаталі між сабой картава, не па-нямецку, і з мясцовымі паводзілі сябе больш галантна, чым тылавікі-арыйцы. Але ж галоўнае, што здзівіла тутэйшы люд і дазволіла лічыць іх «французамі» — новыя кватаранты елі жаб. Проста лавілі тутэйшых рапух і, раскаліўшы на вогнішчы накрыўку ад кацялка, дадаўшы крыху масла, пляскалі на гарачы метал бедных земнаводных, якія ў момант спякаліся. Сапраўды, такімі гурманамі і кухарамі-эстэтамі маглі быць толькі французы.

Немцы ж, як і беларусы, былі звычайнымі яйка-, сала- і бульбаедамі і не разумелі гэткіх гастранамічных выкшталцонасцяў. Не ведаю, ці адчулі тады голад з-за «французскай» прысутнасці нашы буслы, але мясцовая дзятва (а тым больш дарослыя) катэгарычна адмаўлялася ад прапаноў пакаштаваць еўрапейскі дэлікатэс. Чаго не скажаш пра цукеркі, якімі калі-нікалі кватаранты частавалі малых. Але кватараванне «французаў» мела і адзін станоўчы вынік.

У новай хаце разам з майном гаспадароў са старой сядзібы перасяліліся клапы. «Французы» вельмі хутка адчулі такое суседства і вырашылі праблему па-вайсковаму радыкальна. Пратравілі лавы ды сталы нейкай «хіміяй», а паяльнымі лямпамі прасмалілі ўсе шчыліны і пазы між бярвенняў хаты, дзе б маглі хавацца начныя «дыверсанты». Гаспадары вельмі баяліся, каб не загарэлася толькі што збудаваная хата, але «анты-партызанская» аперацыя прайшла паспяхова і кусучыя «кватаранты» зніклі.

Праз год прыбраліся і аматары жабаў, і з тых часоў ні клапоў, ні «французаў», ні іншых кватарантаў з захаду ці ўсходу ў хаце не было. Ну, а госці, сваякі, як потым і зяці, — то ўжо свае, мірныя «акупанты», з якімі гаспадарам даводзілася неяк суіснаваць у падноўленай хаце, — у пяцідзясятыя гады да вялікай прыбудавалі меншую палову і сенцы.

А жыццё ў «пяцісценцы» — то ўжо іншая, навейшая гісторыя, пра якую можна будзе распавесці іншым разам, як будзе болей часу. Пакуль жа мяне чакаюць сур'ёзныя справы: трэба бурыць сенцы і разбіраць рэшткі той самай печы, якая 70 гадоў была «сэрцам і страўнікам». Вось такое бязлітаснае хатняе жыццё-быццё! Але ж, дзякаваць Богу, яно, як і гісторыя хаты, яшчэ працягваецца...

# Зорным Шляхам
## Размова з Міколам Купрэевым*



Васіль МАКАРЭВІЧ

**1**

*Біў жвірам у дно*
*Разлзлаваны гудрон.*
*І вёрсты мільгалі, бы звёны раскутыя.*
*Як з чоўнам ка мне не падлазіў Харон,*
*Дапаў да цябе я, мой дружа,*
*На скутары.*
*Нашто уставаць?*
*Калі ласка, ляжы!*
*Натузаўся ты па завязку з хамуйламі.*
*Прызнайся, пяску табе груды-лаўжы*
*Ў Прakруставым ложку грудзей*
*Не намулялі?*
*На ўзмежку ў рыззі*
*Млеюць скрозь палыны.*
*І б'юць перуны над густой кукурузаю.*
*Няўжо самазвалы ўвесь дзень валуны*
*У прорву нямую выкочваюць*
*З кузава?*
*А клопат араў*
*Тыдні ў сто лемяшоў.*
*І ты з папіражкаю, тонкаю палачкай,*
*Праз вэрхал і гвалт чыкільгаў ды ішоў*
*На стрэчу з капрызнаю музай,*
*Як панначкай.*
*Як бегла яна*
*З-за вішнёвых завей*
*Не толькі з адной навізной і пакункамі.*
*Глядзела пранізліва-смела з-за вей, —*
*Прамою была для цябе*
*Апякункаю! <…>*
*Хоць плёткі і чуў*
*Праз паркан ледзяшоў*
*Сарокі залётнай, дурной правакатаркі,*
*А ўслед бы за музай папоўз і пайшоў*
*У свет, бы ў капейку, і нават*
*На катаргу.*
*А ўседзець не мог*
*І за тлумным сталом,*
*У хаце ці недзе у іншым пристаніішчы,*
*Калі век гразіў, кастапраў-касталом,*
*Палессе разрыць, дном угору*
*Паставіўшы!*
*Хоць часу было,*
*Як заўсёды, ў абрэз,*
*Са спеўнаю музай да шэрых імшарнікаў*
*Імчаўся адно ўглыб Палеся ды лез,*
*Каб край ратаваць ад прайдох-*
*Асушальнікаў.*
*Гайдаўся*
*Азёрамі гойны азон.*
*Жаўна у сасну біла дзюбай і стукала.*
*Сын верны Палесся, дзівак-рабінзон,*
*Ты быў дзеля краю заступнік*
*З заступнікаў.*
*Таму і глядзеў*
*Аж да болю ў вачах*
*З палескай красуняй, ігрушаю куцаю,*
*Як д'ябал у траках, жалезных лапцях,*
*Каўшом рэзаў багну і рыў,*
*Нібы кульцяю.*
*Ты мог бы адзін*
*Сотню д'яблаў прыбіць.*
*А тут, можа, трэба, сціскаючы сківі цы,*
*Пад тракі — а што яшчэ болей рабіць? —*
*З пратэстам рашуча, без боязі,*
*Кінуцца?*
*На ўскрайку*
*Мядовых палян і лядзін*
*І елак-кабет, з вастрверхаю готыкай,*
*Сядзеў ты з Палессем адзін на адзін*
*З дыханнем, заціснутым спазмай*
*Дрыготкаю.*

**2**

*З гадамі прывык*
*Жыць лясным бабылём.*
*Хадзіў пад руку са сцяжынамі босымі.*
*Была табе спальняй паляна з быллём,*
*А полагам — шаты лясныя*
*З нябёсамі.*
*Сядзеў ля кастра,*
*Бы ў шчаціне вядзьмар,*
*Пад гнуткіх арэшын даўгімі вудоўямі.*
*Над вухам вызвоньваў камар, як званар.*
*З сасонак смалу ноч з падсочкай*
*Выдойвала.*
*У вочы лез дым, —*
*Будзем разам, маўляў!*
*Ён побач прысядзе, во толькі разуецца.*
*Ты з поўняю круглай ціхом размаўляў,*
*Нібыта з кабетай, вялікай*
*Разумніцай.*
*Употай глядзеў,*
*Як паўночнік-лясун*
*Нячутна раку пераходзіў, бы посуху.*
*І, ўміг напалохаўшы пудкіх касуль,*
*Кульгаў да кастра у камзоле*
*І з посахам...*
*Касцёр то шугаў,*
*То ледзь-ледзь ён курэў*
*Ля шышак, што побач звісалі гірляндамі.*
*А сцежкі кружылі ды ўпотай з-за дрэў,*
*У бок твой, на дыбачкі ўстаўшы,*
*Паглядвалі.*
*Ты з імі калісь*
*Цераз смог тумяноў*
*Спяшаўся ў закуткі мядзведжыя дальнія,*
*Дзе ў смольных барах сто лясных ведуноў*
*Стагоддзямі ткалі быліны*
*З паданнямі.*
*У лесе смалы —*
*Як мазуту ў дэпо.*
*І ранак ішоў па выгарах асмужаных.*
*У гліне з жарствою прабіўшы дупло,*
*Ты сказ даставаў, як алмаз*
*Ці жамчужыну.*
*Угрунь з перуном*
*Дождж прамчыць, скамарох,*
*Маланкаю чэрцячы розныя рэбусы.*
*Ў развілцы сасны, бы на стыку эпох,*
*Ленгенда праб'ецца, як перліна*
*Эпаса.*
*А з неба падасць*
*Зорны знак Валапас*
*І ціха, як золата ком а ці выкапень,*
*З-за дуба каціўся, выкочваўся сказ,*
*Каб ты яго ўзяў, без ніякага*
*Выкупа.*
*Сярод светлякоў,*
*Быццам зорных агнёў,*
*Ва ўдачу уласную ледзьве павeрыўшы,*
*Апорваў пад шэрым крысом багуноў*
*Памовак, нікім нечапаныя*
*Нерушы. <…>*
*І ведаў: не толькі*
*Скарбонкай шчадрот, —*
*З аблокамі ў небе, што пахлі, як боханы.*
*Для нас і для ўсіх еўрапейскіх шырот*
*Палессе было ачышчальнымі*
*Бронхамі.*
*Ці ж быў ты супроць,*
*Каб лясны кут абжыць,*
*Без спешкі і без траскатні з тары-барамі,*
*Ды хіба мог даць родны край засушыць,*
*Як тонкі лісток, для чужога*
*Гербарыя?*
*Самому было,*
*Хоць ты кідайся ў вір, —*
*Якога там чорта экстрым ці рамантыка! —*
*Пад рэбрамі рэзаў нясцерпна, як жвір,*
*Той боль, што бывае падчас*
*У рэўматыкаў.<…>*
*Дармо, што даймаў*
*Дрэва ўсохлага скрып,*
*Пугач захлынаўся ад крыку і рогату, —*
*Чытаў у нябёсах ты зорны санскрыт,*
*Агрызкі далёкіх часоў,*
*Іерогліфы.*
*А ранкам*
*Хапаў аскялёпак пяра,*
*І бегла яно у блакноце па-заячы,*
*Падчас да віроў вірлавокіх Дняпра*
*І Прыпяці, з пахам лугоў,*
*Дабягаючы.*



**Мікола Купрэеў.** Малюнак Сяргея Казака

**3**

*Па бруку нябёс*
*Дзесь прагрукае гром*
*І ўміг скалане аж да самага вільчыка.*
*Здавалася, з музай і вечным пяром*
*Няма за цябе больш на свеце*
*Шчасліўчыка.*
*Умеў Млечны Шлях*
*Пераходзіць ты ўброд.*
*Анапест і дактыль яшчэ не прыеліся.*
*А колькі было ў цябе розных бядот*
*І прыкрых, з сямейнай вазнёй,*
*Непрыемнасцей! <…>*
*А следам,*
*Каб воды з лясамі скарыць,*
*Нашчадак, напэўна, далёкага Каіна,*
*Змог вены Палессю без жалю ускрыць,*
*Адводзячы бельмы убок*
*Непрыкаяна.*
*Глядзела галлё*
*Ў павучынах-шаўках*
*І ў ягадах воўчых, што віснулі гронамі,*
*Як дзесьці на дне ты у бутлі шукаў*
*Суладдзя з жыццём і высокай*
*Гармоніі.*
*І пёрка, сурова*
*Зірнуўшы з-пад броў,*
*На аркуш вавёркаю жвавую скочыўшы,*
*Адно прадракаў, што за здзекі дабром*
*Для ўладных прайдох нізавошта*
*Не скончыцца!*

**4**

*Ты помніў,*
*Як Мішка кульгаў цераз луг,*
*Пракуда сабою і скептык са скептыкаў,*
*Каб з лапы яго ты дастаў, як хірург,*
*Тупы аскалабак з сухімі*
*Аскепкамі.*
*А ранкам,*
*Калі яшчэ спалі сляпні*
*І пожняю поўзаў туман непрацэджаны,*
*Знаходзіў ты дзежачку з мёдам на пні, —*
*За помач прамую аддзяку*
*Мядзведжую.*
*А потым сабраў*
*Ён прыпасы наспех*
*І, кій захапіўшы з цяжкой булавешкаю,*
*Няўклюдны, ад гулу бульдозераў збег,*
*Сышоў пад Нясвіж ці ў лясы*
*Белавежскія.*
*І ўмомант ля рэк,*
*Змёўшы плоймы стракоз,*
*На бераг паромы кідаючы з чоўнамі,*
*Пайшлі буры торф узнімаць да нябёс*
*Ды цяжка кружыць, як манахіні*
*Чорныя.*
*Прыціх у нямым*
*Прадчуванні ўвесь свет,*
*Замоўк і лясок, анікім не прарэджаны.*
*І грымнуў Чарнобыль за бурамі ўслед,*
*Як грознае з грозных для ўлад*
*Папярэджанне.*
*Па забарскі*
*Стронцыем густа замёў*
*Амаль паў-Еўропы, як нейкае лядзішча.*
*А Крэмль — каб брывом варухнуў ці павёў, —*
*Заняты ён быў рэфармісцкай*
*Бязладзіцай.*
*Яшчэ не апаў*
*Горкі прысак і друз,*
*Абрыўкі аблокаў з птушынымі пер'ямі,*
*Як крахнуў, бы айсберг, нязломны Саюз, —*
*Распалася ўмомант з імперый*
*Імперыя.*
*Ляжаў, як ралля*
*Ўсцяж развернуты быт.*
*Застылі ў зняменні і краны, і скрэперы.*
*Дзе дружбы цэмент і братэрства граніт,*
*Што болей паўвека лічыліся*
*Скрэпамі?!*
*У стэпах, гарах,*
*Па-над тысячай рэк,*
*Каўшамі дарэшты скапаных і змыцканых,*
*Канчаўся ў пакутных канвульсіях век*
*Нашэсця смяротнай чумы*
*Бальшавіцкае.*
*Дождж з градам*
*Працокаў наўзбоч неспадзеў*
*І хмаркі ўбакі раскаціліся гурбамі.*
*У дыме кастра ты, як прывід, сядзеў*
*І быў па-дзіцячы чамусьці*
*Разгублены.*
*У небе замоўк,*
*Бы каваль, грамабой.*
*І спеўная муза, з паставаю ценькаю,*
*Звісала ляшчынай тугой над табой,*
*То пырхала лёгкай сініцай*
*І ценькала.*
*...........*
*Узносіцца стэла.*
*Гарыць зорны крыж.*
*Упобач алмазы зіхцяць з лазурытамі.*
*А ты, бы ў шкляной дамавіне, ляжыш*
*З эпохай, у дол напалову*
*Зарытаю.*

**Пастскрыптум**

*Я шклянку,*
*З краямі, яшчэ не наліў,*
*Каб неяк душу памянуць тваю лёгкую,*
*Як вэрхал і гвалт навакол узнялі*
*Ад прэсы бульварнай брахалы*
*І лёкаі.*
*У іх свой капыл*
*Ці, як кажуць, тандэнт.*
*Хацелі давесці, з інтрыгай на прывязі,*
*Што быў ты адмалку ў душы дысідэнт*
*Ды з нейкай інакшай грымучаю*
*Прымессю.*
*Заступніцва*
*Ў мэтраў прасіць не прасіў.*
*І, выцершы пёрка чарнільнае насуха,*
*Крамолу як быццам употай насіў,*
*Нібы самапальную бомбу*
*Запазухай.*
*Здаецца,*
*З кватэры вялі рэпартаж,*
*Падобнае так да нары ці адстойніка.*
*Як быццам у побыце быў ты партач,*
*Адно у сяброўстве — умелым*
*Застольнікам.*
*Інтым?*
*Ну які там у прэсы інтым!*
*Яна не для дзетак! Яна не пра зяблікаў!*
*І ледзьве не лезлі туды, паміж тым,*
*Дзе можна абмацаць адамавы*
*Яблыкі.*
*З каструляй*
*Меў лыжку, дзівак-халасцяк,*
*Маўляў, гэта таленту сведчанне ўскоснае.*
*Абсмоктвалі дзён прадапошніх касцяк*
*Губамі, нібыта падковамі*
*Конскімі.*
*А дзе яно, слова,*
*Пра дзіўны жэньшэнь,*
*Што робяць жывой і цытату нішчымную?*
*Я меўся з іх кожнаму даць у каршэнь,*
*Ды збеглі і дзесьці зашыліся*
*Ў шчыліну.*
*Мо праўда?*
*Ці глупства хто-небудзь пляце,*
*Што многае сёння для іх не па нораву.*
*І мерацца кодлам на ўдумнай пліце*
*Тваю эпітафію выбіць*
*Па-новаму.*
*Вазьму крутану*
*Раз паўсотні прашчу, —*
*Ці нам быць з табою абодвум у паніцы?*
*Іх, гіцляў — хай ведаюць! — не падпушчу*
*На вёрсты да крыжа твайго*
*І да памяці.*

**2006–2016 гг. Друкуецца ў скароце.**

* Якому 25 траўня споўнілася б 80...

# Карані паэта Васіля Зуёнка

## (Спроба радаводу паводле архіўных крыніц)



Фота В. Трэнас

*Каб і ў сяўбе, і ў малацьбе*
*Быў лад і плён, дзядоў мы просім, —*
*Як бы прыгадваем сябе*
*Цераз стагоддзяў шматгалоссе:*

*Якімі мы тады былі,*
*Жылі ў прапрашчураўскіх мроях,*
*Якімі будзем на зямлі,*
*Калі адыдзем у былое...*

*І ў хаце погалас адзін:*
*Дзядоў склікаем на вячэру, —*
*Вачыма вечнасці глядзім*
*І крышачку ў бяссмерце верым...*

***В. Зуёнак,***
***«Пісьмы з гэтага свету»***

Васіль Васільевіч Зуёнак прыйшоў у свет 3 чэрвеня 1935 года ў вёсцы Мачулішча Крупскага раёна. З біяграфіі вядома, што нарадзіўся паэт у сялянскай сям'і. Скончыў Барысаўскае педагагічнае вучылішча (1954), потым — аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта БДУ. Працаваў у рэдакцыі газеты «Рабочае юнацтва» (Мінск), у 1960–1966 гадах — у газеце «Піянер Беларусі». Быў галоўным рэдактарам часопіса «Бярозка» (1972–1978). У 1966–1972 гадах — намеснік галоўнага рэдактара, у 1978–1982-х — галоўны рэдактар часопіса «Маладосць». Член Саюза пісьменнікаў БССР (з 1966). У 1982–1989-х — сакратар, у 1989–1990-х — першы сакратар, а ў 1990–1998-х — старшыня Праўлення Саюза беларускіх пісьменнікаў. Кандыдат філалагічных навук.

Першыя вершы былі надрукаваныя ў 1954 годзе ў барысаўскай раённай газеце і рэспубліканскіх выданнях. Аўтар шматлікіх зборнікаў паэзіі...

Са словаў самога паэта мы даведаліся, што яго дзеда па лініі таты звалі Захар Зуёнак, прадзеда — Даніла, а прапрадзеда — Аўлас.

Па лініі маці паэта Акуліны Канстанцінаўны, народжанай Рамашка, вядома было толькі імя дзеда — Канстанцін. Таксама Васіль Васільевіч адзначыў, што не ведае, з якой вёскі яго тата браў маму за жонку. Але ўзгадаў аповеды сваёй маці пра дзеда Кастуся, які любіў пры нагодзе распавесці, што Рамашкі паходзілі з мяшчан мястэчка Халапенічы. Маўляў, нейкі з прадзедаў купіў зямлю ў Мачулішчы і пераехаў туды на сталае жыццё...

Вось з такімі зыходнымі дадзенымі мы пачыналі пошукі, якія прывялі нас у айчынную дакументальную скарбніцу — Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, дзе захоўваецца ўнікальная і каштоўная генеалагічная крыніца — «Посемейный список крестьян Холопеничской волости Борисовского уезда», складзены 4 студзеня 1887 года і завераны 11 студзеня старшынёй Халапеніцкай валасці Нікіфарам Рыгоравічам Ляхновічам з прыкладаннем яго пячаткі. Ніжэй паставілі свае пячаткі сельскія старасты: бельскі — Цярэнцій Нікалаёнак, халапеніцкі — Міхаіл Слабуха, прудзецкі — Міхаіл Новік, траянаўскі — Фома Сыцік, галькоўскі — Карп Асташка, слабодскі — Севасцьян Казак і восаўскі — Кірыла Аўчыннік. Пад старастамі пасямейны спіс заверыў пячаткай Халапеніцкага валаснога праўлення валасны пісар Стэфан Васільевіч Галавешкін. Увесь спіс 15 лютага 1887 года быў прашнураваны і апячатаны неадменным членам Барысаўскай павятовай па сялянскіх справах прысутнасці адстаўным падпалкоўнікам Аляксандрам Спірыдонавічам Скандраковым, аб чым на адваротным баку апошняга аркуша пасямейнага спіса мы знаходзім адпаведны запіс. У такім выглядзе гэты карысны архіўны дакумент, які налічвае 445 аркушы, дайшоў да нашых дзён.

Вёску Мачулішча мы адшукалі на старонках 124–131, налічвушы там 14 сямей па прозвішчах: «Макрыца» — 6, «Рамашка» — 3, «Зуёнак» — 3 і «Пліска» — 3 сям'і.



| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 277. | 6. | Зуенокъ Авласъ Семеновъ . . . | 46. | Умеръ | 1881 г. |
| | | Его сынъ Данило. | 16. | 43. | |
| | | Данилы сыновья: | | | |
| | | 1. Захарій . | „ | 26. | 1860 г. 24 Марта |
| | | 2. Макаръ . | „ | 23. | 1863 года 14 Января |
| | | 3. Семенъ . | „ | 18. | 1868 года 1 Сентября |
| | | 4. Афанасій . | „ | 9. | 1876 г. 12 янв. |

Пасля першага азнаямлення стала зразумела, што тата і мама Васіля Васільевіча Зуёнка нарадзіліся і жылі ў Мачулішчах! Радасць перапаўняла, і мы паглыбіліся ў вывучэнне дакумента...

У выніку, атрымалася наступная карціна прамога радаводу паэта «па мячы»:

6) прапрапрадзед Сямён Зуёнак нарадзіў
5) прапрадзеда Аўласа Сямёнавіча Зуёнка (каля 1813 г., памёр каля 1881 г.), які нарадзіў
4) прадзеда Данілу Аўласавіча Зуёнка (каля 1843 г.), які з Ганнай Аляксееўнай нарадзілі
3) дзеда Захара Данілавіча Зуёнка (24.03.1860), які з Настай Харытонаўнай нарадзілі (каля 1866 г.)
2) тату Васіля Захаравіча Зуёнка (20.04.1885–08.11.1954), які з Акулінай Канстанцінаўнай Рамашка (1902–1989) нарадзілі
1) Зуёнка Васіля Васільевіча (03.06.1935).

Таксама высветлілася, што прадзед паэта Даніла Аўласавіч Зуёнак меў, акрамя старэйшага сына Захара, яшчэ трох: Макара Данілавіча (нар. 14.01.1863), Сямёна Данілавіча (нар. 01.09.1868) і Афанасія Данілавіча (нар. 12.01.1876), а таксама дачку Антаніну Данілаўну (нар. каля 1873 г.), якія даводзяцца паэту стрыечнымі дзядамі і бабуляй.

Дзед Захар Данілавіч Зуёнак, акрамя старэйшага сына Васіля, меў яшчэ сыноў: Пятра Захаравіча (нар. 06.09.1887), Дзімітрыя Захаравіча (нар. 27.10.1891) і дачку Кацярыну Захараўну (нар. каля 1889 г.). Гэта родныя дзядзькі і цётка паэта.

Між іншым, маецца адзнака, што Захар Данілавіч Зуёнак, дзед паэта, быў "зачислен в ополчение в 1881 году" на падставе пасведчання № 763.

Карціна прамога радаводу Васіля Зуёнка «па кудзелі» выглядае наступным чынам:

6) прапрапрадзед Андрэй Рамашка нарадзіў
5) прапрадзеда Цімоха Андрэевіча Рамашка (каля 1813 г., памёр каля 1885 г.), які нарадзіў
4) прадзеда Івана Цімафеевіча Рамашка (каля 1849 г.), які з Марыяй Самуілаўнай нарадзілі (каля 1851 г.)
3) дзеда Канстанціна Іванавіча Рамашка (21.01.1876), які са сваёй, пакуль нам невядомай, жонкай нарадзілі
2) маці Акуліну Канстанцінаўну Рамашка (1902–1989), якая ад Васіля Захаравіча Зуёнка (20.04.1885–08.11.1954), нарадзіла
1) Васіля Васільевіча Зуёнка.

Прадзед паэта па маці Іван Цімафеевіч Рамашка, акрамя сына Канстанціна, меў яшчэ двух сыноў: Аляксея (нар. 05.10.1867), Сідара (нар. 01.02.1879) і тры дачкі: Лукер'ю (нар. каля 1873 г.), Марфу (нар. каля 1878 г.) і Еву (нар. каля 1884 г.), якія даводзяцца паэту стрыечнымі дзядамі і бабкамі.

З гістарычных крыніц вядома, што вёска Мачулішча ў 1777 годзе адносілася да Халапеніцкага «графства» — вотчыны найсвятлейшага ягамосці графа Іаахіма Літавора Храптовіча, падканцлера Вялікага Княства Літоўскага. На той час вёска налічвала 7 хат, але толькі тры з іх мелі гаспадароў: Сямён Мураўскі, Іван Шашонак і Макар Шостка. Астатнія пазначаныя як «хата новая пуста», што сведчыць аб нядаўнім заснаванні паселішча. У гэты час ні Рамашкі, ні Зуёнкі не жылі ў Мачулішчы. Не жылі яны і ў іншых вёсках Халапеніцкага «графства»... Але ў 1887 годзе мы сустракаем больш за 20 сем'яў на прозвішча «Зуёнак» у іншых вёсках Халапеніцкай воласці (акрамя Мачулішча): Буда — 2 сям'і, Белае — 4, Баркі — 1 («жабрак» з Буды), Галькі — 4, Якімаўка — 6, Капачэўка — 1 (выбыў у Баркі), Максімаўка — 1 (залічаны ў склад барысаўскіх мяшчан, кантаніст), Асавец — 2, Восава — 1, Падузнацк — 5, Шопа — 1.

Затое ў 1777 годзе сустракаем у самім мястэчку Халапенічы жыхара на імя Цімох Рамашка, які меў 1 пляц і ¼ валокі зямлі і плаціў у год чыншу 32 злотых польскіх. З вялікай доляй верагоднасці можна сцвярджаць, што ён і з'яўляецца прашчурам (бацькам прапрапрадзеда Андрэя) паэта па маці. Тым больш, што праз 90 гадоў, у 1887-м, у мястэчку Халапенічы і аднайменнай воласці прозвішча Рамашка адсутнічае. І толькі ў Мачулішчы жыве тры сям'і, сваяцкія паміж сабой. Такім чынам, сямейная легенда знаходзіць ускоснае дакументальнае пацвярджэнне.

Хочацца спадзявацца, што далейшыя пошукі дапамогуць адказаць на пытанне: у які дакладна час Зуёнкі і Рамашкі пераехалі ў вёску Мачулішча на сталае жыццё?

Напрыканцы варта дадаць, што, шукаючы прозвішча «Зуёнак» на Крупшчыне ў глыбіні стагоддзяў, мы сустрэлі ў інвентары маёнтка Крупка князёў Сангушкаў за 1653 год жыхара вёскі Шыйка (зараз Крупскі раён) на імя Панкрат Зушонак (Pankrat Zuszonek), які меў ½ пляцу і ½ валокі ворыўнай зямлі. Таму выказваем спадзяванне, што Васіль Васільевіч як знаны філолаг значна глыбей папрацуе над этымалогіяй свайго прозвішча, маючы гэтыя факты...

**Андрэй Ляхновіч,**
**Юры Снапкоўскі**

# Раіса Баравікова: «Заўжды жыву будучыняй»

**« Пачатак на стар. 7 (1)**

Аповесць, як быццам і рэалістычная, але паверыць у тое, што адбывалася, немагчыма. Таямнічае, звязанае са знахарамі, ведзьмакамі было ў жыцці маіх бабулі і дзядулі, што рабілася сямейнымі паданнямі. Гэта развівала маё ўяўленне, прымушала думаць, што ў чалавечым жыцці не ўсё так проста, ёсць бок жыцця, які цалкам схаваны ад чалавека, і не кожнаму з людства ён прыадчыніцца. Рэалістычны свет майго дзяцінства аздабляла містыка. А ў старэйшых класах у мяне была вялізная кніга «Сучасная астраномія». Я любіла яе чытаць і палюбіла неба. Цяпер мае «Казкі астранаўта» маюцца перавыдацца ўжо ў чацвёрты раз, і калі скласці ўсё разам, дык агульны наклад складзе больш за 20 000 асобнікаў. Гэтым разам кніга будзе ўключаць яшчэ і аповесць «Казімір — сын Ягайлы + Насця з 8» Б»»...

***— У 2000-х гадах вы неаднойчы разважалі пра праблему запатрабаванасці беларускай літаратуры. Ці адбыліся за гэты час нейкія змены, якія дазвалялі б больш аптымістычна глядзець у будучыню?***

— Я другі год удзельнічаю ў кампаніі «Чытаем па-беларуску з velcom». Ведаеце, калі б яшчэ некалькі кампаній далучылася да ідэі папулярызацыі беларускай літаратуры, можна было б больш пісьменнікаў падключыць, часцей выязджаць у абласныя і раённыя цэнтры. І беларуская літаратура была б, ну скажам так, навідавоку. Раней дзейнічала Бюро прапаганды пры СП — пісьменнікі ездзілі ў камандзіроўкі штотыдзень, непасрэдна праз саміх літаратараў творы даходзілі да чытача. Гэта спрыяла запатрабаванасці. Цяпер пісьменнікі рэдка куды выязджаюць, літаратура рэкламуецца ў асноўным праз інтэрнэт. Але большасць людзей старэйшага пакалення не карыстаецца інтэрнэтам. Тут магу працытаваць радкі з уласнага верша: «Тады ў народа ёсць паэты, калі ў паэтаў ёсць народ», іншымі словамі — чытач! Дзеткі шмат дзе добра валодаюць мовай, ёсць зацікаўленыя настаўнікі, але прывіць сапраўдную, вялікую любоў да роднага слова — гэта ў значнай ступені справа пісьменніка. Тут дапамагае яго талент, прыцягальны яркасцю і непаўторнасцю.

***— Сярод вашых сяброў і былых калег — безліч паважаных і таленавітых асобаў. Жанчыны-пісьменніцы чамусьці значна радзей, чым мужчыны, звяртаюцца да мемуарнага жанру, але ці не плануеце вы часам узяцца за ўспаміны?***

— Некалькі гадоў таму пісала ў «ЛіМ» успаміны-карацелькі ў рубрыку «Школа добрых пачуццяў». Але каб напісаць кнігу ўспамінаў... Напэўна, не... Пакуль мая душа да гэтага не гатова. Памяць утрымлівае шмат. Але «перапрасаць» сваё жыццё, згадваць іншых, хай сабе і вельмі паважаных, нават любімых мною людзей, — гэта цяжка. Цяпер проста няма часу, каб яшчэ раз перажыць тое, што было ў мінулым — хаця я разумею, што гэтай літаратурай цікавяцца. Я маю дванаццацігадовую ўнучку, трох маленькіх унукаў, мне вельмі цікава з імі. У дзяцей цяпер той узрост, калі цэлыя дні хочацца з імі праводзіць. Тым больш, што ў мяне ўжо такія гады, калі жыццё ў любы момант можа абарвацца. А што да творчасці... Дык на сцяне ў маім пакоі вісіць вялікі-вялікі спіс, дзе пазначана ўсё, што хацелася б напісаць: назвы, сюжэты... Гэта і проза для падлеткаў, і кнігі для дзяцей. Я заўжды жыву будучыняй і не люблю азірацца...

**Алеся Лапіцкая**

**Друкуецца ў скароце.**
**Цалкам інтэрв'ю чытайце**
**на сайце lit-bel.org**

# Калі ў храме вырастае дрэва…

**Выпадковасці невыпадковыя. Якраз перад «Камізэлькай для месяца» мне давялося прачытаць кнігу пра праблемы сучаснай экалогіі, дзе падрабязна разглядалася ў тым ліку хрысціянска-экалагічная плынь. Выходзячы з пастулата «Прырода — Божае стварэнне», яе адэпты змагаюцца за захаванне натуральнага ладу жыцця прыроды ў самым шырокім сэнсе: ад абароны асобных біялагічных відаў да зменаў у сусветнай прамысловасці. Знішчыўшы бязвінную казюрку, ты абражаеш Бога — калі зусім проста…**




Іменавіта такім чынам Міхась Скобла ў сваёй паэзіі яднае дзве мастацкія лініі, што суіснуюць на нашай літпрасторы гэтульki ж, лічы, колькі і сама літпрастора. Лініі гэтыя — язычніцтва і хрысціянства. Марная справа — пералічваць паэтаў, у чыіх вершах штораз перакрыжоўваюцца імя Бога і паганскіх боствaў — Вялеса, Перуна, Лады… У чыіх вершах архетыповыя крыж, нябёсы, грэх мірна суседствуюць з буйнай раскошай паганскіх вобразаў: ваўкалакі, поўня, чатыры стыхіі, вятры ды птахі, жывёлы як сапраўдныя гаспадары свету, дрэвы, што трымаюць карэннем зямлю. Хіба згадаю Рыгора Барадуліна, пакуль непераўзыдзенага майстра. А за ім — Насту Кудасаву, якая ўсё ж схільная да паганства: жаночая неўтаймаванасць міжволі прадвызначае выбар.

Паасобныя вершы М. Скоблы не давалі яшчэ такой поўнай карціны датычна гэтага пытання — язычніцтва-хрысціянства. Іншая справа — зборнік «Камізэлька для месяца». Вершы з чатырох кніг — «Вечны Зніч» (1990), «Вочы савы» (1994), «Нашэсце поўні» (2001), «Акно для матылькоў» (2009) — ды новае, незакнiжанае, нечакана (прынамсі, для мяне) і незваротна падзяліла аднаго паэта М. Скоблу «на двух». Першы — надзвычай таленавіты («Піша мора сваю адысею, / Развінуўшы гекзаметры хваль»), чэрпае тую невытлумачальную сілу, што нараджае магію паэзіі, з самой зямлі. Адзначыў гэта і Уладзімір Някляеў у прадмове да кнігі, аднак ягоныя высновы праляглі ў каардынатах грамадска-нацыянальных. Я ж кажу пра нешта па-за культурай аднае краіны, па-за часам. Гэта вечнасць самога жыцця. Гэта рака, якая пракладзе сабе шлях да мора, што б ні рабіў з ёю чалавек. Гэта птах, які знаходзіць выраій без нашых разумных прыбораў. Гэта чмель, які па законах фізікі, акрэсленых чалавекам, не мусіў бы лётаць.

*Падданыя любові і лагоды,*
*І ўвішны вуж, і яшчарка на пні,*
*І крыжадзюб, і чмель жоўтабароды*
*Ніколі і ні з якае нагоды*
*Не крыкнуць на судзілішчы: распні!*

**(«Пастуквае жаўна па накавальні»)**

Гэта прырода, натура, ад якой мы ўпарта адмаўляемся, не разумеючы, што пілуем сук, на якім сядзім. У гэтым сэнсе з дрэва мы так і не злезлі…

Дый назвы кніг, з якіх былі выбраныя вершы, кажуць самі за сябе. Вечны ў яго зніч, а не штучны спадарожнік. Нашэсце поўні, а не глабалізацыі. І нават акно разнасцежанае для матылькоў — не для сябра-тутэйшага, нават не для кахання.

Другі паэт М. Скобла часам забываецца на тое, што паэзія — гэта не трыбуна для лозунга, хай бы і справядліва-правільнага (у нас — датычна нацыянальнага пытання); не альбомны вершык на памяць ці жартаўлівая ода шлагбауму; нават не гульня гука-слоў, якую паэт так любіць (палон Апалона, космасу ў космы, сум падсумую, на сасну са сну). Адарваны ад прыроды, якая і нарадзіла паэта, ён губляе магію, якую сам сабе не прыдумаеш, не створыш штучна. Пры гэтым звяртаю ўвагу на тое, што і ў грамадзянскай лірыцы М. Скобла застаецца майстрам: не хібіць тэхнічна, не пустасловіць.

*Стары Сыракомлеў пісьмовы стол,*
*Падобны здалёк да плахі…*

Прахадных вершаў у зборніку няма; але й не ўсё тут — паэзія. Зрэшты, і гэта заканамернасць, нават аксіёма для кожнай кнігі нават выбраных вершаў, кожнага, без выключэння, аўтара.

Што яшчэ адметна? Той жа анімізм жыве ў раздзеле з дзіцячымі вершамі — выбраным з кнігі «Камень-перунок» (1998).

У зборніку «Камізэлька для месяца» трапляецца й інтымная лірыка. Тут склалася цікавая карціна: з аднаго боку, гэта найслабейшы бок паэта М. Скоблы. З іншага — найлепшы верш кнігі, а можа быць, і найлепшы верш паэта — якраз пра тое:

* * *

*Л.*

*Зіма. Галчынскі на стале.*
*Цень ад заснежанага вяза.*
*Пакой у месячным святле —*
*Як парцалянавая ваза.*

*Прасцінаў бель і столі бель,*
*І белы снег ідзе у госці.*
*І ложак — белая купель,*
*Дзе мы купаемся ў мілосці.*

*Нястрымных стрэлак страказа,*
*Табе мы, як сапраўднай, рады.*
*Твой час звініць, як драбяза,*
*Над намі ён не мае ўлады.*

*На ўскрайку светлае начы,*
*Над безданню, што кліча ўпасці,*
*Два залатыя ківачы*
*Адлічваюць хвіліны шчасця.*

Зямное і нябеснае, людское і адпрыроднае адбілася нават у назве кнігі: камізэлька — нашае, месяц — з вышняга свету.

Цікава, што ў сваіх ранніх вершах М. Скобла моцна нагадвае Анатоля Сыса. Ці, можа быць, усе «тутэйшыя» пісалі так?.. Няма таго непаўторнага гучання, але сімволіка, безумоўна, пазнавальная: магічныя лічбы 40 і 33, Радзіма як ахвяра і маці, меч, замовы, агонь, ваўкалак, Каін ды Ікар, рэлігійная сімволіка, птах — воля і пакута, камяні, што паўзуць паўз поле, вяртаючыся дамоў… Але й надалей ключавымі для Міхася Скоблы застануцца неба, Радзіма, каляіна (цікавае адгалінаванне дарогі, драматычнае), коні, вецер. Часта ўзнікае бурштынавы плач. Але й Радзіма, здавалася б, вобраз з грамадзянскай лірыкі, найчасцей малюецца пейзажнымі фарбамі. Найперш яна — зямля, лясы і азёры, птахі ды звяры, хаты, што ўраслі ў самую прыроду, і за вельмі рэдкім выняткам (і далёка не такім паэтычным) — дзяржава, народ.

Зразумела: калі сусед у бядзе, не змаўчыш. Дапамажаш плячом ды словам. Калі вораг называецца братам, не змаўчыш гэтаксама. Але пры ўсім пры тым, калі б нехта чуйны і разумны гадоў праз сто складаў анталогію беларускай паэзіі XXI стагоддзя — кшталту скоблавай «Красы і сілы», — дык у яе, я ўпэўнена, увайшлі б прыродныя, стыхійныя, невытлумачальнага характара вершы, у якіх ціша і зусім няма ні людзей, ні іх маленькіх — у маштабах вечнасці і Сусвету — трагедый.

*І ядлоўцы схіляюцца ніц,*
*І алені ўстаюць на калені.*

**Наста Грышчук**

# Ты чуеш музыку вясны?..

**Часта магія празрыстай, абаяльнай тугі разбураецца пад сцілом, не раўнуючы, як пылок на матыльковых крылах пад няўмелым дотыкам пальцаў.**

Утонкім свеце мастацтва маладому паэту Аляксею Арцёмаву «пашчасціла» нарадзіцца з адмысловым светапоглядам: трошку тужлівым, трошку панурым, і як наступства — з ironіяй да свету, суседзяў па планеце ды пакепліваннем з сябе.

Працуе й зваротная сувязь. Святло ў вершах А. Арцёмава, якое прабіваецца «Скрозь кіламетры», нясе ў сабе самоту стваральніка. Ненаўмысна. Проста таму, што паэт — такі.

«Скрозь кіламетры» — яго дэбютны зборнік з непазбежным дадаткам «быццам бы». Апошнім часам акрэсліваецца ўсцешная тэндэнцыя: першыя паэтычныя кнігі аўтараў прэзентуюць талент ста́лы, замест «пробы пяра» — паўнавартаснае станаўленне на крыло.

У дачыненні да паэзіі А. Арцёмава выраз «традыцыі могуць быць сучаснымі» гучыць якраз небанальна і вельмі дарэчна. Гэта ўзор т.б.м. «класічнай» творчасці. Вось, прыкладам, фармальны бок: рыфма — ёсць, рытм — вытрыманы, і нават самы занудлівы чытач знойдзе ўсе знакі прыпынку і загалоўныя літары. Калі паглядзець сур'ёзна: ніякага імкнення шакаваць, распрануцца ці, наадварот, напусціць туману. Тэмы ўсё тыя ж: каханне, самота, чалавек між людзей і на фоне пейзажа, жыццё ды смерць і пакутлівы пошук сэнсу паміж двума непазбежнымі прыпынкамі.

Назіранне за звыклымі рэчамі тут ператвараецца ў адкрыццё, бо ў аўтара чуйны погляд і вялікае добрае сэрца. Гуманізм, пра які казаць нямодна, — ці не вызначальная рыса паэзіі А. Арцёмава. Шукаць таму пацверджанняў у асобных радках бессэнсоўна: сутнасць — у цэласным светапоглядзе аўтара, невычарпальнай цеплыні, якой хапае выпадковаму мінаку, котцы і далёкай каханай. Колькі б паэт сябе ні раздорваў, сардэчнасці не меншае.

Але адчувальны пры гэтым нязменны матыў згасання. Герой, аднак, не робіцца злосным ці пакрыўджаным на свет, між тым сілаў у яго хапае толькі на сузіранне.

Кантраснае суседства радасці жыцця й усведамлення непазбежнага фіналу не можа не хваляваць. Яно абвастрае не толькі пачуцці аўтара-героя, але й чуйнасць чытача да свету. У такім кантрасце адкідаецца ўсялякая драбяза, і абрысы чалавечага жыцця праступаюць рэльефна. Нарадзіцца, любіць, памерці. Вось і ўсё, што нам дадзена. Але ці так гэта мала?..

Прыцемненыя лагодным тонам кантрасты, супярэчнасць і суладдзе жыцця ды смерці, тужлівасць поруч з матывам кахання, а таксама атрыбутыка (віно, ноч, герой у шляху (што яшчэ не значыць рух, падкрэслім), прырода) — цэлы шэраг «улік», якія даюць падставы «абвінаваціць» нашага аўтара: ды вы рамантык!.. У нас тут метамадэрнізм, а вы…

Няма каламбура, сцёбу, спасылак на модныя тэксты, няма мацюкоў і мяса — ну і што ты, у такім разе, можаш сказаць свету?.. Падобныя думкі ў прасунутага чытача прадказаць няцяжка. Адсюль сумны прагноз — у сучасніка (тым больш — аднагодка) А. Арцёмаў вялікай папулярнасці не займее. Чытачу даспадобы фантастыка, дзе беларуская мова — наркотык, ці нататкі хлопца, які з'ехаў у вёску й гадуе казу… На тое, каб спыніцца, услухацца ў радкі, часу нестае. Звыклы да фастфуду чалавек спажывае гатовыя тэксты — як паказалі абураныя допісы ў сацсетках з нагоды апошняе «Кнігі году». Дзе трэба адчуць, падумаць, усвядоміць — там праблема, там — прабел!

А. Арцёмаў, калі вярнуцца да тэзы «сучасная традыцыя», успадчыніў рысы трох майстраў. Ад Максіма Танка — звонкае гучанне верша ды жыццялюбства. Ад Міхася Стральцова — звычку «на рукі хукаць»: ніводнага прахаднога верша. Асобныя радкі, заўважна, падшываліся да тэксту пазней; але гэта звыклая справа. Сум — таксама стральцоўскі. І, вядома, не пазбегнуць параўнання з Максімам Багдановічам. Тая ж адасобленасць ад культуры, якую паэт узбагачае; тое ж кранальнае пакланенне жанчыне, прыгожа-вабнай нават у ролі мучыцеля; той жа матыў згасання…

Свет прыроды займае ў зборніку істотнае месца. Гэта й чысты пейзаж, і зялёныя сляды ў гарадскім гета. Аднак прырода для Аляксея Арцёмава не існуе сама па сабе: яна мае значэнне толькі ў дуэце з чалавекам. Праз прыродны малюнак чытаецца стан героя. І наадварот: герой бачыць сябе ў пошуме дрэў, у сіняй вадзе, у травах. І якраз антрапацэнтрычнасць надае зборніку «Скрозь кіламетры» трагічнае гучанне. З заканчэннем чалавека заслона апускаецца. Паказальна, што завяршае кнігу пераклад верша Сары Тысдэйл «Будзе доджык ласкавы…». Карціна, дзе чалавека няма. А жыццё, як ні дзіўна, працягваецца. Мы тут неабавязковыя. І ці не значыць гэта — бессэнсоўныя?..

Усведамленне сваёй неабавязковасці, з аднаго боку, падрывае веру ў лёс, у сябе, у сілы, прыглушае цьмянае святло, якое дазваляе ўгледзець дарогу пад нагамі. І ў той жа час — здымае адказнасць за сябе ды іншых. Так, ты не ведаеш, куды ідзеш. Затое крок твой — лёгкі.

**Наста Грышчук**

# «Гармонія жаданага і рэальнага»

**Гэтым разам на зачыне чарговага (№ 87) нумара «Дзеяслова» рэдакцыя прапанавала сваім чытачам творы двух старэйшын сучаснай нацыянальнай літаратуры — паэта Васіля Зуёнка і празаіка Віктара Карамазава. І ведаеце, прачытаўшы іх, я, цягам далейшага азнаямлення з іншымі публікацыямі, зразумеў, што ўсё глыбокае, найбольш істотнае і па-мастацку вылучнае прачытана мной менавіта на пачатку. Як гавораць, маладым на зайздрасць.**




Пачну з нізкі вершаў **Васіля Зуёнка.** На маё меркаванне, гэта адзін з лепшых нашых сённяшніх паэтаў, не зразумела з якой прычыны — ці то з-за надта памяркоўнага, інтэлігентна-паблажлівага характара, унутрана заглыбленай і самадастатковай натуры ды непрыцягальных для акаляючай публікі паводзін — ён увесь час быў прыцэнены іншымі, падчас другараднымі паэтычнымі імёнамі, і ўвогуле недаацэнены нашай «абслугоўваючай» крытыкай. Вершы, змешчаныя ў падборцы «Прыходжу да свяцілішча ляснога...», экзістэнцыйныя па духу вычування жыцця. Гэта той узроставы, але жыватворны, месцамі нават аптымістычны свет, які прымаецца чалавекам — гэткім як ён ёсць, хоць сам чалавек жадае выяўляць яго такім, якім ён павінен быць па сваёй першапачатковай Прыродзе... Метафарычная філасофія пладаноснай Зямлі, якая не можа існаваць без сонцаноснага Неба. Ну і чалавек паміж гэтымі дзвюма сферамі, які намагаецца ўнесці ў іх супрацьстаянне праявы суладдзя і гармоніі. Асаблівае задавальненне я займеў ад верша «Яшчэ і яшчэ раз — грыбное», вобразная і рытмічная палітра якога напомніла мне класічны верш «Стары цецярук» з дэбютнага зборніка В. Зуёнка «Крэсіва» (1966). Напрыканцы гэтай кароткай развагі працытую фрагмент з верша пра Вавілонскую вежу, напісанага па матывах вядомага біблійнага сюжэта, але ў арыгінальнай інтэрпрэтацыі паэта:

*Шмат моў на зямлі з таго часу, —*
*Прыдумаў Тварэц адмыслова.*
*А мне ўсё ж карціць сам-насам:*
*Якая ж была тая мова —*
*У дойлідаў-вавілонцаў,*
*Што будавалі вежу, —*
*Няхай не да самага донца,*
*А ўсё ж раскумекаць належыць.*
*Якая? Што лёс ёй накрэсліў?*
*І хто адказаць паможа:*
*Такая, што ўжо не ўваскрэсне?*
*Ці беларуская, можа?..*

**Віктар Карамазаў** друкуе аповесць «Зямля Фердынанда» па матывах біяграфіі нашага цудоўнага мастака-пейзажыста Ф. Рушчыца. В. Карамазаў ужо некалькі дзесяцігоддзяў верны сваёй улюбёнай тэме: мастацкаму жыццеапісанню выбітных майстроў беларускага жывапісу. Гэтую тэму ён адчувае і разумее на прафесійным узроўні, бо і сам ахвочы да пэндзля і мае своеасаблівы вобразны погляд на мастацкія рэчы і акаляючы свет. Сюжэтна і факталагічна палатно выбудавана празаікам у форме медытацыі да праяў мастацтва і творчасці агулам. Са слоў В. Карамазава, укладзеных у вусны яго героя, *«мастакам заўсёды трэба памятаць, што золата ў мастацтве — гэта гармонія жаданага і рэальнага. Яна, гармонія, прынцэса з норавам, ёю авалодаць ой як нялёгка. Але ў ёй праўда мастацтва.* <...> *Аснова ж усяго — прырода, у ёй караніліся ўсе школы і эстэтыкі. Шукай тое карэнне — знойдзеш сваю крону».*

Чытаючы аповесць, можна адчуць тагачаснае (канца XIX ст.) жыццё Пецярбурга, Варшавы і роднага мастаку бацькоўскага кутка Багданава, што пад Крэвам. Цікава, што духоўная і фізічная прывязанасць Рушчыца да малой бацькаўшчыны трактуецца вельмі блізкімі і знаёмымі па сёння аргументацыямі. Маўляў, жывучы не ў сталіцы, трэба было *«нагадваць і даказваць, што і ў вёсцы можна быць арыгінальным мастаком».* А што тычыцца замежжа, то *«там вочы весялейшыя ў людзей. Мы тут бачым зашмат шэрага. Баімся чыстых колераў».*

Вельмі выпукла і ярка выпісаны і фігуры мастакоў-сучаснікаў Ф. Рушчыца, найперш вядомага арыгінальнага мастака (яго выкладчыка і настаўніка ў Акадэміі мастацтва ў Пецярбургу) Куінджы. Той, хто цікавіцца мастацтвам, разумее веліч і неардынарнасць гэтай мастацкай постаці. Запамінальныя ў аповесці псіхалагічныя і характарныя накіды да натуры мастака. Прыкладам, да такіх яго пачуццяў, як шанаванне бацькоў і Айчыны. І любоў гэтая падаецца таксама як праява мастацкага і чалавечага таленту. Асабліва хораша і запамінальна яна гучыць у размове пра «Літву вялікага Міцкевіча» з вуснаў яго каханай Гэлены Макоўскай: *«Калі не ведаеш гісторыю краіны, то цяжка зразумець каменне, якое застаецца ад яе. Як яго тады адчуць і выявіць?»*

Ну і, безумоўна, выяўляючы чалавечы і творчы вобраз мастака Рушчыца, пісьменнік В. Карамазаў не мог не закрануць і ўласнага стаўлення да людзей і творчасці. Бо толькі сапраўднае мастацтва ўзаемапранікальнае і ўзаемадзейснае — бо, пішучы пра нешта ці некага, пішаш і пра сябе самога. Як заўважае В. Карамазаў, «галоўная думка Рушчыца на мяжы двух стагоддзяў» была «пра адказнасць мастака перад мастацтвам і перад Радзімай». Бо паводле словаў самога Фердынанда: «Мастак носіць у сабе стрэмку. Заўсёды яе адчувае, ніколі ад яе не пазбавіцца. Стрэмка — яго мастацкае сумленне».

З цікавасцю прачытаў падборку вершаў **Антаніны Хатэнкі,** бо даўно ўжо не даводзілася сустракацца з яе паэтычным даробкам у папяровай версіі. Вершы прыцягальна-чараўнічыя і забавныя, што гаворыць пра талент паэткі і яе актыўную духоўную працу. Метафарычная туманнасць і прывіднасць, якія лучаць паэтку з мінулай і цяперашняй рэальнасцю ды праламляюцца праз душэйныя і псіхалагічныя зрухі жаночай істоты, якая прагне ўсведамлення пражытага і провіду ўласнага лёсу. Што праўда, аднатоннасць і аднанастраёвасць паэтыкі не даюць некаторым вершам А. Хатэнкі захоўваць сваю самасць і арыгінальнасць да канца...

**Леанід Дранько-Майсюк** друкуе ўжо не першы свой аповед, звязаны з драматычнымі і камічнымі падзеямі мінулай вайны ў акупаванай немцамі Беларусі. У расповед, пачуты ад старых людзей, аўтар унёс свае колеры і абазначыў іх танальнасць (святло і цені, свята і церні, смех і слёзы), зрабіўшы прымітыўны сюжэт чытэльным і займальным. Асабліва ён будзе да густу тым беларусам, якія любяць не толькі сваю Радзіму і родную мову, але і мову сваіх бацькоў і свае мясцовыя гаворкі.

Вершы-роздумы **Фелікса Баторына** — гэта своеасаблівая крышталізацыя філасофіі народнага жыцця і асобнага чалавечага лёсу ў прыватнасці. Сучасныя грамадзянскія матывы з падтэкставай закладкай пра нязменнасць маральных пастулатаў.

*Зноў людзі народжаны хворымі*
*На рабства пад роднымі*
*шатамі.*
*Мы ў гэтым, да нашага сораму,*
*Не лічым сябе вінаватымі.*
*Датуль мы будзем пакорнымі*
*На ніве чужой аратымі,*
*Пакуль не ведаем сораму,*
*Не чуем сябе вінаватымі.*

На першы погляд, аповеды **Іны Снарскай** як бы напісаны для дзяцей — просценькія, шчырыя, сентыментальныя. Аднак аповеды «Лаўрэнцеўна» і «Таямніца самаробнай шафы» я параіў бы прачытаць і дарослым. Нешта ў іх ёсць, што трымае чытацкую ўвагу і расслабляе вузлы сцятых сярмяжным жыццём пачуццяў... У прозе І. Снарскай, як і ў аповедах Л. Дранько-Майсюка, адчуваецца рука паэта. Не горшы варыянт.

Змешчана паэтычная нізка **Валеры Дубоўскага.** Вершы здуманыя, але самабытныя па ўнутранай будове і вычуванні акаляючага свету.

*Несці крыж —*
*Кон, не бажба.*
*З крыжа не сходзяць.*
*Здымаюць з крыжа.*

Свае родавыя ўспаміны **Міхась Зізюк** з Навагрудка назваў чамусьці аповесцю. Зрэшты, трэба прызнаць, што чытаецца тэкст даволі жыва дзякуючы факталагічнай шчырасці, дзе аўтар, як апавядальнік, пачуваецца як рыба ў вадзе. Прывяду адзін фрагмент пра бабулю спадара Зізюка, якая пражыла 103 гады (памерла ў 1993 г.): *«Нядзіва, што літаральна за некалькі год яна падарвала сваё здароўе рознымі таблеткамі ды мікстурамі. Але і пасля такога эксперыменту над сабой пражыла яшчэ больш за дваццаць гадоў. Была яна вельмі ашчаднай, калі не сказаць болей. Жыла ў сваёй старой хаце без электрычнасці. На маленькую пенсію ў дваццаць восем рублёў купляла толькі лекі, хлеб, локшыну, цукар і гарбату і ўмудрала яшчэ адкладваць грошай у куфар. Цалкам непісьменная, грошы, канечне, падлічыць магла».*

Як вядома, тэма змагарства і нацыянал-патрыятычнай рыторыкі не надта каб спрыялі мастацкай вартасці паэзіі. А мы ж памятаем, якім віртуозна-метафарычным лірыкам быў у свой ***вядомы*** час **Славамір Адамовіч.** Не буду крывіць душой, але, наперакор першай фразе, і большасць вершаў з гэтай нізкі выклікалі ў мяне станоўчую рэакцыю да своеасаблівай творчасці С. Адамовіча як паэта-грамадзяніна. І пагадзіцеся, што пры такім занядбаным стане нацыянальнай мовы і культуры ў аўтарытарнай дзяржаве нам недастаткова адных *лірычна-салавеючых* творцаў. Таму — *vivat* Славаміру!

*Я — нацыяналіст, пры тым без ніякіх*
*эпітэтаў памякчальных.*
*Няхай жа ворагу дасца ў знакі*
*слова маё, як меч знішчальны!*
*Я невыносны? А вам выносна*
*быць пад набрыддзю з году ў год!*
*Сам я жыву напрост, а не ўскосна:*
*з людзьмі — па-людску*
*і жорстка, дзе зброд...*

Драматычнае апавяданне «Укантакце» **Уладзіміра Міхно** з Лепельшчыны сюжэтна варыятыўнае. Тэма не так новая, як па новаму выяўленая: прагрэс тэхналагічны і рэгрэс духоўны... Твор варты чытацкай увагі. Вось вам пасаж для затраўкі: *«Як па мне, памірае прыгожа той, хто прыгожа жыве, магу толькі засведчыць, як паміраюць-згасаюць вугольчыкі ў печы. У жыцця ёсць дзве заканамернасці — прагрэс і наканаванасць. У смерці ўсяго адна — безвыходнасць. Нездарма кажуць, што выйсця няма толькі з труны, калі сам у ёй ляжыш, а па вечку грукаюць жвір і глыжэўе...»*

Вершы **Аксаны Спрынчан** гэтым разам больш зямныя і ўдумныя, без залішняга эксперыментатарства ў метафорыцы і філалагічных нюансах, хоць і не без гэтага. Аднак адчуваецца, што мудрасць і яснасць дадаюць яе паэзіі самавітасці і мастацкай грунтоўнасці.

*восень*
*нібыта ліс*
*сонечнымі лапамі*
*спрабуе ўпаляваць*
*лета*

У большасці сваёй афарыстычныя «проза-развагі», якія назваў «Ад сябе да сябе», прапануе ўвазе чытачоў **Павал Гаспадыніч.**

Метафарычны нерв і сюжэтнае напружанне не адпускаюць чытача ад вершаваных строф **Сержука Сыса.**

Аўра і ўнутраны сэнс аповеду дэбютанта **Зміцера Брэшчанкі** мне падаліся даволі майстравіта выпісанымі і стылёва нязмушана выкладзенымі — не раўнуючы, як вуснай мовай. Для дэбюта вартая заяўка.

Паэт **Ігар Кулікоў** пераклаў з санскрыту ўрывак з Магабгараты «Паляўнічы і пара галубкоў». Мне цяжка даваць ацэнку гэтаму твору і перакладу, таму парадуемся хаця б з'яўленню па вялікім рахунку першых перакладаў з «энцыклапедыі індыйскага жыцця» на беларускую мову.

З вялікім задавальненнем прачытаў вершы слыннага паэта Грэцыі **Канстандзінаса Кавафіса** ў перакладах Лявона Баршчэўскага. Цудоўная паэзія, вартая публікацыя.

Друкуюцца таксама арыгінальныя вершы шведскай паэткі **Мары Лундквіст** у перакладах Дзмітрыя Плакса.

Да 500-*годнасці* беларускага кнігадрукавання часопіс працягвае публікаваць пераклад (зроблены ***Ірынай Дубянецкай*** з арыгінала) *«новай беларускай Бібліі»,* якая называецца **«Кніга Роду».** З заўвагамі і тлумачэннямі.

Друкуюцца ўспаміны эмігранта **Адама Варлыгі** пра пачатак Вялікай айчыннай вайны.

**Глеб Герасімаў** піша пра свой род, чальцы якога звязаны з мастацтвам. Гэтым разам больш канкрэтна пра дзеда Анатоля Бараноўскага, народнага мастака Беларусі.

Друкуецца заключная частка «дзённікавых запісаў» **Міхала Дубянецкага** з часоў яго працы ў выдавецтве «Мастацкая літаратура».

Чытачоў чакае таксама працяг краязнаўчай манаграфіі **Канстанціна Тышкевіча** «Вілія і яе берагі» ў перакладах з польскай мовы Уладзіміра Васілевіча.

Паэт і выдавец **Кастусь Цвірка** друкуе ўспаміны з новай кнігі «Човен часу» пра сваіх вядомых калег-літаратараў (П. Панчанку, А. Астрэйку, А. Вялюгіна).

**Алесь Разанаў** у сваёй чарговай публікацыі, якая называецца «Зацемкі з тэлефоннай будкі» парадкоўна «анатаміруе» верш Міхася Стральцова «Пад шоргат кропель дажджавых...»

Рэцэнзіямі **Леаніда Галубовіча** («Саркафагі страху» М. Скоблы), **Наталлі Якавенкі** («Дагератып» Л. Рублеўскай) і **Канстанціна Касяка** («Захоп Беларусі марсіянамі» А. Аркуша) ды анатацыямі новых кніг загортваюцца апошнія старонкі часопіса.

Прыемнага вам чытання.

**ЛеГал**

# Расійская прэмія «Паэт»

**На прэс-канферэнцыі ў Доме-музеі А. Талстога ў Маскве журы расійскай Нацыянальнай прэміі «Паэт» назвала імя лаўрэата 2017 года.**

Ім стаў Максім Амелін, на сённяшні дзень самы малады па ўзросце лаўрэат «Паэта». Цырымонія ўручэння ўзнагароды адбудзецца 31 траўня ў Маскве ў Цэнтральным доме літаратараў. Пераможцу чакаюць не толькі



дыплом і нагрудны знак, але і 1,5 мільёна расійскіх рублёў у якасці ўзнагароджання.

Дарэчы, напярэдадні абвяшчэння прэміі ў «Расдруку» праходзіла прэзентацыя анталогіі «Сучасная літаратура народаў Расіі. Паэзія», дзе Максім Амелін выступіў у якасці рэдактара-складальніка і кіраўніка праекта. А 30 красавіка прайшоў творчы вечар Максіма Амеліна ў маскоўскім клубе «Жан-Жак». Прычым арганізатарамі падкрэсліваецца, што рашэнне аб яго правядзенні прынялі задоўга да таго, як стала вядома аб прэміі.

Паэт і перакладчык Максім Амелін нарадзіўся ў 1970 годзе ў Курску. Вучыўся ў Літаратурным інстытуце імя А. М. Горкага. Аўтар шэрагу паэтычных зборнікаў. У розныя гады ён станавіўся лаўрэатам прэмій «Антибукер» (1998), «Незнакомка», «Московский счёт» (2004), Бунінскай (2012), Аляксандра Салжаніцына (2013), а таксама прэмій часопісаў «Знамя» і «Новый мир». З 2008 года Максім Амелін працуе галоўным рэдактарам выдавецтва «ОГИ».

Расійская прэмія «Паэт» была заснаваная ў 2005 годзе. Паводле яе статута, перамагчы ў конкурсе можа толькі паэт, які піша на рускай мове (незалежна ад таго, дзе ён жыве і да якой нацыянальнасці належыць).



# Кнігі-гіганты

**Такія выданні здзіўляюць сваімі памерамі. Некаторыя з іх, вядома, створаныя ў Сярэднявеччы, калі людзі мелі іншы погляд на свет і на кнігі ў прыватнасці.**

І захапленне гіганцкімі кнігамі працягваецца і да нашых дзён. Некаторыя асабліва амбіцыйныя рамеснікі сучаснасці прынялі выклік сярэднявечных майстроў. Геаграфічны атлас Кленке з'яўляецца самай вялікай у свеце кнігай. Рукапіс мае вышыню 1,75 метра і 1,9 метра ў развароце. Важыць 320 кг: каб падняць яго, трэба прыкладна 6 чалавек. Цяпер гіганцкі атлас захоўваецца ў Брытанскім музеі, а ў 2010 годзе ўпершыню быў выстаўлены на ўсеагульны агляд. Атлас змяшчае старадаўнія падрабязныя карты (усяго іх —39). Паводле гістарычных звестак, гіганцкая кніга была падарункам галандскага купца Ёхансана Кленке каралю Карлу II.

«Гіганцкі кодэкс» («Codex Gigas») — адзін з найбуйнейшых рукапісаў, якія захаваліся да нашага часу, — быў створаны ў пачатку XIII стагоддзя ў манастыры чэшскага горада Подлажыце. Манускрыпт напісаны на латыні. Паводле легенды, «Codex Gigas» быў створаны манахам пры дапамозе д'ябла. Манах здзейсніў сур'ёзнае злачынства і ў пакаранне за грэх абяцаў пробашчу за адну ноч напісаць кнігу пра ўсе чалавечыя веды свету. Аднак наступала ўжо поўнач, і ён зразумеў, што не паспее закончыць рукапіс, і прадаў душу д'яблу ў абмен на дапамогу. Пасля напісання кніга мела 640 старонак, аднак да нашага часу захаваліся толькі 624. Вага рукапіса 75 кг, вышыня 915 см, шырыня 508 см, таўшчыня 22 см. У дадзены момант твор знаходзіцца ў Каралеўскай Шведскай бібліятэцы.

**Ганна Патачняк**

# Двухпавярховы цягнік «Маршак»

**Сёлета да 130-годдзя з дня нараджэння Самуіла Маршака ў маскоўскім метро будзе запушчаны літаратурны цягнік, а на вуліцы, дзе ён жыў, паставяць помнік.**

1 чэрвеня, у Дзень абароны дзяцей, на чыгунцы з'явіцца фірмовы двухпавярховы цягнік «Масква–Варонеж», які назвалі «Маршак». У цягніку адзін вагон абсталяваны як адмысловая дзіцячая гульнявая зона. Кнігі з вершамі паэта там таксама будуць.

Святочныя мерапрыемствы падрыхтаваны выдавецкай групай «Эксмо-АСТ» сумесна з Расійскім Габрэйскім кангрэсам. Арганізатары спадзяюцца, што адкрыццё помніка адбудзецца 4 лістапада 2017 года, у 130-ы дзень нараджэння паэта. У гэтым няма ніякай памылкі: нягледзячы на тое, што Маршак нарадзіўся 3 лістапада, яго нараджэнне сям'я адзначала



Самуіл Маршак са сваімі чытачамі

на наступны дзень (3 лістапада загінула малодшая дачка паэта, і ў гэтую дату ніякіх урачыстасцяў не было). На сёння праект помніка літаратару праходзіць працэдуру ўзгаднення, і неўзабаве абвесцяць афіцыйны конкурс.

Маскоўскае метро вырашыла не адставаць ад чыгункі, і ў верасні на «сінім» маршруце Маскоўскага метрапалітэна — Арбацка-Пакроўскай лініі — запусцяць фірмовы літаратурны цягнік «Паэзія ў метро», упрыгожаны цытатамі з С. Маршака ды ілюстрацыямі да яго дзіцячых кніг.

У чэрвені на кніжным фестывалі «Красная площадь» стартуе яшчэ адзін праект: вядомыя акцёры будуць чытаць любімыя вершы паэта.

# Дзяўчынка з Пакістана прачытае кнігі з кожнай краіны свету

**«Hi, I am Aisha Arif Esbhani, a 13 year old based in Karachi, Pakistan ...» — такімі словамі пачынаецца праект «Чытанне кніг з кожнай краіны», які прыдумала трынаццацігадовая Айша Эсбхані з пакістанскага Карачы.**

Яна абяцае прачытаць па адной кнізе з кожнай краіны свету. Дзеля гэтага Айша стварыла сваю старонку на Facebook, дзе любы жадаючы мог бы дапамагчы ёй рэкамендацыямі. Але, паводле чытачкі, з-за яе ўзросту старонка была выдаленая. І нядаўна праект «Reading Books From Every Country» стартаваў паўторна.

У адным з інтэрв'ю дзяўчынка распавяла, як яна стала такім заўзятым чытачом. У дзяцінстве яе маці купляла ёй такія кнігі, як «Прыгажуня і Пачвара» ды «Папялушка», а ў той час яна любіла фільмы, кнігі тады не зацікавілі яе. А аднойчы брат падарыў ёй серыю «33 Няшчасці» Лемані Снікет. З гэтай серыі і пачалося яе чытанне-падарожжа. Седзячы ў сваім доме ў Карачы, Айша паглядзела на сваю кніжную паліцу і зразумела, што яна амаль цалкам запоўненая кнігамі паўночнаамерыканскіх і брытанскіх аўтараў. Незадаволеная Эсбхані і паставіла перад сабой задачу: прачытаць кнігу з кожнай краіны свету, «а таксама некаторых дадатковых тэрыторый».

Па словах дзяўчынкі, ёй даслалі неапублікаваны пераклад твора з Каморскіх астравоў, які лічыцца адзінай кнігай на англійскай мове з гэтай краіны. Цяпер яна чакае кнігі з Мадагаскара і Люксембурга. Айшы дапамагаюць пісьменнікі, перакладчыкі і нават былы прэзідэнт Нігерыі Гудлак Джонатан. Усяго Айша прачытала ўжо 80 твораў з 197 рэкамендаваных.



# Прэмія імя Рымы Казаковай

**Лаўрэатам прэміі імя Рымы Казаковай «Начало» стаў курскі паэт Андрэй Болдыраў.**

Андрэй Болдыраў нарадзіўся ў 1984 годзе. Публікаваўся ў часопісах «Сибирские огни», «Кольцо «А»», у альманахах і зборніках. З'яўляўся ўдзельнікам V і VI форумаў маладых пісьменнікаў Расіі. Лаўрэат I Штогадовага міжнароднага літаратурнага конкурсу «Проявление», дыпламант Х Міжнароднага Валошынскага конурсу.

Мільёны расейцаў ведаюць песні кампазітара Ігара Крутога «Безответная любовь», «Мадонна», «Музыка венчальная», «Ты меня любишь», напісаныя на тэксты Рымы Казаковай. Супрацоўнічала яна і з Аляксандрай Пахмутавай ды іншымі вядомымі кампазітарамі і спевакамі. Сябравала з многімі беларускімі пісьменнікамі, падтрымлівала ў няпростыя часы іх пісьменніцкую арганізацыю, калі ўзначальвала Саюз пісьменнікаў Масквы і Міжнародны літаратурны фонд...

Паэтка раптоўна памерла 19 траўня 2008 года, а ў ліпені таго ж года па прапанове адной з вучаніц Рымы Казаковай — члена Саюза пісьменнікаў Масквы Натэллы Лалебекян — была заснаваная літаратурная прэмія імя Рымы Казаковай «Начало» для заахвочвання маладых паэтаў, якія не дасягнулі ўзросту 35 гадоў. Было вырашана, што цырымонія ўзнагароджання будзе праходзіць у дзень смерці паэткі 19 мая. Прычым палажэнне аб прэміі не прадугледжвае штогадовага ўручэння — яе будуць уручаць пры «наяўнасці годных кандыдатаў і грашовых сродкаў». Першай прэміяй была ўзнагароджана паэтэса Наталля Палякова «за яркі пачатак творчага шляху». Лаўрэатамі прэміі ў розныя гады станавіліся паэт і перакладчык Аляксандр Герасімаў, маскоўскія паэтэсы Вера Палазкова і Мар'я Купрыянава, Раман Рубанаў, Варвара Юшманава і Яўгенія Карабкова.

Літаратурная Беларусь

Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by



Фота www.nola.com

**Генерал Лі ў час Грамадзянскай вайны быў камандуючым арміі рабаўладальніцкай Канфедэрацыі. І хаця яго войска было вымушана капітуляваць, ён стаў адной з самых папулярных фігур сярод амерыканцаў**

# Ці пройдзе «канфедэрапад»?

Алег НОВІКАЎ

**У ЗША распачаліся пратэсты супраць павальнага дэмантажу помнікаў у гонар канфедэратаў — жаўнераў рабаўладальніцкага Поўдня ў часы Грамадзянскай вайны.**

Дзіўна, што «канфедэрапад» выклікаў абурэнне толькі зараз — праз тры гады пасля старту праграмы па зносу мемарыялаў канфедэратам. Нагадаем, што непасрэдна праграму запусцілі пасля страляніны 17 чэрвеня 2015 года ў горадзе Чарлстан. Тады 21-гадовы Дылан Руф атакаваў прыхаджан афрыканскай метадысцкай царквы, забіўшы дзевяць чалавек. Шок ад трагедыі выклікаў адпаведную эмацыйную атмасферу ў грамадстве. На яе фоне ў заканадаўчых органах на аўтамаце прагаласавалі за пастанову пра знос помнікаў жаўнерам рабаўладальніцкага Поўдня, якія, як высветлілася, былі кумірамі Руфа.

На пачатак гэтай вясны, калі пачаліся пратэсты, па ўсёй краіне паспелі знішчыць каля 60 помнікаў. Тое, што прыхільнікі Канфедэрацыі заварушыліся толькі зараз, можна растлумачыць тым, што раней дэмантавалі помнікі малавядомым героям. Толькі цяпер рукі камунальнікаў, адказных за знос аб'ектаў, дацягнуліся да манументаў у гонар генерала Роберта Эдварда Лі.

Генерал Лі ў час Грамадзянскай вайны быў камандуючым арміі рабаўладальніцкай Канфедэрацыі. І хаця яго войска ў выніку было вымушана капітуляваць, пастунова генерал стаў адной з самых папулярных фігур сярод простых амерыканцаў — і не толькі на Поўдні. Павагу да кіраўніка канфедэратаў можна растлумачыць папулярным міфам, паводле якога Лі быў сімвалам гонару і адвагі. Што тычыцца яго правалаў на палях бітваў, то іх спісвалі на колькасную перавагу праціўніка. Часамі культ Лі захінаў нават фігуру прэзідэнта Лінкальна. Не дзіўна, што ў гонар генерала былі названыя ўніверсітэты, пабудавана безліч помнікаў, знята шмат фільмаў, напісаная вялікая колькасць кніг, у тым ліку нават дзіцячых казак.

Толькі ў 1970-х гадах, на хвалі руху за грамадзянскія правы, гісторыкі пачалі пераглядаць традыцыйнае стаўленне да генерала. Цяпер лічыцца, што Лі трапіў у пантэон герояў ЗША выпадкова. Сваёй папулярнасці ён, па вялікім рахунку, абавязаны спекулятыўнай біяграфіі, якая стала бестселерам, стварыўшы яму вобраз мегарыцара.

Рэвізія трактоўкі фігуры Лі ў гісторыі даўно знайшла сваіх адэптаў. Нездарма сёння шматлікія амерыканцы вітаюць дэмантаж помнікаў у яго гонар і разглядаюць гэта як акт канчатковага разрыву са спадчынай рабаўладальніцкіх часоў. Сярод гэтай часткі грамадства хапае белых амерыканцаў. Яны лічаць, што праз дэмаграфічныя змены эра дамінавання белых у ЗША падыходзіць да канца. Без грамадзянскай дамовы белых з тымі ж афраамерыканцамі (у тым ліку па падыходах да мінулага) Злучаныя Штаты не маюць шанцаў захаваць дэмакратыю.

Аднак хапае сярод белай публікі і тых, хто пабачыў у зносе помнікаў праяву культурнага генацыду. На працягу апошніх тыдняў яны намагаюцца абараніць манументы, якім пагражае дэмантаж, арганізуючы маршы пратэсту. Падчас маніфестацый гучаць лозунгі: «Вам не замяніць нас!», «Жыццё кожнага белага — каштоўнасць!». Дарэчы, папулярны на акцыях і экстравагантны лозунг: «Расія — наш сябра!».

Нефармальным лідарам пратэстаў выступае Рычард Спенсер — грамадскі актывіст, вядомы сваімі расісцкімі поглядамі. Спенсер кажа, што ўлада са сваёй палітыкай гістарычнай памяці можа дагуляцца да рэнесансу ККК — арганізацыі Ку-клукс-клан, якая доўгі час тэрарызавала афраамерыканцаў. Праўда, праварадыкальны бэкграунд Спенсера — лепшая гарантыя таго, што вулічныя пратэсты будуць успрымацца ў шырокім грамадстве як выхадкі маргіналаў.

Аднак паступова за пратэстамі супраць зносу помнікаў канфедэратам пачынаюць далучацца больш салідныя палітыкі. Апошні дэмантаж помніка Роберту Лі ў Новым Арлеане асудзілі шэраг мясцовых дэпутатаў у штатах Луізіана і Місісіпі. Адзін з іх у сваім акаўнце ў Facebook параўнаў знос манументаў канфедэратам з учынкамі нацыстаў і прыгразіў іх арганізатарам «судом Лінча». Пост пра суд Лінча выклікаў негатыўны рэзананс у СМІ, якія таксама адзначылі цікавы момант: ніводны з лідараў рэспубліканцаў нацыянальнага ўзроўню не выказаўся негатыўна наконт заклікаў лінчаваць разбуральнікаў манументаў.

У суседняй Алабаме, дзе дэмантаж яшчэ не пачаўся, сярод дэпутатаў паўстала ініцыятыва надаць помнікам генералу Лі і іншым канфедэратам статус аб'ектаў культурнай і гістарычнай спадчыны. Таксама ўзгадваюць, што падчас Грамадзянскай вайны загінула каля 220 тысяч жаўнераў з войска Поўдня, якія, будучы амерыканцамі, таксама заслугоўваюць павагі ў аб'ектах манументальнай культуры.

З улікам росту інтарэсу да праблемы з боку правага палітыкуму нельга выключыць, што тэма помнікаў можа трапіць у павестку іх кандыдатаў на парламенцкіх выбарах, якія пройдуць у шэрагу штатаў у наступным годзе. З іншага боку, спікеры афраамерыканскай камуны не толькі асудзілі акцыі супраць дэмантажу помнікаў, аднак і катэгарычна далі зразумець — ніякага кампрамісу наконт захавання манументаў канфедэратам быць не можа. Для іх помнікі Роберту Лі і яго аднадумцам — увасоблены намёк на тое, што часы няроўнасці грамадзян паводле расавага пахаджэння могуць вярнуцца.

Зараз у Злучаных Штатах засталося прыкладна 200 манументальных аб'ектаў, якія праслаўляюць жаўнераў Канфедэрацыі.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Выхад на другія пазіцыі ў дзяржаве памочніка кіраўніка па нацыянальнай бяспецы Віктара Лукашэнкі, а таксама красавіцкія дамоўленасці лідараў Расіі і Беларусі ў Санкт-Пецярбургу нанеслі сур'ёзны ўдар па прэзідэнцкіх амбіцыях Уладзіміра Макея. У выніку Макей усур'ёз стаў разглядаць варыянт свайго далейшага прызначэння на пасаду кіраўніка беларускай амбасады ў Вашынгтоне. (…) У выпадку яго (Макея) сыходу з пасады кіраўніка МЗС, ведамства можа ўзначаліць Віктар Шэйман, адзіны чалавек з той каманды, з якой Лукашэнка прыйшоў ва ўладу, які застаўся да гэтага часу ў кіраўніцтве краіны.

**«REGNUM» (Расія)**

Чыноўнікі пачалі выконваць патрабаванне кіраўніка Беларусі ссунуць на гадзіну пачатак навучальнага дня ў школах. Гэта рашэнне Лукашэнкі ўжо выклікала шквал крытыкі і насмешак у краіне. Асабістае меркаванне высокапастаўленага чыноўніка ўносіць глупства ва ўсю сістэму адукацыі ўжо не першы раз. Пасля пераносу пачатку навучальнага дня можна чакаць яшчэ што-небудзь арыгінальнае.

**«Deutsche Welle» (Германія)**

Грамадзяне Беларусі, маючы значную колькасць прэтэнзій да Лукашэнкі, усё ж разумеюць, што для іх краіны большай пагрозай, асабліва напярэдадні выбараў 2018 года, з'яўляецца Расійская Федэрацыя. Таму наўрад ці можна чакаць нейкіх актыўных унутрыпалітычных працэсаў менавіта ў гэты перыяд.

**«Главред» (Украіна)**

Беларусь — ідэальны аб'ект для анексіі. З Украінай гэты нумар ужо не праходзіць, бо звязаны з крывавай бойняй, а вось Беларусь можна анексаваць без адзінага стрэлу. Гэтаму спрыяе амаль поўная завязанасць эканомікі Беларусі на Расію. Але самае галоўнае, рэжым праўлення крайнай — вельмі падобны на расійскі. Насельніцтва цалкам лаяльна ставіцца да дыктатуры і дыктатара, а таму замену Лукашэнкі Пуціным успрымуць лёгка і нязмушана.

**«Информационное сопротивление» (Украіна)**

Беларусь — прамежкавая Расія, нейкая бар'ерная краіна з рускамоўным насельніцтвам. Прычым, па складзе і тэмпераменту гэтыя рускамоўныя як бы не расіяне, а, хутчэй, як чэхі — вельмі спакойны, гаспадарлівы, добразычлівы славянскі народ, зусім прыдатны для інтэграцыі ў Еўропу. Гэта значыць, папросту звычайны еўрапейскі народ, як чэхі ці нават палякі. (…) З сыходам Лукашэнкі гэтыя беларусы могуць хутчэй апынуцца ў Еўропе, чым рускія з сыходам Пуціна.

**«Обозреватель» (Украіна)**

Узровень жыцця значна ўзняўся. Тут (у Беларусі) ездзяць на сучасных заходніх машынах, ва ўсіх выдатныя тэлефоны і модныя строі. Беднасці, тым не менш, па-ранейшаму шмат. Адна рэч, аднак, не змянілася. Не варта ісці супраць кіраўніцтва краіны. Калі пойдзеш супраць, то лёгка можаш стаць аб'ектам гвалту або трапіць у турму.

**«Yle» (Фінляндыя)**

Расія ўзяла курс на ўласную вытворчасць усіх магчымых тавараў і паслуг, што ў бліжэйшыя гады створыць складанасці для беларускіх вытворцаў. Зараз беларускі ўрад не мае рэалістычных планаў па скарачэнні расійскага субсідавання, што стварае сур'ёзныя рызыкі для сацыяльнай стабільнасці і суверэнітэту краіны. Гэта значыць, што запыты Мінска на субсідаванне з боку Масквы будуць толькі ўзрастаць, правакуючы тым самым новыя палітычныя крызісы паміж краінамі.

**«Росбалт» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. Чаркесы патрабуюць Кубань

Майкопская грамадская арганізацыя «Чаркескі савет» выступіла з заявай наконт палемікі паміж міністрам інфраструктуры Украіны і губернатарам Краснадарскага краю. Расійскі і ўкраінскі чыноўнікі абмяняліся рэплікамі наконт гістарычнай прыналежнасці Кубані. У Кіеве лічаць, што Кубань — гэта ўкраінская тэрыторыя, паколькі яе каланізавалі запарожскія казакі, якія прыйшлі на Каўказ пасля разбурэння Запарожскай сечы. У Краснадары звяртаюць увагу на тое, што запарожскім казакам Кубань падаравала Кацярына II. Спрэчка не спадабалася чаркесам. «Гэтыя землі не былі пустымі да прыходу сюды царскай Расіі, а належалі Чаркесіі і былі спустошаныя ў выніку генацыду карэннага насельніцтва», — гаворыцца ў дакуменце Чаркескага савета. Акрамя заклiку да губернатара прынесці прабачэнні «шматпакутнаму чаркескаму народу», сябры арганізацыі прапануюць адміністрацыі «прыкласці сілы да барацьбы з фальсіфікацыяй гісторыі Кубані, распарадзіцца наконт дэмантажу помнікаў царскім генералам часоў Руска-Каўказскай вайны». А вось ад Кіева чаркесы патрабуюць падтрымкі вяртання чаркескіх земляў іх законным уладальнікам і дапамогі ў будаўніцтве дэмакратычнай Чаркесіі.

**Паводле расійскай прэсы**

### ЯПОНІЯ. 45 гадоў у падполлі

Масаакі Асака — баявік японскай левырадыкальнай групоўкі «Фракцыя ядра» — у далёкім 1971 годзе ўдзельнічаў у студэнцкай дэманстрацыі, якая вылілася ў масавыя беспарадкі. Следства лічыць, што Асака знаходзіўся ў групе, якая атакавала паліцыю бутэлькамі з бензінам. Падчас атакі менавіта ён кінуў «кактэйль Молатава», які стаў прычынай гібелі аднаго з паліцэйскіх. У 1972 годзе гэты актывіст «Фракцыі ядра» быў абвешчаны ў вышук, аднак знайсці яго ўдалося толькі днямі, прычым, цалкам выпадкова. Асака быў затрыманы падчас дзяжурнага паліцэйскага рэйду. Паколькі сваё імя і прозвішча затрыманы казаць адмовіўся, паліцэйскія ўзялі аналіз ДНК, які засведчыў, што перад імі той самы Масаакі Асака. Цікава, што японскія левырадыкалы 1970-х гадоў, хаця маюць салідны ўзрост, рэгулярна нагадваюць пра сябе, імітуючы тэракты.

**Паводле брытанскай прэсы**

### УКРАІНА. Каты адпомсцяць за Куклачова?



Адным з самых гучных скандалаў за апошні час стала з'яўленне Юрыя Куклачова — славутага расійскага дрэсіроўшчыка катоў — у чорным спісе сайту «Міратворац» (напаўафіцыйны інтэрнэт-рэсурс, на якім збіраюць дасье на ўсіх ворагаў цяперашняга ўкраінскага рэжыму). У «Міратворац» Куклачоў трапіў, як і шматлікія іншыя расейцы, за тое, што наведаў анексаваны Крым, парушыўшы такім чынам закон Украіны. Аднак самае незвычайнае, што разам з Куклачовым у спіс «Міратворца» трапілі каты, якіх на сайце называюць «пухнатая армія». Міма гэтай навіны не прайшла шматмільённая грамада аматараў катоў, якія пабачылі ў апісанай гісторыі замах на сваіх хвастатых гадаванцаў. Найбольш далёка ў гэтым плане пайшла фракцыя катаманаў, якая лічыць катоў інфернальнымі, амаль чароўнымі жывёламі. Калі верыць іх паведамленням у сацсетках, каты не прабачаць Кіеву такі здзек і нейкім чынам абавязкова адпомсцяць.

**Паводле расійскай прэсы**

### АФРЫКА. На кантыненце скасуюць межы?

Група афрыканскіх інтэлектуалаў звярнулася да ўрадаў краін Чорнага кантынента з незвычайным заклікам. Аўтары звароту лічаць неабходным адмяніць межы паміж афрыканскімі дзяржавамі. На іх думку, менавіта кардоны не даюць афрыканцам адчуць сябе афрыканцамі. Справа не толькі ў тым, што існуючыя дзяржаўныя межы ў Афрыцы цалкам штучныя, паколькі маляваліся каланізатарамі ў кабінетах еўрапейскіх сталіц. Сам факт наяўнасці межаў супярэчыць афрыканскай свядомасці, паколькі да прыходу каланізатараў яны ўвогуле не ведалі такой з'явы. Хаця на той момант у Афрыцы і існавалі дзяржавы, не існавала фіксаваных межаў. Панаваў прынцып універсальнай мабільнасці, паводле якога кожны мог ісці куды заўгодна. Як пішуць інтэлектуалы, менавіта праз тое, што межы захаваліся пасля сыходу каланізатараў, афрыканцы адчуваюць сябе не ў сваёй талерцы і не могуць рэалізаваць свой патэнцыял. Праўда, у гэта ініцыятывы ёсць слабае месца. Праз перманентны бюджэтны дэфіцыт большасць афрыканскіх краін не могуць дазволіць сабе ўтрымліваць нармальны памежна-візавы рэжым. Аднак вялізарныя дзіркі на межах і мабільнасць насельніцтва чамусьці не выклікаюць пазітыўнай дынамікі ў грамадстве.

**Паводле французскай прэсы**

# Вялікабрытанія: стаўка на тынэйджараў

*Алег НОВІКАЎ*

**Як трагедыя ў Манчэстэры паўплывае на ход вельмі незвычайнай выбарчай кампаніі ў брытанскі парламент?**




Фота www.mirror.co.uk

Падобна на тое, што Джэрэмі Корбіна (правадыра лейбарыстаў) і Аляксея Навальнага (лідара расійскай апазіцыі) кансультуе адзін і той жа палітычны тэхнолаг. Такая думка міжволі ўзнікае праз тое, што абодва палітыка працуюць па адной формуле — робяць стаўку на моладзь, індыферэнтную да забабонаў і міфаў дарослай генерацыі.

Навальны здолеў стварыць сабе сацыяльную базу за кошт тынэйджараў і падлеткаў, паколькі яны не ўспрымаюць галоўны тэзіс крамлёўскага агітпропу: «Або Пуцін, або вяртанне ў крывавыя 1990-я». Аналагічна робіць Корбін, з той розніцай, што яго малады электарат абыякавы да жахаў наконт магчымага вяртання Англіі ў 1970-я.

Тэзіс пра тое, што Вялікабрытаніі пагражае падарожжа ў мінулае, стаў папулярным пасля публікацыі чарнавіка выбарчага маніфеста лейбарыстаў. Сапраўды, аўтары дакументу абяцаюць зрабіць так, як было 40 гадоў таму, — а дакладней, перад запускам ліберальных рэформаў Маргарэт Тэтчэр у 1980-м. На практыцы гэта будзе азначаць, што лейбарыстам давядзецца нацыяналізаваць чыгунку, вярнуць падатак на абарот капіталу, вярнуцца да прагрэсіўнай стаўкі падаткаабкладання і гэтак далей. Больш за тое, рэпрыватызацыя па законе будзе немагчымая.

Прачытаўшы тэкст маніфесту, абсалютная большасць палітолагаў паставілі на выбарчых перспектывах лейбарыстаў тлусты крыж. Справа не толькі ў тым, што ідэя адраджэння мадэлі сацыяльнай дзяржавы калібру 1970-х падаецца ўтопіяй. Для большасці дарослых брытанцаў тыя гады не выглядаюць парадызам. Сапраўды, сацыялка 40–50 гадоў таму была вельмі моцнай, аднак нельга забывацца на інфляцыю, тэрор, беспарадкі, палітычны хаос, калі праз забастоўкі нават адключалі святло. Нездарма якраз у 1970-я гады да Брытаніі прыляпілася мянушка «самы хворы чалавек Еўропы».

Яшчэ адзін аргумент, каб загадзя запісаць лейбарыстаў у лузеры — успаміны пра вынікі выбараў 1983-га. Тады лейбарысты прапанавалі аналагічную па духу выбарчую праграму. Вынікі галасавання аказаліся для партыі катастрафічнымі, не кажучы пра ўнутраны раскол — напярэдадні з партыі сышла правая фракцыя.

**Моладзь успрымае 1970-я інакш, чым дарослыя. Яны нешта чулі, што тады было несалодка. Аднак негатыў кампенсуецца існуючымі тады сацыяльнымі праграмамі. Карацей, 1970-я — гэта крута**

Як следства, узнік і набыў папулярнасць жарт: выбарчы маніфест–2017 лейбарыстаў увойдзе ў гісторыю як самая славутая перадсмяротная нататка ў гісторыі. Аднак смяяліся з таго жарту нядоўга. Аказалася, што маладыя людзі ўспрымаюць 1970-я абсалютна інакш, чым дарослыя. Яны нешта чулі або вучылі ў школе пра тое, што тады было несалодка. Аднак той негатыў, у разуменні маладых людзей, кампенсуецца існуючай тады бясплатнай адукацыяй і шырокай дзяржаўнай праграмай будаўніцтва сацыяльнага жылля. Адным словам, 1970-я — гэта крута.

Моладзь пачала сімпатызаваць Корбіну аж да таго, што ў яе асяроддзі пачалася, кажучы на слэнгу тынэйджараў, «дзвіжуха». Паводле сацыёлагаў, калі б сёння ў выбарах удзельнічалі толькі выбаршчыкі, якія маладзей за 40 гадоў, лейбарысты мелі б у парламенце большасць.

Яшчэ больш цікава, што энтузіязм моладзі пачаў паступова перадавацца дарослым. У выніку праграму лейбарыстаў, якую яшчэ ўчора лічылі ўтапічнай і нават вар'яцкай, падтрымалі вядучыя прафсаюзныя цэнтры, накшталт Unite. Пры гэтым ніякай ідэалізацыі 1970-х сярод прафсаюзнікаў няма. Існуе толькі думка — барацьбу за сацыяльныя гарантыі больш эфектыўна весці з наступаючых, радыкальных пазіцый, якія выкладзеныя ў маніфесце.

Рэйтынгі лейбарыстаў пачалі расці. На пачатку кампаніі яны адставалі ад кансерватараў амаль на 20 працэнтаў. Сваю ролю згулялі і памылкі кансерватараў. Іх лідар Тэрэза Мэй вельмі расчаравала аўдыторыю сваёй пазіцыяй наконт слабага фінансавання медычнай сістэмы. Не дапамог апанентам лейбарыстаў і кампрамат, які яны паспрабавалі «зліць» на Корбіна. Мусіравалася яго старое інтэрв'ю, у якім ён адмовіўся асудзіць Ірландскую Рэспубліканскую Армію — баявое крыло руху ірландцаў-каталікоў, адказнае за шмат тэрактаў у тыя ж 1970-я.

Напэўна, сваёй кульмінацыі трэнд дасягнуў 22 мая, калі ва Уэльсе — адным з суб'ектаў Аб'яднанага каралеўства, — лейбарысты сталі самай папулярнай партыяй. У той жа дзень некаторыя СМІ дапусцілі варыянт прыходу Корбіна да ўлады. Больш за тое, частка эканамістаў пагадзілася, што аднаўленне сацыяльнай сістэмы 1970-х у цяперашняй Вялікабрытаніі — у прынцыпе не такая ўжо і фантазія.

Менавіта ў гэты час у ноч на 23 мая прагучаў выбух у Манчэстэры. Маштаб трагедыі дазваляе сцвярджаць, што яна дакладна паўплывае на выбарчую кампанію. Пакуль усё выглядае так, што апасродкаванымі ахвярамі тэракту будуць менавіта лейбарысты. Тэракт, мяркуючы па існай інфармацыі, зрабіў радыкальны ісламіст. Між тым, у сваім маніфесце лейбарысты прапануюць прымаць усіх жадаючых «уцекачоў», ніяк не абмяжоўваючы іх колькасць і не «дыскрымінуючы» іх. Як следства, тэмп росту даверу да лейбарыстаў можа стаць больш павольным.

У любым выпадку, відавочна, што 8 чэрвеня лейбарысты набяруць больш, чым на папярэдніх выбарах 2015-га. Гэта азначае, што левая фракцыя Корбіна, хутчэй за ўсё, захавае кантроль над партыяй, якая, у сваю чаргу, будзе прапаноўваць радыкальную альтэрнатыву.

Праўда, пакуль хаваць лейбарыстаў рана. Яшчэ незразумела, як адрэагуе на тэракт у Манчэстэры брытанская «шкалата», якая, як сведчыць досвед, здольная выступаць у ролі сапраўднага палітычнага фактару.

# Не «ВКонтакте» адзіным…

Алег НОВІКАЎ

**Забарона расійскіх сацыяльных сетак ва Украіне стварыла запыт на мясцовыя аналагі ВК і ОК. Аказалася, што такія эксперыменты робяцца не першы год.**




Нават тыя ўкраінцы, хто бачыць у забароне ОК і ВК пазітыў, пагаджаюцца: цалкам паставіць пад кантроль інтэрнэт тэхнічна немагчыма. Украінскія аматары забароненых паблікаў будуць абыходзіць блакіроўку праз розныя сайты-люстэркі, ананімайзеры, проксі, і, дарэчы, ужо актыўна і паспяхова гэта робяць. Больш за тое, узнік небяспечны для ўлады феномен, калі карыстанне забароненымі сеткамі ўспрымаецца абывацелямі як нейкая форма палітычнага пратэсту.

У гэтым плане лагічна, што ў грамадстве паўстала ідэя стварыць папулярную ўкраінскую сацсетку. «Нам патрэбны інтэрнэт-рэсурс, інфармацыю з якога не «зліваюць» расійскім спецслужбам, патрэбная ўласная ўкраінская сацыяльная сетка, магчыма, нават зачыненая для «неўкраінцаў» (ніякай дыскрымінацыі, проста халодны патрыятычны разлік)», — так фармулюе задачу кіеўскае кампутарнае выданне ARTmodernMarketing. З гэтым згодны дэпутат Барыслаў Бяроза, які піша: «Не сеткі ствараюць і фармуюць сэнсы, а людзі. Сеткі забаранілі, а контрпрапагандай хто займацца будзе? Трэба не толькі забараняць, але і даваць нейкую альтэрнатыву».

Узгадваюць, што некаторыя краіны, сапраўды, здолелі больш-менш паспяхова стварыць аналагі знешніх інтэрнэт-рэсурсаў. Перш за ўсё, гэта Кітай, дзе даўно змагаюцца з заходнім уплывам на розумы мясцовых. Сацыяльная сетка Qzone — прадукт інтэрнэт-кампаніі Tencent — з'яўляецца трэцяй сеткай у свеце па колькасці карыстальнікаў. Паводле дадзеных на пачатак 2014 года, у ёй было зарэгістравана 625 мільёнаў чалавек.

І тут раптам высветлілася, што эксперыменты па стварэнні ўкраінскіх сацсетак ідуць даўно. Цяпер такіх праектаў ужо як мінімум пару дзясяткаў: UkrOpen, UKRFACE, Ц.укр і іншыя. Праўда, пакуль іх КПД вельмі сціплы. Рэкардсмен па колькасці карыстальнікаў, калі верыць таму ж ARTmodernMarketing, — WeUA, дзе па стане на чэрвень 2016 года было 153 000 зарэгістраваных карыстальнікаў.

Прычыны такога сумнага становішча растлумачыць няцяжка. Па-першае, украінскія сеткі выйшлі на рынак, калі ўсе нішы там былі даўно занятыя. Па-другое, стваральнікі альтэрнатыў ВК і ОК, як правіла, праграмісты-энтузіясты, якім цяжка адразу зрабіць вельмі якасны прадукт. Таму некаторыя проста капіруюць дызайн таго ж ВК, або нават выкарыстоўваюць яго стары «дзвіжок». Хапае і іншых недахопаў. Тыя ж «Украïнцi» падтрымліваюць выключна тэкст. Як следства, у лепшым выпадку, альтэрнатыўныя расійскім украінскія сацсеткі выглядаюць як таўкатня: карыстальнікі прапануюць нешта набыць, уладкавацца на сезонную працу за мяжой, напісаць курсавыя і гэтак далей.

Некаторым рэсурсам уласцівая занадта моцная ўстаноўка на палітызацыю або вузкую спецыялізацыю. Каб стаць карыстальнікам той жа сеткі «Украïнцi», ад кандыдата акрамя рэгістрацыі патрабуецца нешта накшталт эсэ «Чаму вы лічыце сябе ўкраінцам?». Усё ж такі пісаць эсэ пры рэгістрацыі — гэта занадта. Галоўнай мэтай дзейнасці партала Hurtom абвяшчаецца распаўсюджванне кінафільмаў на ўкраінскай мове, якія карыстальнікі могуць абмяркоўваць на форумах.

Усе гэта дазволіла аднаму з аглядальнікаў існуючых сацыяльных сетак ва Украіне зрабіць сумнае рэзюмэ: «Карыстацца ўкраінскімі сацыяльнымі сеткамі не толькі не зручна, але і проста не хочацца. Сапраўдная паўнавартасная ўкраінская сацыяльная сетка з'явіцца ва Украіне, мяркуючы па ўсім, яшчэ не хутка».

Аднак, магчыма, чакаць давядзецца не так доўга. На мінулым тыдні стала вядома, што канадская кампанія StartupSoft плануе стварыць аналаг «ВКонтакте» для ўкраінцаў. У StartupSoft былі гатовыя ўзяцца за працу, калі колькасць зацікаўленых падпісчыкаў перавысіць 50 тысяч да 1 чэрвеня. Зараз, каб сабраць тую лічбу падпісчыкаў, спатрэбілася ўсяго толькі тры дні. Сцвярджаецца, што сетка Ukrainians будзе распрацавана за чатыры месяцы адразу для трох платформаў — web, iOS і Android.

Праўда, пакуль канчаткова не вельмі зразумела — што такога выбітнага будзе ў Ukrainians, каб сюды з ВК табуном пабеглі падлеткі? Наўрад ці ў Ukrainians будзе дазволена размяшчаць нелегальны кантэнт, што ёсць фішкай рэсурсу «ВКонтакте», які не ў малой ступені папулярны дзякуючы «пірацкай» музыцы.

Аднак галоўная перашкода для поспеху Ukrainians — дасюль не зразумелы канчатковы лёс ВК і ОК ва Украіне. Іх забарону ўжо збіраюцца аспрэчыць у судзе шэраг дэпутатаў, якія спасылаюцца ў тым ліку на заявы вядучых праваабарончых арганізацый накшталт Human Rights Watch або Amnesty International, якія крытыкуюць крок Парашэнкі. Акрамя таго, у інтэрнэце створана каля 50 петыцыйных кампаній супраць крыміналізацыі тых рэсурсаў. Відавочна, што не абыдзецца без позываў і ў еўрапейскія суды.

Але найбольш камічным будзе, калі той жа Пётр Парашэнка сам адменіць сваю пастанову. Некаторыя палітолагі мяркуюць, што гісторыя з забаронай ВК і ОК — прыдуманая піяршчыкамі прэзідэнта шматхадоўка, фінал якой плануецца на час выбарчай кампаніі 2019 года. Тады Пётр Аляксеевіч раптам перагледзіць свае рашэнне, каб стварыць сабе вобраз мудрага палітыка, які здольны прыслухацца да думкі грамадзян.

### Самыя папулярныя сацыяльныя сеткі ва ўкраінскіх СМІ

**Facebook — сацсетка, што найчасцей згадваецца ва ўкраінскіх мас-медыя. Другое месца займае Twitter.**

У гэтым годзе Facebook у розных украінскіх СМІ згадваўся 400 809 разоў. Twitter і «ВКонтакте», што ўваходзяць у першую тройку, згадваліся ў СМІ 144 502 і 70 820 разоў адпаведна.

Менш увагі было нададзена Youtube (49 758), Instagram (35 726), «Одноклассникам» (20 576) и Linkedin (1 342).

Усяго пра папулярныя сацыяльныя сеткі ўкраінскія СМІ ў гэтым годзе згадвалі 723 533 разоў.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Валянціна Матвіенка



Спікер Савета Федэрацыі Расіі назвала магчымым увядзенне заканадаўчай забароны на ўдзел у пратэстных акцыях непаўналетніх грамадзян.

«Перакананая, што непаўналетнія грамадзяне — дзеці, падлеткі — не павінны ўдзельнічаць у падобнага кшталту акцыях, асабліва калі яны несанкцыянаваныя», — перадаюць СМІ словы спікера. На яе думку, на такіх акцыях «дзеці падвяргаюцца рызыцы, пад пагрозай аказваецца іх бяспека». «Гэта несумленна, гэта цынічна, гэта папранне маральных і грамадзянскіх нормаў», — дадае Матвіенка, якая абяцае ініцыяваць закон у бліжэйшы час.

Відавочна, што клопат пра бяспеку дзяцей — толькі адна і, верагодна, не галоўная прычына прыняць такі закон. У пратэстных акцыях, новая хваля якіх пачалася ў Расіі, у канцы сакавіка, прынялі ўдзел шмат непаўналетніх. Гэта выклікае неспакой уладаў, якія прыдумляюць контрзахады — ад пагрозы забіраць дзяцей-маніфестантаў з сем'яў да абяцанняў праблем пры паступленні ў ВНУ.

Забарона на ўдзел непаўналетніх у вулічных палітычных акцыях наўрад ці будзе апошнім мерапрыемствам улады ў гэтай галіне. З восені ў расійскіх школах плануецца ўвесці курс па бяспечных паводзінах у інтэрнэце, адкуль тынэйджары чэрпаюць інфармацыю пра акцыі апазіцыі.

### Педра Санчас



Палітык перамог на праймерыз лідара Іспанскай сацыялістычнай рабочай партыі (PSOE). Дарэчы, Санчас ужо займаў пасаду старшыні партыі, пакуль яго канкурэнты з правай фракцыі ні арганізавалі пераварот. Аднак, як бачым, у выніку статус-кво аднавілася дзякуючы простым партыйцам, якія прагаласавалі за Санчаса.

Перамога Санчаса, на думку іспанскай прэсы, будзе мець глабальныя наступствы не толькі для іспанскай, але і для еўрапейскай палітыкі. Яго поспех замацаваў левы трэнд у еўрапейскай сацыял-дэмакратыі. Акрамя таго, левы крэн PSOE, як непакоіцца мадрыдская прэса, можа прывесці да канфлікту з кансерватыўным урадам, які да перамогі Санчаса сацыялісты падтрымлівалі.

Такі крок можа быць фатальным для лёсу ўсёй Іспаніі. Без падтрымкі з боку PSOE кансерватарам будзе цяжка змагацца супраць каталонскіх сепаратыстаў, якія 22 мая накіравалі ўльтыматум іспанскаму ўраду наконт пачатку перамоў па рэферэндуму аб незалежнасці. Як гаворыцца ў дакуменце, калі бакам не атрымаецца прыйсці да кансенсусу, урад Каталоніі гатовы аддзяліцца ад Іспаніі нават без правядзення плебісцыту.

### Рамуш Харадзінай



Былы палявы камандзір Вызваленчай Арміі Косава (ОАК) і экс-прэм'ер вярнуўся на радзіму пасля чатырох месяцаў пад хатнім арыштам у Францыі. Абвінавачванне ў ваенных злачынствах супраць яго высунула Сербія. Цяпер палітык марыць стаць косаўскім прэм'ерам.

У сувязі з выбарамі Харадзінай пазнаёміў мясцовую грамадскасць са сваёй праграмай, змест якой выклікаў шок ва ўсіх балканскіх сталіцах. Харадзінай абяцае на працягу 90 дзён пасля фармавання свайго ўрада стварыць косаўскай армію, што забаронена цяперашняй канстытуцыяй. Акрамя таго, Харадзінай закрануў пытанне дэмаркацыі межаў з Чарнагорыяй, падкрэсліўшы, што «пра бягучую версію размежавання не можа быць і гаворкі». Таксама палітык паабяцаў несалодкае жыццё сербскай суполцы ў Косаўскім краі.

Відавочна, што рэалізацыя хаця б аднаго з гэтых пунктаў узварушыць Балканы, дзе і так стабільнасць трымаецца на валаску: нядаўна абвастрылася сітуацыя ў Македоніі, працягваецца крызіс у Албаніі, і гэтак далей. У сувязі з гэтым рэгіянальныя лідары заклікалі Еўрасаюз тэрмінова актывізаваць сваю косаўскую палітыку. Ці атрымаецца нешта ў ЕС, невядома, паколькі менавіта партыя былога палявога камандзіра з'яўляецца фаварытам выбараў, прызначаных на 11 чэрвеня. Цяжкасці ЕС на Балканах могуць падштурхнуць Анкару пачаць у рэгіёне сваю гульню.

# «Той доўг шмат хто

Наталля ГАРДЗІЕНКА

**Аднаму з найбольш вядомых беларускіх эмігрантаў, грамадскаму дзеячу, аўтару кнігі «Беларусы ў ЗША», доктару Вітаўту Кіпелю 30 мая спаўняецца 90 гадоў.**



Вітаўт Кіпель. Пачатак 1990-х гадоў



— 2 —

Lieu et date de naissance / Geboorteplaats en datum: Wilejka 1-7-1927

Profession / Beroep: étudiant

Résidence actuelle / Tegenwoordige verblijfplaats: Louvain 1 9, Place Hoover,

* Nom (avant le mariage) et prénom(s) de l'épouse / * Naam (vóór het huwelijk) en voorna(am)(men) van echtgenote: Célibataire.

* Nom et prénom(s) du mari / * Naam en voorna(am)(men) van echtgenoot

SIGNALEMENT — PERSOONSBESCHRIJVING

Taille / Gestalte: 1m70.

Cheveux / Haar: brun.

Couleur des yeux / Kleur van de ogen: bleu.

Nez / Neus: ordinaire.

Forme du visage / Gelaatsvorm: ovale.

Teint / Gelaatskleur: —

Signes particuliers / Bijzondere kentekenen

Enfants accompagnant le titulaire: / Kinderen die de houder vergezellen:

Nom / Naam — Prénom(s) / Voorna(am)(men) — Lieu et date de naissance / Geboorteplaats en datum — Sexe / Geslacht

* Biffer la mention inutile.
* Het overbodige doorhalen.

Ce titre contient 34 pages, non compris la couverture.
Dit document bevat 34 bladzijden, de omslag niet inbegrepen.

— 3 —

Photographie du titulaire et cachet de l'autorité qui délivre le titre.
Foto van de houder en stempel van de autoriteit die het document aflevert.

GOUVERNEMENT PROVINCIAL DU BRABANT - BUREAU DES PASSEPORTS

Empreintes digitales du titulaire (facultatif).
Vingerafdrukken van de houder (niet vereist).

Signature du titulaire: / Handtekening van de houder: V. Kipiel.

Ce titre contient 34 pages, non compris la couverture.
Dit document bevat 34 bladzijden, de omslag niet inbegrepen.

Бельгійскі падарожны дакумент (замежны пашпарт) Вітаўта Кіпеля. 1955 год

Напярэдадні я вырашыла распытаць юбіляра пра яго студэнцкія гады, і наогул пра беларускае студэнцтва ў Бельгіі 1950-х. Праз Лювенскі ўніверсітэт прайшлі дзясяткі эміграцыйных дзеячаў, якія пазней жылі ў розных краінах. У тым ліку і Вітаўт Кіпель да яго жонка Зора. Пачаткі самастойнага жыцця, навука, грамадская дзейнасць, каханне — усё, чым поўнілася студэнцкае жыццё, стала прадметам нашай гутаркі.

***— Я ўпершыню даведалася пра тое, што ў Бельгіі былі беларускія студэнты з кнігі Барыса Рагулі «Беларускае студэнцтва на чужыне». Але сёння з досведу вывучэння эміграцыі бачна, што тая праца была даволі фрагментарная: розныя людзі, асобныя нарысы-згадкі. Што б вы дадалі да тых успамінаў са студэнцкіх часоў?***

— Вы правільна сказалі, што яна фрагментарная. Ахапіць беларускае студэнцтва трэба шырэй. Было каля 50 універсітэтаў у Нямеччыне, Бельгіі, Францыі, дзе былі беларускія студэнты. Прыкладам, ведаю пра двух студэнтаў у Страсбургу, а яны нідзе не ўспомненыя. І гэта першае з таго, што варта дадаць — пашырыць геаграфію. Другое — калі ідзе гутарка менавіта пра Лювен, то я б дадаў тое, што грамада студэнцкая падбіралася выпадкова. За маіх часоў было ў тым універсітэце каля 60 беларускіх студэнтаў, але ў нацыянальным рэчышчы з іх засталося хіба два дзясяткі. І гэта непрыемна, бо на іх траціліся грошы, энергія, а гэтыя людзі ўрэшце пайшлі ад беларусаў зусім, атрымалі сваё і сышлі. Тое самае было і ў міжваеннай Празе. Той знакаміты «доўг», пра які казаў калісьці Ластоўскі, шмат хто не хацеў сплачваць.

У кнізе пра беларускае студэнцтва мала згадвалася інтэрнацыянальнае жыццё моладзі. Беларускія студэнты хадзілі на шмат якія вечарынкі, літаратурныя вечары, ушанаванні таго ці іншага дзеяча. Прыкладам, я пару разоў быў у мадзьяраў, яны ўшаноўвалі свайго паэта Шандара Пецёфі...

Наогул лічу, што беларускае студэнцтва за межамі Беларусі — гэта тэма, якая павінна быць некалі грунтоўна вывучаная. Пачынаючы ад Вялікага Княства Літоўскага студэнты вучыліся ў замежжы, пазней нават у Амерыку сталі прыязджаць на стыпендыі. Але гэта пакуль мала даследавана. Думаю, наступнае пакаленне гэтым зоймецца.



Беларускі студэнцкі дом у Лювене. Пачатак 1950-х гадоў

## «Беларускі студэнцкі дом меў свой рэгулямін»

***— Давайце вернемся ў паваенны Лювен. Што ўяўляла сабою штодзённае жыццё беларускага студэнта? Дзе студэнты жылі? Чым займаліся?***

— Жыццё беларускага студэнта было і вельмі індывідуальнае, і грамадскае. Што значыць індывідуальнае? Вось было, скажам, пяцьдзясят студэнтаў больш-менш на 15 факультэтах. На кожным факультэце свае вымогі. І першае, чым студэнт кіраваўся, — задаволіць універсітэцкія патрабаванні. Прыкладам, былі факультэты кшталту фізічнага выхавання, дзе быў Цімох Вострыкаў. У іх усе заняткі пачыналіся а 6-й гадзіне раніцы. То ён выходзіў з Беларускага дому каля 5-й гадзіны. Аўтамабіляў жа ў нас не было, а некаторыя інстытуты былі за горадам. Так што ўсё было індывідуальна.

Беларускі студэнцкі дом меў свой распарадак, свой рэгулямін: сняданак у такі час, абед у такой гадзіне, вячэра ў такой гадзіне. Але студэнт жыў сваім жыццём. З аднаго інстытуту зайсці ў Беларускі студэнцкі дом паесці і потым ісці ў іншы было часам немагчыма. То студэнт еў недзе ў горадзе паводле сваіх уласных планаў. Гэта адно што да індывідуальнасці студэнцкага жыцця.

Грамадская частка была іншая. Існаваў студэнцкі хор, якім кіраваў кампазітар Мікола Равенскі. У гэтым хоры былі літаральна ўсе, хто меў голас. Кожны мусіў спяваць. Гэта быў абавязак. І спадар Рагуля, і іншыя людзі з кіраўніцтва студэнцкім жыццём, казалі новым студэнтам, што ёсць хор, і ты абавязаны спяваць. І кожны студэнт ведаў, што пяць дзён на тыдзень адбываюцца спеўкі: у панядзелак — басы, у аўторак — барытоны, у сераду — тэнары, ці наадварот, у пятніцу — агульная спеўка. І свой расклад кожны студэнт дапасоўваў да гэтага, бо ўдзел у хоры быў нагэтулькі вымагальны, што калі б вы прапускалі спеўкі, то гэта пайшло б да ўправы Студэнцкага згуртавання, а там скажуць, што не дадуць стыпендыю. Рэальна такіх выпадкаў не было, існавала цвёрдая дысцыпліна. Хор — гэта было важна.

Другі грамадскі момант быў — праца з беларускімі эмігрантамі ў Саюзе беларусаў Бельгіі. Гэта была іншая арганізацыя. Я ў ёй чатыры гады быў заступнікам старшыні (хацелі зрабіць старшынёй, але я не мог дзеля занятасці ва ўніверсітэце, таму пакідалі айца Аўгена Смаршчка). Калі мы планавалі нейкія мерапрыемствы Саюза, рабілі гэта заўсёды наперад, бо студэнт мусіў прачытаць даклад ці нешта іншае зрабіць, то меўся падрыхтавацца. І гэта выконвалася. Такім чынам, у студэнта была свабода поўная ў дачыненні да ўніверсітэта, але грамадскія вымогі былі абавязковыя: на першым месцы хор, на другім — праца ў Саюзе беларусаў Бельгіі.

Прычым трэба ўлічваць, што хор быў не толькі свецкі, але і царкоўны. Я не быў такі царкоўнік, але амаль кожны тыдзень адбываліся праваслаўныя службы, дзе павінен быў спяваць хор, так што студэнты мусілі браць удзел і ў царкоўным жыцці.

## «Студэнты алкаголь не пілі, ён быў дарагі»

***— Студэнты не толькі вучыліся ці спявалі ў хоры. Як яны бавілі вольны час?***

— Перш за ўсё, хадзілі ў кіно. Было сем кінатэатраў, кожны тыдзень мяняўся фільм. Фільмы былі на 80 адсоткаў амерыканскія. Але былі і італьянскія, і французскія. Па-другое, быў тэатр, мы з Зорай ездзілі ў Брусэль на новыя пастаноўкі вядомых артыстаў ці на вядомыя п'есы. Безумоўна, таксама студэнты хадзілі ў бары. У бары хадзілі не гэтулькі, каб выпіць, хоць, безумоўна, выпівалі і піва, і добра выпівалі. Студэнты алкаголь не пілі, ён быў дарагі. Кубак піва каштаваў 5 франкаў, літар гарэлкі — 32 франкі, студэнт на месяц атрымоўваў 200. То ён гарэлку ніколі не купляў, нават у складчыну. Студэнты пілі піва, і розных аказіяў хапала.

Але ў барах тады былі яшчэ більярды і розныя аўтаматычныя гульні, і гэта захапляла студэнтаў, яны па дзве-тры гадзіны гуляліся. Таксама ў пачатку 1950-х у барах з'явіліся тэлевізары, дзе транслявалі футбольныя матчы. Ну то ўжо амаль усе студэнты на гэта хадзілі.

Ну вось — кіно, тэатр, бар. А я яшчэ ў бібліятэку заходзіў, там былі стэнды, дзе навінкі літаратуры, то раз на тыдзень зойдзеш паглядзіш, што там новага — кніга ці часопіс. Але гэта не ўсе такія былі. Ну і, безумоўна, былі такога інтэрнацыянальнага парадку мерапрыемствы. Быў інтэрнацыянальны студэнцкі



Беларускія студэнты і студэнткі Лювена на адпачынку. Пачатак 1950-х гадоў



Кампазітар Мікола Равенскі (другі злева) і беларускія студэнты Лювена. Пачатак 1950-х гадоў



Беларускія студэнты і студэнткі Лювена на адпачынку. Пачатак 1950-х гадоў

# не сплаціў»

дом, дзе кожны вечар нейкія даклады рабіліся. Не толькі ў беларускім доме, але і ва ўкраінскім, і ў рускім, то студэнты хадзілі на такія зборкі. І таксама шмат хто падпрацоўваў. У тым ліку і я. Трэба было выкраіць пару гадзін ці пару дзён, каб недзе пад'ехаць падзарабіць, бо грошай было мала.

*— А дзе і як падпрацоўвалі?*

— Зараблялі па-рознаму. Былі фабрыкі, якія наймалі людзей на розную падзёншчыну. Былі сады... Уздоўж рэчкі Мёс быў многа яблычных садоў, іх трэба было падразаць, матыкаваць. На фарму часам ездзіў. Багата сельскагаспадарчых працаў было. Некаторыя студэнты ў шахтах працавалі. Пару студэнтаў былі кантралёрамі ў нейкіх музычных тэатрах. Наогул, шукалі розныя працы, дзе можна было пагадзінна зарабіць. І працы былі не толькі ў Лювене. Лювен — малы гарадок. Больш працы было ў Брусэлі — гэта 25–30 хвілін трэба было ехаць аўтобусам ці трамваем. Таксама праца была ў Льежы, але гэта ўжо даўжэй, калі на дзень-два выязджаеш. Так што на заробкі найчасцей ехалі па-за Лювен.

## «З бельгійкамі больш жаніліся, чым з немкамі»

*— Ці хадзілі студэнты на танцы?*

— Так, танцы былі. У Лювене была адна такая грамадская заля, яна звалася «Лідо», існавала мо ўжо 200 гадоў, усё ў ёй было з дрэва. У суботу і нядзелю там былі танцы, цэлы Лювен прыходзіў. І нашыя таксама туды ішлі. Былі танцоры, такія, як Васіль Шчэцька ці Міхась Жылік, амаль прафесійныя, вельмі рыхтаваліся на гэтыя танцы, надзявалі касцюмы і гальштукі. Гэта была чыста бельгійская з'ява. Бо пасляваенныя танцы і музыкі было мала. Але ў той танцавальны клуб і нашыя студэнты хадзілі. Няшмат, мо з дзясятак такіх «танцораў» было. Шчэцька нават за танцы аднойчы ўзяў нейкі прыз.

*— А што тады танчылі? Якія танцы?*

— Танга, факстрот, вальс. Тады яшчэ нейкае такое паўднёваамерыканскае пачыналася. Факстрот тады быў новы і захопліваў, а скора бугі-вугі прыйдзе. У гэты бок ішло. Тады ўжо вальс і танга неяк менш былі, хіба два разы на вечар зайграюць. Больш было амерыканскага. Для нас гэта было новае.

*— Вы са спадарыняй Зорай часта хадзілі на танцы?*

— Ні разу (смяецца).

*— Чаму?*

— Зора любіла танцаваць і вельмі любіла полькі. А я наогул надта не танцаваў. А ў тым клубе польку хіба раз за вечар зайграюць. То Зора казала, што не можа ісці на гэтае «крыўлянне», гэтак яна называла новыя танцы. Так што на танцы мы не хадзілі. Адзін раз я хіба зайшоў туды ў клуб, мяне Міхась Жылік уцягнуў, яму адна дзяўчына падабалася, то прасіў мяне паглядзець на яе. Я і зайшоў, а больш пра клуб ведаю ад іншых.

Але, з другога боку, што я вам скажу, танцы давалі магчымасць хлопцам знаёміцца з дзяўчатамі. Прыкладам, у Нью-Ёрку ёсць такі Анатоль Занковіч і ў яго жонка Тыльда. Дык, мне здаецца, яны пазнаёміліся якраз на гэтых танцах, ажаніліся і жывуць добра ўжо 60 гадоў. І Васіль Шчэцька хіба... У яго першая жонка таксама была бельгійка, вельмі салідная такая, прыемная жанчына... Зразумела, не толькі праз танцы, але шмат хто: Арэшка, Жучка, Шчэцька, Занковіч, Галоўка, Лазанаў, Лазоўскі... — пару дзясяткаў нашых студэнтаў ажаніліся з бельгійкамі. Некаторыя выехалі, некаторыя засталіся тамака.

Беларускім хлопцам не было надта лёгка, бо свае дзяўчаты былі, але трэба ездзіць, шукаць, а студэнтак-беларусак мала. Так што гэта быў натуральны працэс збліжэння. І ў бок бельгійскі больш пайшло, чым, прыкладам, у бок нямецкі. З бельгійкамі больш жаніліся, чым з немкамі. Бельгійкі больш былі настроены па-нашанскаму. Я думаю, выпадкова не сталася, што і Вострыкаў не жаніўся. Была такая Рыта Лянгенбрыз, вельмі закаханая ў яго. Але Вострыкаў махнуў рукою і на навуку, і на Рыту, і паляцеў у Беларусь. Але там было каханне вялікае. Рыта — дачка доктара і потым сама дактарат зрабіла. Яна вельмі плакала, як Цімох раптам знік. Яна з Зорай вельмі сябравала і аднаго дня кажа: «Міхаіл прапаў» (ён па дакументах быў Міхась). Мы з Зорай ведалі пра намер Вострыкава, але не маглі ёй сказаць. А тая плача: «Прапаў, трэба ў паліцыю ісці». А мы кажам: «Не, не ідзі ў паліцыю».

## «Кожны ведаў, што савецкая ўлада — гэта не проста так»

*— То вы ведалі і пра Вострыкава, і пра Філістовіча?*

— Пра Вострыкава я ведаў дакладна, бо блізка з ім сябраваў. Вострыкаў, калі вырашыў ехаць, ён сказаў мне, Юрку Сенькоўскаму. Мы былі ў манастыры тады, гэта было лета 1951 года, здаецца. Ён сказаў, што кідае навуку, што ён у кантакце з некаторымі коламі, і што можа паедзе на Беларусь. Тая гутарка была намёкамі, не наўпрост, бо, безумоўна, у яго была нейкая прысяга складзеная. Потым ён на нейкі час знік, тады вярнуўся, зноў прапаў і вярнуўся. Перад адсылкай, за пару тыдняў, ён правёў з намі разам з Зорай навагоднюю ноч 1952 года. І тады нам сказаў, што хутка адлятае.

З Філістовічам я быў досыць далёка. Ніякіх такіх гутарак блізкіх з ім не было. Філістовіч сам сабе трохі напалеонаўскія замашкі меў. А Вострыкаў быў мой і Янкі Запрудніка блізкі сябра.

*— Вы не адгаворвалі яго ляцець?*

— Не. Ведаеце, настрой быў такі, што чалавек прымаў рашэнні сам. Кожны ведаў, што савецкая ўлада — гэта не проста так. Некаторыя думалі, маўляў, навошта мне там класці галаву, а іншыя мелі такі пункцік помсты. Вось Кальніцкі, другі такі Міхась, у яго была помста. Ён ірваўся ў Беларусь. Іх раскулачылі, у яго такое цяжкое дзяцінства было, ён быў у паліцыі і пасля вайны проста шукаў магчымасці вярнуцца. Ён быў старшыня Саюзу беларусаў Бельгіі ў Льежы. Казаў, што шкадуе, што не застаўся. Антысавецкае пачуццё ім кіравала. І ніхто нікога не адгаворваў. З Вострыкавым гэта абсалютна ідэйнае было. Але ні прымусу, ні адгаворак не было. Былі там і іншыя кандыдаты, ішлі гутаркі, што хутка пачнецца новая вайна, нейкія колы раздзьмувалі гэта. Але, з другога боку, мы бачылі, што эканоміка развівалася на рэйках нармальнага сужыцця і на вайну не выглядала. Так што ўсе тыя дэсанты, яно хоць і не зусім донкіхоцтва, але можна было прадказваць, што тое змаганне будзе марнае. У мяне былі пару знаёмых студэнтаў расейскіх, якія таксама паехалі на радзіму і якіх пастралялі пазней...



Вясельны здымак Вітаўта і Зоры Кіпеляў. Пасейк (ЗША), 25 лютага 1956 года



Вітаўт Кіпель з асістэнтам у лабараторыі мінералогіі і аналітычнай хіміі Лювенскага ўніверсітэта. 1954 год

## «Звычайна запрашалі на Каляды ці на Вялікдзень у сям'ю»

*— Калі вярнуцца да Лювену і студэнцкіх пар, якія ўтвараліся ў той час: і беларускія, і інтэрнацыянальныя. Як студэнты знаёміліся, заляцаліся?*

— Знаёмствы адбываліся розныя. Прыкладам, Янка Жучка, ён інжынер быў і пачаў падпрацоўваць у адным інжынерным часопісе, нейкія тэхнічныя рэчы правяраць. А яна была настаўніцай і тое самае прыходзіла рабіць. Так і пазнаёміліся. Беларускія пары пераважна прыехалі ў Лювен ужо афармленыя. Мы з Зорай ехалі і ведалі, што адбудзем чатыры гады, а потым ажэнімся. З другога боку, прыкладам, айцец Смаршчок прыехаў у Бельгію яшчэ не жанаты, ажаніўся з беларускай будучы ўжо ў Лювене (святару трэба ж ажаніцца). Але як яны пазнаёміліся, я не ведаю.

У Бельгіі было шмат беларускіх работнікаў. У Саюзе беларусаў Бельгіі зарэгістраваных можа сотні чатыры-пяць. А калі памножыце на сем'і, ды яшчэ тыя, што былі незарэгістраваныя, то, думаю, тысячы паўтары-дзве было беларусаў-шахцёраў у гэтай краіне. Усе з сем'ямі, ва ўсіх дочкі былі. І некаторыя хлопцы з імі сыходзіліся. Вось Тодар Цімафейчык закахаўся, але потым нейкую другую ўзяў. Хлопцы ездзілі да тых шахцёраў-беларусаў, бо звычайна запрашалі на Каляды ці на Вялікдзень у сям'ю. У чужой краіне студэнту ў святочныя дні маральна цяжка, бо горад пусты. Два дні таму было 10 тысяч студэнтаў, усе бары былі поўныя, а тут і бары зачыненыя, і сталоўкі зачыненыя — усе раз'ехаліся да бацькоў. А ты ходзіш сам. Калі з дзяўчынай, як мы з Зорай, то паедзем туды ці сюды. А як сам адзін... І таму работнікі вельмі часта запрашалі студэнтаў да сябе — прыязджайце на Каляды ці на Вялікдзень, ці на хрэсьбіны, ці яшчэ на што. Гэтак кантакты наладжваліся, і некаторыя жаніліся ў такі спосаб.



Беларускі студэнцкі хор з Лювена выступае ў Лондане. Сакавік 1954 года

***

Студэнцкія гады шмат даюць чалавеку: сяброў, часта — каханне, прафесійныя веды, досвед самастойнага жыцця. У сваіх успамінах Вітаўт Кіпель кажа: «Атрыманьне вышэйшай асьветы чужынцам без грамадзянства — падзея неардынарная. Таму я застаюся пажыцьцёва ўдзячны Каталіцкаму Ўнівэрсытэту ў Лювэне за — хай сабе гэты выраз і банальны — «пуцёўку ў жыцьцё».

Гэтаксама мы — беларусы з бэльгійскім дасьведчаньнем — удзячныя гэтай краіне за гасьціннасьць і дапамогу ў патрэбны час. Калі гаварыць вузей, я атрымаў таксама выдатнае дасьведчаньне з працы з шырокім беларускім грамадзтвам — студэнтамі і работнікамі Саюзу Беларусаў Бэльгіі».

Беларускі Лювен можна параўнаць з міжваеннай беларускай Прагай, якая дала «пуцёўку ў жыццё» дзясяткам выбітных беларусаў. Спадзяюся, багатая і разнастайная, часам авантурная, часам трагічная ці, наадварот, камічная, гісторыя беларускага студэнцтва ў Еўропе, стане некалі прадметам увагі не толькі навукоўцаў-эміграцыязнаўцаў, але і пісьменнікаў, мастакоў, музыкаў, кінарэжысёраў.

**Фота з архіву Вітаўта Кіпеля**

# Навошта традыцыйны строй сучаснай жанчыне?



Алена ЛЯШКЕВІЧ

**Некалькі майстрых, што ўласнаруч пашылі беларускі традыцыйны строй (а некаторыя нават не адзін), распавялі, як і навошта яны гэта рабілі і куды апранаюць традыцыйныя строі.**

**Вольга Старавойтава, інжынер-праграміст:**



— У мяне зараз старадарожскі строй, планую пашыць яшчэ бярозаўскі. Я вырасла ў Бярозе, там ёсць дом рамёстваў, які займаецца ў тым ліку рэканструкцыяй строяў. Хачу туды з'ездзіць, паглядзець, памацаць, выбраць сабе нешта.

— Праблема ў тым, што бярозаўскі строй збольшага ўпрыгожвалі не вышываным, а тканым арнаментам, яго складаней аднавіць. А старадарожскі пашыла, каб навучыцца розным тэхнікам аздаблення: там выкарыстоўваюцца шмат якія дэкаратыўныя і злучальныя швы, розныя прыёмы вышыўкі, мярэжкі. Хацела проста пашыць строй для сябе, цікавы быў сам працэс. Пабачыла набор на заняткі ў Студэнцкае этнаграфічнае таварыства — і прыйшла. Выкладчыца, Наста Глушко, мне і прапанавала пашыць старадарожскі строй. А так у мяне ў Старых Дарогах няма ніякіх каранёў. Толькі калісьці ў студэнцкія гады была там на сельгаспрацах.

Мая асноўная праца ніяк не звязаная з рукадзеллем. У якасці хобі займаюся арганізацыяй выстаў котак, і неяк падумала: хачу адкрыць чарговую выставу ў нацыянальным строі! Нават меркавала, шыючы, што апрану яго толькі аднойчы. А потым дзяўчаты з СЭТ сталі мяне запрашаць на фестывалі ды святы: «Вясновы букет», «Этнастыль», Зялёныя святкі, Купалле, Гуканне вясны…

Пашыўшы адзін строй, патроху стала разбірацца ў рэгіянальных адрозненнях беларускага традыцыйнага адзення, хочацца вучыцца далей, даведвацца нешта новае.



**Вольга Лыскавец, стыль-рэдактарка:**



— У мяне капыльска-клецкі строй, я шыла яго на гуртку Студэнцкага этнаграфічнага таварыства, у Наталлі Ярмалінскай. Пачала пазамінулай восенню. Люблю нешта рабіць рукамі. Калі прыйшла на гурток, пакапаліся ў маім радаводзе, высветлілі, што продкі з Нясвіжа. Для гэтага раёна характэрны строй, які Міхась Раманюк назваў капыльска-клецкім. Яго асаблівасці — андарак у кратачку, сіні гарсэцік і рукавы з фальбонамі, шырокай вышыўкай па версе з ромбамі і касічкамі. Узоры брала з кнігі «Беларускі народны касцюм» Вольгі Лабачэўскай і Зінаіды Зіміной. Штосьці дадалі, штосьці прыдумалі трошку, штосьці скамбінавалі — і вось атрымалася.

З натуральнымі ваўнянымі тканінамі праблемы, але яны ёсць, варта шукаць. Гузікі купіла звычайныя чырвоныя. Адны каралі ў мяне бабуліны, можа, нават прабабуліны, другія прыдбала на нейкай выставе.

Строй апранаю на святы, СЭТ іх ладзіць шмат: Юр'я, Каляды, Купалле… На кірмашы, прэзентацыі. Летась хадзіла ў гэтым строі на сярэднявечны фестываль, страляла з лучнікамі. Не было іншага адзення. Пусцілі: страляеш, — страляй. А касцюм… Абы не ў джынсах. Увосень планую зноў пайсці на гурток, пашыць строй якога-небудзь рэгіёна, які мала хто ў СЭТ носіць. Штo-небудзь рэдкае, складанае. Можа, Гомельшчыну, Няглюбку — там шмат прыгожай вышыўкі белым па белым.

**Вольга Асташэўская, лагапед:**

— Я спачатку займалася традыцыйнымі танцамі, хадзіла на вечарыны ў кавярню «Жар-птушка» ў парку Горкага. Потым стала спяваць, і напрыканцы вырашыла шыць строй. Кашуля маладзечанская, мне спадабаўся каўнер з багатай вышыўкай і каўнярэц фальбонай. Узор мне дапамагла «зняць» з музейнай кашулі Вольга Дзядовік. Мае продкі па матулінай лініі не з Маладзечна, з Навагрудка, але гэта адносна недалёка.

Фартух у мяне са старадарожскім узорам, я яго пабачыла ў кнізе Вольгі Лабачэўскай і Зінаіды Зіміной «Беларускі народны касцюм», ён там ужо «раскладзены» для вышыўкі. Малюнак мне проста спадабаўся, і я яго вышыла. Карункі на фартуху крамныя. Спадніца ў кратку — такія насілі па ўсёй Беларусі. Пояс ткала таксама сама, узор з Навагрудскага раёна, з маіх мясцін.



Я вучылася ў Насты Глушко, таксама мне давала кансультацыі Вольга Дзядовік, дапамагала Антаніна Малама. Ну, і сама вучылася, вышывала. Тканіну набывала ў краме «Лянок», ніткі ў буйных крамах можна купіць, падабраць адпаведнае адценне чырвонага. Усё прадаецца, нічога не трэба адмыслова шукаць. Прыходзіце, купляеце — і садзіцеся вышываць. Галоўнае — пачаць. Я сваю кашулю рабіла год, таму што вельмі шмат вышыўкі. І гэта яшчэ не самае багатае аздабленне, напрыклад, у кобрынскіх кашуль рукавы цалкам чырвоныя. Таму — няма межаў дасканаласці!

Строю два гады, нашу яго на выступы (я спяваю ў гурце «Guda»), на розныя імпрэзы: паўсюль, дзе можна, апранаю. Да гэтага яшчэ вышывала «пробную» кашулю — узор сама прыдумала, наглядзеўшыся аўтэнтыкі з розных рэгіёнаў. Зараз працягваю вучыцца ткаць паясы.

**Таццяна Цітова, бухгалтарка, па адукацыі настаўніца:**

— Я захаплялася беларускай культурай, неяк трапіла на фальклорны фестываль «Камяніца» ў Музеі народнай архітэктуры і побыту. Страшэнна спадабалася. На наступны год звазіла на «Камяніцу» маму і цётку. Калі яны пабачылі там моладзь у традыцыйных строях, то нават заплакалі, што такія прыгожыя, так прыстойна сябе паводзяць, размаўляюць па-беларуску, таньчаць. Тады я дала матулі слова, што пашыю строй і на наступную «Камяніцу» прыеду ўжо ў ім.

Мае матуля і цётка нарадзіліся ў вёсцы Вяляцічы на Барысаўшчыне. Гэта памежжа трох раёнаў: Бярэзінскага, Крупскага і Барысаўскага. Не было каму дапамагчы, бацька загінуў на вайне, жыць было складана, давялося з'ехаць у горад. Гэта было няпроста: пашпартоў вяскоўцам не давалі. Давялося сказаць старшыні калгаса аб намеры ехаць падымаць Цаліну, тады ён выдаў пашпарт. Але апынуліся ў выніку мае маці з цёткай у Мінску. Даўно паехалі, але карані засталіся, таму мне хацелася пашыць строй сваёй малой радзімы. Ён атрымаўся барысаўска-бярэзінскім, каб аднавіць увесь камплект адзення не хапала ўзораў з Барысаўскага раёна.



Рыхтуючыся да пашыву, я набыла шмат літаратуры, распытвала, канечне, і маці з цёткай, што насілі падчас іх маладосці. Андаракі ў нас зваліся «плуценкі». Калі я набыла ваўняную тканіну і прынесла дамоў, маці сказала, што ткалі менавіта ў такіх колерах. Стала думаць, як пашыць кашулю, і аказалася, што ў Барысаўскім раёне перад вайной ужо ніхто не насіў вышываных рэчаў. У бабулі была звычайная белая кашуля з крамнай тканіны. А на яе надзявалася кофта.

Узоры для кашулі шукала ў Барысаўскім краязнаўчым музеі, у Музеі старажытнабеларускай культуры Акадэміі навук. У апошнім дапамаглі фотаздымкамі. Па фрагментах узораў з Бярэзінскага раёна намалявала нешта сваё. А потым мне дапамагла матэрыяламі яшчэ Галіна Рудніцкая, у якой я вучылася вышыўцы ў Мінскім абласным цэнтры народнай творчасці. Гарсэт шыла на гуртку Наталлі Ярмалінскай. Пояс ткала сама. Хустку я павязваю так, як у нас рабілі даўней, «бабачкай»: паверх рога, што звісае ззаду, завязваюцца тыя, што з бакоў.

Я не саромеюся хадзіць у строі па вуліцы. Калі еду на фестываль, то не пераапранаюся, так і выязджаю з дому «пры поўным парадзе». Мне здаецца, нашы людзі не павінны здзіўляцца, што ідзе жанчына ў нацыянальным строі. Я калісьці была ў Севільі, і мяне вельмі ўразіла, што ў святочны дзень тамашнія жыхары ўсе апранаюць традыцыйныя строі ды ідуць у іх проста гуляць па горадзе. Хай бы так і ў нас калі-небудзь было.

**Фота Алены Ляшкевіч**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/190 ад 30.04.2004. Замова № 496

Падпісана да друку 26.05.2017. 8.00. Наклад 3000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.